# Шлях Коопэрацыі






## БЮЛЕТЭНЬ

**КООПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР БЕЛСЕЛЬБАНКУ І УСЕКОБАНКУ**






**№ 11 (71)**

**ВЕРАСЕНЬ**

**МЕНСК 1928**

# ЗЬМЕСТ



## Практыка нашае працы



## На мясцох



## Каапэрацыя за мяжою



## Афіцыйны аддзел

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ



ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КООПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ



№ 11 (71)
ВЕРАСЕНЬ




МЕНСК 1928 г.

# Спажыўкаапэрацыя ў хлебазагатоўках

Усім вядомы тыя вялізарныя цяжкасьці ў справе забесьпячэньня хлебам рабочага насельніцтва гарадоў і бядняцкага насельніцтва вёскі, якія перажывала наша Беларусь у вясеньня-летні пэрыод.

Вядома, што цяжкасьці гэтыя былі выкліканы як памяншэньнем завозу да нас хлеба ў зьвязку з агульнасаюзным крызысам загатовак, так і невыстарчальнай спрытнасьцю і гнуткасьцю нашага апарату па разьмеркаваньні і выпечцы хлеба.

Мы зараз уступаем у новы гаспадарчы год. І ў гэтым новым годзе было-б недапушчальна паўтараць нашы ўласныя леташнія памылкі.

Мы будзем мець зусім досыць хлеба ў працягу ўсяго году, калі зможам у дадатак да хлеба, які завозіцца, назапасіць усе таварныя лішкі хлеба ў нас унутры БССР, калі зможам разумна, гнутка і, галоўнае, эканомна выдаткоўваць і разьмяркоўваць гэты хлеб.

Толькі што перажытыя хлебныя цяжкасьці настойліва дыктуюць нам неабходнасьць у працы па забесьпячэньні хлебам насельніцтва быць разумным і руплівым гаспадаром.

Асаблівую ўвагу ў гэтым артыкуле мы хацелі-б зьвярнуць на нашы ўнутраныя загатоўкі хлеба, у прыватнасьці на тую ролю, якую ў іх павінна адыгрываць каапэрацыя, якая займае ў гэтых загатоўках асноўнае месца.

Што датычыць памол. збору, то яго нарыхтоўка цалкам ускладзена на спажыўкаапэрацыю. Адсюль з усёй відавочнасьцю вынікае, што добры вынік нарыхтовак, сваечасовае разгортваньне іх цалкам і поўнасьцю, залежыць ад таго, як будзе праводзіць гэтую працу каапэрацыя. Калі ў мінулыя гады мы на мясцовыя нарыхтоўкі глядзелі, як на нешта нязначнае, другараднае, разьлічваючы на здавальненьне сваіх патрэб цалкам прывозным хлебам, то зараз такіх адносін да нарыхтовак хлеба не павінна быць. Каапэрацыя павінна ў корані пераглядзець такія свае адносіны да хлебанарыхтовак, калі яны яшчэ маюць месца, і цьвёрда ўсьвядоміць, што ад мясцовых нарыхтовак, асабліва ў гэтым годзе, залежыць вельмі і вельмі многае.

Мы ўжо адзначалі вышэй, што завоз хлеба на будучы год поўнасьцю здаволіць нашы патрэбы ня можа. Значную частку нашых патрэб, асабліва сельскай беднаты, мы павінны будзем здавальняць мясцовым хлебам.

Ёсьць яшчэ адна акалічнасьць, на якую трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Па ўсім Савецкім Саюзе ўраджай у гэтым годзе адсунуўся значна на ўсход, а халоднае лета адсунула збор ураджаю амаль на два тыдні. Для нас гэтая акалічнасьць сьведчыць аб тым, што атрыманьне завознага хлеба, папершае, наогул спазьняецца, а падругое, прывоз яго будзе адбывацца з больш адлеглых раёнаў (Урал, Сібір, Навалісьсе), што не выключае магчымасьці затрыманьня прывознага хлеба ў дарозе, а значыць, і магчымых перабояў у пэрыод яго атрыманьня.

Гэтыя акалічнасьці гавораць аб тым, што каапэрацыя павінна ня толькі зьвярнуць выключную ўвагу на нарыхтоўкі хлеба, але павінна зараз-жа, ня трацячы ні хвіліны, так разгарнуць гэтыя нарыхтоўкі, каб у працягу першага кварталу бягучага году выканаць значную частку ўскладзенага на яе пляну.

Па сутнасьці кажучы, нарыхтоўкі ідуць вось ужо месяц. Першыя зьвесткі аб нарыхтоўках гавораць нам аб тым, што хаця каапэрацыя ў гэтым годзе значна ўзмацніла сваю да іх увагу, аднак гэтага далёка не выстарчальна. Тое зусім выключнае значэньне, якое маюць хлебанарыхтоўкі ў гэтым годзе, патрабуе такое-ж выключнае ўвагі да іх з боку каапэрацыі.

Мы маем зьвесткі, што цэлы рад каапэратываў усё яшчэ не разварушыўся, працуе павольна, спадзяючыся на самацёк. Гэта зусім недапушчальныя зьявішчы. Раз і назаўсёды ім павінен быць пакладзены канец. Кожны каапэрацыйны працаўнік павінен праявіць максымум ініцыятывы, гнуткасьці, спрыту.

Мы павінны памятаць, што каапэрацыя, як ні адзін нарыхтоўца, зьвязана з селянінам, які зьяўляецца яе пайшчыкам. Растлумачыць гэтаму пайшчыку неабходнасьць хутчэйшае здачы хлеба—наш абавязак.

Мы, нарэшце, маем шматтысячны каапэрацыйны актыў—гэтага масавага памочніка каапэрацыі ў яе працы. Склікаць гэты актыў, заклікаць яго на дапамогу ў справе хлебанарыхтовак павінен кожны каапэратыў.

Асобна стаіць пытаньне аб удзеле ў хлебанарыхтоўках калгасаў. Вялізная большасьць іх мае таварныя лішкі хлеба. Калгасы павінны быць першымі падбухторшчыкамі ў здачы хлеба ў каапэрацыю. Больш таго, яны павінны ня толькі першымі здаць хлеб, але і ўсялякімі спосабамі прымушаць да гэтага ваколічнае сялянства.

Вялізарнае значэньне ў гэтым годзе набывае памольны збор. Мы павінны сабраць памольнага збору 2.000.000 пудоў. Гэтая праца цалкам ускладзена на спажывецкую каапэрацыю. Заключыць з усімі млынамі, каму-б яны ні належалі, дагаворы на здачу памольнага збору, наладзіць правільны кантроль за прыватнымі млынамі, шпарка і гнутка сабраць гэты хлеб, вось задача спажыўкаапэрацыі, у справе арганізацыі памольнага збору. Трэба памятаць, што ад правільнае пастаноўкі працы збору памольнага хлеба залежыць бесьперабойнае забесьпячэньне хлебам беднаты і рабочых, што жывуць у раёнах.

Вось задачы, што стаяць перад каапэрацыяй у справе арганізацыі нарыхтовак хлеба. Выключную ўвагу, спрытнасьць і гнуткасьць павінны выявіць у гэтай справе кожны каапэратар.

Ня менш важнае значэньне набывае пытаньне выдаткаваньня хлеба. Мы летась у гэтай справе мелі цэлы рад промахаў і памылак. Сёлета ім не павінна быць месца. Кожны каапэратыў, і гарадзкі і сельскі, павінен памятаць, што хлеба ў нас няма так многа, каб ім можна было кідацца направа і налева, не разьбіраючыся, каго забясьпечваеш: ці бедняка, ці кулака, які стварае запасы, каб потым імі спэкуляваць. Мы павінны памятаць, што хлеба ў нас хопіць, калі мы будзем гаспадарча, разумна і, галоўнае, эканомна яго выдаткоўваць.

Максымум ашчаднасьці ў выдаткаваньні хлеба—вось кіруючы пачатак кожнага каапэратыву ў справе забесьпячэньня хлебам. У гэтым годзе для кожнага гораду, для кожнага раёну будут устанаўлівацца, і ўжо ўстаноўлены, кантрольныя лічбы выдаткаваньня хлебных запасаў. Мы павінны памятаць, што перавышэньне кантрольных лічбаў у выдаткаваньні хлеба ёсьць злачынства перад дзяржавай і перад насельніцтвам, якое мае ў ім патрэбу.

Той, хто дапускае перавышэньні ў выдаткаваньні хлеба, фактычна іграе на руку кулаку, бо, калі, дзякуючы гэтаму, у нас ня хопіць хлеба вясною, кулак гэта скарыстае, усялякімі спосабамі падвышаючы цэны і абіраючы беднату.

Вось нашы задачы і нашы абавязкі ў справе хлебанарыхтовак. Каапэрацыйныя сыстэмы ўзрасьлі, узмацаваліся, яны могуць і павінны з імі справіцца.

---

**М. Карклін**

# Каапэрацыйны сэктар у пяцёхгадовым пляне народнае гаспадаркі і культуры Беларусі

Праблема індустрыялізацыі Беларусі сьцісла і неразрыўна зьвязана з мабілізацыяй грамадзкіх рэсурсаў і арганізацыйных магчымасьцяй краіны. Сельская гаспадарка БССР у сувязі з бяссупынным прамысловым будаўніцтвам атрымоўвае ўсё большыя і большыя заданьні, і попыт на пэўныя асартымэнты сыравіны бяссупынна ўзрастае, пры чым усё гэта ідзе нарастальным тэмпам як у сэнсе колькасьці, так і ў сэнсе якасьці.

Адзінаю магчымасьцю здавальненьня зьяўляецца далейшая інтэнсыфікацыя сельскае гаспадаркі, пры чым сама інтэнсыфікацыя сельскае гаспадаркі павінна быць абумоўлена вялікім паваротам яе па лініі калектывізацыі і каапэраваньня шырокіх мас сялянства.

Было-б сьмешна думаць, што мы здолеем калі-небудзь сапраўды зьвязаць цалкам гаспадарчыя інтарэсы больш 756.000 распыленых сялянскіх двароў Беларусі з агульным плянам сацыялістычнае рэканструкцыі і будаўніцтва без спэцыяльнае для гэтага арганізацыйнае формы працы.

Але мы павінны паставіць сваёю задачаю, каб у бліжэйшыя гады большасьць індывідуальных сялянскіх гаспадарак была гаспадарча і грамадзкі арганізавана, каб яны маглі цалкам удзельнічаць у нашым грандыёзным будаўніцтве, у якім кожная частка павінна складаць цэлае, у якім цэлае не адкідае дробных адзінак, а, наадварот, прыцягвае да сябе і прымушае працаваць адзіным ударам для адзінае вялікае мэты—камунізму.

Словы, якія сказаны адносна каапэраваньня сялянскіх гаспадарак, мы павінны накіроўваць і па іншых лініях. Мы маем гарадзкое насельніцтва, якое таксама, як і сялянства, адчувае патрэбнасьць у прадметах спажываньня і ў прамысловых таварах. Пакуль забесьпячэньне іх ідзе па розных каналах. Ад прамысловасьці прамтавары ідуць праз каапэрацыю і часткова прыватны гандаль; ад сельскае гаспадаркі с.-г. прадукты харчаваньня ідуць праз каапэрацыю, прыватніка і непасрэдна ад сялянства (рынкі, з вазоў і г. д.) і, урэшце, саматужнікі-рамесьнікі, якія атрымліваюць сыравіну ці паўфабрыкаты рознымі шляхамі (прамысловасьць, сялянства, каапэрацыя і прыватны пасярэднік).

Гэты малюнак многалікіх каналаў і арганізацый натуральна павінен мець і вялікія недахопы ў самым забесьпячэньні гарадзкога і сельскага насельніцтва, ня кажучы ўжо пра тое, што тады адбываецца спэкуляцыя

і ажыотаж у часе сыравінных і прадуктовых недахопаў. Пяцігодка ставіць у асноўным поўную стаўку на 1-2 тэхнічна-арганізавана забясьпечаныя апараты, якія могуць сапраўды цалкам улічыць увесь попыт і прапанову з боку больш 5.000.000 насельніцтва Беларусі. Такія апараты мысьлімы як дзяржаўныя, так і грамадзкія. Каапэрацыя, якая, цалкам узгадніўшы паміж сабою і попыт і прапанову, як з боку прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, так і гораду і вёскі, магла-б таксама мабілізаваць ня толькі арганізацыйную ўвагу ўсяго насельніцтва вакол пытаньняў абмену, але і ўцягнула-б вялікія сілы і сродкі, асабліва сродкі, бо па лініі каапэррацыі (якая ўсё больш разьвіваецца) у забесьпячэньні і збыце іх патрэбна значна больш ня толькі на асноўныя фонды але і ў зваротныя сродкі.

Калі-ж удакладніць яшчэ больш поўна пытаньне і ўлічыць тое, што ўжо ёсьць цэлы шэраг спэцыяльных відаў каапэрацыйных аб'яднаньняў, як саматужна-прамысловых, жыльлёва-будаўнічых, арэндных і іншых вытворчага характара, а таксама і такая, як інвалідная каапэрацыя, якая мае сваёй задачаю працу вузкага характару, то яны, усё разам узятыя і кожная паасобку, прыносяць цяпер, а па вядомай лініі працы і на будучы час могуць прынесьці куды больш карысьці, як цяпер, мабілізуючы на справе вытворчымі, збытавымі, будаўнічымі апэрацыямі, узаемадапамогай і г. д. не адну сотню тысяч людзей для падняцьця вытворчых рэсурсаў і вытворчых працэсаў краіны.

І калі пяцёхгадовы плян народнае гаспадаркі выстаўляе праблему мабілізацыі грамадзкіх сіл і сродкаў для сацыялістычнага будаўніцтва, дык гэта мысьліцца ня іначай, як яшчэ большае падагульненьне ўсіх тых дробных распыленых вытворчых адзінак у агульны плян будаўніцтва з наметкаю для іх і шляху і перспэктыў, як лепш, як паўней аддаць сваю частку ў справу народна-гаспадарчага будаўніцтва.

Калі возьмем плян працы каапэрацыі ў сельскай гаспадарцы, дык БССР за гэтае пяцігодзьдзе павінна пакрыцца шырокаю сеткаю спэцыяльных відаў каапэрацыі з вытворчым ухілам, як-та: калектыўныя гаспадаркі, машынныя, насенныя, мэліорацыйныя і машынна-пазыкавыя т-вы, малочныя і жывёлагадоўчыя саюзы, камуны і арцелі, вытворча-каапэрацыйныя пасялковыя т-вы і інш. Адным словам, праз густую і якасна высока пастаўленую каапэрацыйную сетку думаецца ня толькі ў большай ступені прыцягнуць сродкі насельніцтва для ажыцьцяўленьня народна-гаспадарчага пляну, але і праз гэтую сетку лягчэй увязаць у плянавым і арганізацыйным парадку інтарэсы спажыўцоў і вытворцаў краіны з агульным дзяржаўным плянам гаспадаркі.

Асаблівае месца гэтым спэцыяльным відам каапэрацыі будзе аддана ў справе выкананьня плянаў сыравінных, хлебных і экспартных мерапрыемстваў, і пры актыўным удзеле іх будзе вырашана такое важнае пытаньне, як падняцьце ўраджайнасьці і, наогул, эфэктыўных паказьнікаў у сельскай гаспадарцы.

Але пасьпяховасьці вынікавых паказьнікаў можна будзе дасягнуць толькі наступнымі двома фактарамі: дзяржаўнаю палітыкаю пры выдачы крэдытнае дапамогі, забесьпячэньнем сельска-гаспадарчымі прыладамі, атрыманьнем прамысловых і іншых тавараў, а таксама і тымі абставінамі, што арганізацыйнаю формаю для хутчэйшага падняцьця сельскае гаспадаркі зьяўляецца калектыўнае каапэраваньне сялянства, а асабліва яе бяднейшае часткі. Дзякуючы гэтаму вясковая бедната павінна быць узмоцненым тэмпам уцягнута ў каапэрацыю пры дапамозе спэцыяльных фондаў па каапэраваньні бедняты і дачы крэдытнае дапамогі на больш ільготных умовах параўнальна з рэштаю груп сялянскага насельніцтва.

Пяцёхгадовы плян у сваіх мінулых установках выказвае неабходнасьць пабудаваць каля 470 прадпрыемстваў, якія працавалі-б у самай гушчы сялянства,—гэта каля 350 прадпрыемстваў па малочнай прамысловасьці, 40 па крухмальнай, 15 па першапачатковай апрацоўцы ільну, 65 садавіннагароднінных, некалькі па рыбнай, млынарскай прамысловасьці і г. д. Усё гэта павінна ня толькі зьявіцца стымулам да інтэнсіфікацыі сельскае

гаспадаркі і падняцьця якасьці прадуктаў, але і мерапрыемствам, якое-б мабілізавала і штурхала на вытворчыя формы сялянскую гаспадарку. Гэтыя прадпрыемствы пры дапамозе інтэнсіфікацыі і машынізацыі павінны ня толькі дапамагаць падняцьцю тэхнічнае культуры вёскі, але і часткова пакрываць той гандлёвы і экспартны попыт, які прадугледжваецца ў гэтым пяцёхгодзьдзі.

Для нас ужо цяпер павінна быць ясным пытаньне, што экспартны плян, які вызначаны ў разьмеры 12.000.000 руб. золатам для 1926-27 г., з падняцьцем да 32.000.000 руб. у канцы пяцёхгодзьдзя, зьяўляецца недастатковым, і прыдзецца яго падняць шмат вышэй, але гэтага можна будзе дасягнуць толькі тады, калі справа каапэраваньня насельніцтва будзе ісьці больш пасьпяхова, як цяпер. Тады нам ня прыдзецца перажываць таго, што мы, на наш сорам, маем цяпер, калі такая краіна, як Беларусь, якая мае вялікі ўхіл у бок разьвіцьця прадукцыйнае і малочнае жывёлагадоўлі, павінна прывозіць масла з Сыбіру, а пры адсутнасьці гэтага прывозу павінна перажываць крызыс масла. Дзякуючы гэтаму каля 15.000 сэпаратараў і іншых машын для маслабойніцтва, якія маюць быць прывезены на працягу пяцёхгодзьдзя, павінны зрабіць здаровы арганізавальны-вытворча-каапэрацыйны ўплыў на масласыраварную справу на Беларусі.

Усё гэта даецца як яскравы прыклад для таго, каб яшчэ раз падкрэсьліць, як многа трэба яшчэ працаваць, каб сапраўды ўсе магчымасьці, якія маюцца, былі скарыстаны, каб былі ўтвораны новыя магчымасьці ў далейшай працы. Тут павінны аказаць вялікую дапамогу наша праца па кантрактацыі хлеба і сыравіны, якая праводзіцца, устанаўленьне сыстэмы дагавароў з сялянамі, атрыманьне авансаў-задаткаў, і калі пасьля будзе патрэбна забесьпячэньне сялянства сельска-гаспадарчымі машынамі толькі праз адну арганізацыю, дык не залежна ад таго, якія-б арганізацыйныя прынцыпы (манаполія) ні выстаўляліся, трэба будзе ліквідаваць лішняе калена

Адным словам на сельска-гаспадарчую каапэрацыю і іншыя спэцыяльныя віды каапэрацыйных аб'яднаньняў падаюць вялікія задачы. У інтарэсах разьвіцьця народнае гаспадаркі пяцёхгодка завастрае іх у сваіх першых устаноўках. Калі-ж праглядзець, якія задачы будуць ляжаць на спажывецкай каапэрацыі, як гарадзкой, так і сельскай, дык на яе ўскладаецца абавязкаў ня менш.

Мы з году ў год бачым, што бязупынна прыватна-гандлёвая сетка выходзіць са сцэны, перадаючы свае функцыі галоўным чынам спажывецкай сыстэме. Калі ў 1925-26 г. гандлёвых прадпрыемстваў, якія лічыліся за каапэрацыяй, было 2.799, дык на першае паўгодзьдзе 1927-28 г.—ужо 3.117. У той-жа час прыватная сетка паменшылася з 14.015 да 12.909, пры чым пасярэдніцкі зварот (гуртавы і раздробны) у каапэрацыі падняўся за два гады (1925-26—1926-27) з 182.146.000 руб. да 231.725.000 руб., што дае рост больш чым на 27 проц., а ў прыватным гандлі ў гэты-ж час пасярэдніцкі зварот з 127.098.000 руб. упаў да 109.812.000 руб. А калі параўнаць з усім гандлёвым зваротам па Беларусі, дык атрымаецца, што з 453.889.000 руа. усяго пасярэдніцкага звароту ў 1926-27 г. каапэрацыйны сэктар займаў 231.725.000 р., г. зн. больш паловы.

Каапэрацыя нясе цяжкасьць і адказнасьць за гандлёва-пасярэдніцкі зварот, пры чым галоўная частка яго ляжыць на спажывецкай каапэрацыі. Далейшы кан'юктурны паказьнік першага паўгодзьдзя 1927-28 г. паказвае, што прыватнік бясссупынна выходзіць з рынку, ускладаючы такім чынам адказнасьць па забесьпячэньні насельніцтва неабходнымі прадуктамі харчаваньня і прамысловымі таварамі на каапэрацыю.

У сувязі з гэтым для нас павінна быць ясным пытаньне, што каапэрацыйная сыстэма пры сучасным разьвіцьці свае сеткі ня здолее абслугоўваць попыт і прапанову насельніцтва. Значыць, каапэрацыйная сыстэма стаіць перад пытаньнем ня толькі мабілізацыі зваротных сродкаў, але і сродкаў на капітальнае будаўніцтва: крам, транспарту, адпаведных прадпрыемстваў, складаў, элеватараў і халадзільнікаў. Частка кошту гэтага

будаўніцтва будзе прымацца на дзяржаўны бюджэт і пойдзе за лік крэдыту, але большая частка павінна цалкам ці часткова будавацца сродкамі каапэрацыі, напр., на хлебныя заводы, шэраг халадзільнікаў, сталоўкі (асабліва з апошнімі справа яшчэ дрэнная).

За гэты пяцёхгадовы тэрмін мы павінны так паставіць працу, каб нашы сучасныя сталоўкі былі цалкам пастаўлены ў адпаведнасьць з вымаганьнямі шырокіх пластоў насельніцтва. Справа грамадзкага харчаваньня і забесьпячэньня насельніцтва добрым і танным харчаваньнем павінна быць пастаўлена на высокі ўзровень. Мы ніколі ня можам сказаць, што мы ўжо здолелі зрабіць што-небудзь сур'ёзнае, каб вызваліць ад кухні сям'ю і перавясьці яе ў грамадзкія сталоўкі, да тое пары, пакуль гэтыя сталоўкі будуць і ў далейшым у такім стане, у якім яны знаходзяцца зараз. Пастановы, якія ёсьць, паказваюць, што наша новае будаўніцтва (прамысловае) павінна прадбачыць пэўныя сумы ня толькі на рабоча-жыльлёвае будаўніцтва, але і на пабудову і аддачу адпаведных памяшканьняў пад сталоўкі, аднак, пакуль-што гэтыя пастановы не ажыцьцяўляліся. Гэта яшчэ больш абавязвае гаспадарчыя ўстановы дамагчыся ажыцьцяўленьня гэтых задач.

Такім парадкам асабліва спажывецкая каапэрацыя, як у горадзе, так і на вёсцы, павінна будзе расьці і ў шырыню з адначасовым падняцьцем якасьці сваё працы. Прыватнік можа застацца ў канцы пяцёхгодзьдзя ня больш як на 8-10 проц. у пасярэдніцкім звароце, дзякуючы чаму ўсялякія сумнівы, ці можа спажывецкая каапэрацыя ў дастатковым памеры задаволіць увесь попыт, ці будзе яна арганізацыйна падрыхтавана, павінны будуць адпасьці.

Сучасны апарат каапэрацыі—магутны, мае не малую практыку, і, пры яшчэ большай магчымасьці прыцягненьня ўжо каапэраваных і новых членаў каапэрацыі да працы каапэрацыйнага апарату, можна быць упэўненым, што ўзложаныя на спажывецкую каапэрацыю задачы могуць і павінны быць выкананы.

На саматужна-прамысловую каапэрацыю пяцёхгодка ўскладае ня менш задач і запатрабаваньняў ня толькі таму, што сама каапэрацыя пакуль-што яшчэ ня здолела абхапіць ў дастатковым памеры саматужнікаў-рамесьнікаў, а і таму, што за пяцёхгодзьдзе адным толькі дзяржаўным прамысловым парадкам канчаткова зьнішчыць таварны недахоп няма магчымасьці. А калі гэта так, дык перад намі стаіць сур'ёзная задача ўсімі арганізацыйнымі спосабамі павялічыць прамыслова-таварныя масы. У гэтай справе вялікае месца можа заняць наша саматужна-прамысловая каапэрацыя.

Праўда, мы цяпер павінны будзем сваечасова папярэдзіць, што дзякуючы ўзмоцненаму разьвіцьцю прамысловага (дзяржаўнага) будаўніцтва саматужнікі і рамесьнікі з шэрагу галін павінны будуць выйсьці, а менавіта: з гарбарнае, маслабойнае і мяснное прамысловасьці, дзе дзяржаўная прамысловасьць у сыравінных і ў рынкачных адносінах здолела ўжо на 100 проц. дабіцца манаполіі. У такім-жа самым стане можа апынуцца абутковая, трыкатажная і швальная саматужная прамысловасьць, дзякуючы вялікаму тэмпу разьвіцьця дзяржаўнае прамысловасьці гэтых галін.

Гэтыя абставіны высоўваюць сур'ёзную задачу ў разьвіцьці і вынаходцы шэрагу іншых галін для прамысловае каапэрацыі. Такія, напр., могуць быць па шчапной (перааппрацоўка лесу), мэталічнай, керамічнай, ганчарнай, цагельнай, смалярскай, па перааапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў, тарфяной і асабліва па такіх галінах, якія ў тэхнічных і рамонтных адносінах абслугоўвалі-б машынныя сялянскія гаспадаркі (рамонтныя пункты, кузьні і інш.). Іншага шляху для вырашэньня гэтага важнага пытаньня ня можа быць. Лёс дробнае саматужнае прамысловасьці вырашаецца тэмпам разьвіцьця дзяржаўнае прамысловасьці. Спачатку яна яшчэ будзе абслугоўваць паўфабрыкатамі патрэбы народнае гаспадаркі (як гэта

цяпер у лясной прамысловасьці), урэшце-ж, яна павінна будзе зыйсьці са сцэны пра ысловага разьвіцьця, як менш выгодная па ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва. Але гэтае пытаньне хай застаецца для іншае пяцёхгодкі. Цяпер—пра задачы бліжэйшага часу.

У гэтай пяцёхгодцы саматужна-прамысловая каапэрацыя будзе адыгрываць вялікую ролю ў народнай гаспадарцы. Яна сваю каштоўнасьць ніяк ня згубіла. У пытаньнях утварэньня таварных запасаў, асабліва такіх, якіх няма і якіх ня ўтворыць дзяржаўная прамысловасьць, яна сваю каштоўнасьць ніяк ня згубіла, але і ў іншых пытаньнях саматужна-прамысловая каапэрацыя займае і будзе займаць сур'ёзнае месца ў разьвіцьці вытворчых працэсаў народнае гаспадаркі.

Справа гаспадарчага будаўніцтва мястэчак, зьмякчэньне беспрацоўя, падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў з саматужнікаў-рамесьнікаў для дзяржаўнае прамысловасьці, якая разьвіваецца,—усё гэта канкрэтная праца саматужна-прамысловае каапэрацыі. Частка саматужнікаў адразу-ж павінна будзе кваліфікавацца для фабрычнае працы, частка-ж перакваліфікавацца для іншых галін народнае гаспадаркі. Такім чынам, у БССР, якая налічвае каля 80.000 саматужнікаў-рамесьнікаў, гэтая маса працоўных рук зьяўляецца буйнейшым эканамічным фактарам, які павінен быць цалкам прыцягнуты да працы сацыялістычнага будаўніцтва.

У выніку можна сказаць наступнае. Саматужна-прамысловая каапэрацыя павінна за гэтае пяцёхгодьдзе абхапіць каапэраваньнем большасьць саматужнікаў і рамесьнікаў, сьмялей перабудаваць свае шэрагі для новых галін вытворчасьці, для прыстасаваньня вытворча-рамесьніцкае сілы саматужнікаў. Дзяржаўныя каапэрацыйныя органы павінны ў гэтай справе ўсямерна дапамагчы прамкаапэрацыі ў адносінах збыту яе прадукцыі, атрыманьня сыравіны ці паўфабрыкатаў і дачы неабходных крэдытаў і бюджэтнае дапамогі. Вось у чым у асноўным заключаецца задача сампрамсаюзу. Калі ўдзельная яго вага ў сэнсе колькасьці выпушчанае прадукцыі будзе крыху адставаць, дык ні ў якім разе абсалютныя лічбы ня могуць заставацца стабільнымі, а павінны абавязкова расьці.

На жыльлёвай каапэрацыі ляжыць ня менш сур'ёзная задача, і яна павялічваецца тымі абставінамі, што, ня гледзячы на тое, што ўклады ў жыльлёвыя фонды з году ў год растуць, усё-такі санітарная норма (8 кв. м.) карыснае плошчы далёка яшчэ не дасягнута. У акруговых гарадох і рабочых пасёлках сярэдняя норма з 5,71 кв. м. у 1927-28 г. узрастае да 6,27 кв. м. у 1932-33 годзе. Доля каапэрацыйнага жыльлёвага будаўніцтва ў агульным жыльлёвым будаўніцтве падымаецца з 10 до 15 проц. у канцы пяцёхгодьдзя. З гэтага мы бачым, што хоць рост і ёсьць, але ён нас ня можа здаволіць.

Адсюль няўхільна ўстае пытаньне, якім парадкам асьвяжыць арганізацыйныя формы жыльлёва-каапэрацыйнае працы і як дадаць ёй больш гнуткасьці. Мы маем многа выпадкаў, калі само прыцягненьне сродкаў далёка не адпавядае тым запатрабаваньням, якія ўстаноўлены законадаўствам, ня досыць захоўваецца парадак ўсяленьня і высяленьня жыхароў з дамоў, якія пабудаваны жыльлёвымі каапэратывамі. Тэмп жыльлёвага будаўніцтва ў пяцёхгадовым пляне яшчэ ня ўстаноўлены пакуль што з дастатковай дакладнасьцю. Таму яшчэ раз трэба праверыць усе магчымасьці жільлёва-будаўнічае каапэрацыі па тэй прычыне, што ня ўсе яшчэ крыніцы вычарпаны. Трэба падняць удзельную вагу жыльлёвае каапэрацыі ў самым будаўніцтве, пры чым само будаўніцтва павінна насіць больш фундамэнтальны характар, як цяпер (каменны). Потым у кожным доме (болш буйным) павінны адбівацца запатрабаваньні новага быту; пакуль-жа аб гэтым нельга нічога сказаць. Агульныя пральні, дзіцячыя сады, чырвоныя куткі і г. д. павінны будуць заняць сур'ёзнае месца ў жыльлёва-будаўнічых плянах з адначасовым абавязковым дасягненьнем як якасьці будаўніцтва, гэтак і патаненьня яго.

Аднак, дагэтуль яшчэ справа абстаіць так, што, ня гледзячы на тое што з боку дзяржавы даюцца вялікія сродкі і ільготы па ўзмацненьні каапэрацыйнага жыльлёвага будаўніцтва, кошт оўнасьць самога будаўніцтва пакуль што яшчэ застаецца высокай. Трэба канчаткова ўхіліць адсталую форму тэхнікі самога будаўніцтва шляхам устанаўленьня стандартных тыпаў самых будынкаў, і, урэшце, трэба паставіць на чале шырокую актыўнасьць і ўдзел шырокіх мас працоўных і асабліва рабочае клясы.

Вось сутнасьць асноўных каапэрацыйных форм, іх мэтавыя задачы па вытворчай лініі і па лініі гандлёва-пасярэдніцкага абмену і месца ў народнагаспадарчым пляне на бліжэйшае пяцёхгодьздзе. Прыходзіцца толькі да ўсяго сказанага дадаць, якога аб'ёму працы галоўнейшых сыстэм каапэрацыі мы можам чакаць. Напрыклад, лік пайшчыкаў спажывецкае каапэрацыі на 1927-28 г. складае каля 624.000; у прыватнасьці, калі ўзяць ў гарадох па ЦРК, дык там каапэравана каля 127.000 чалавек, ці 41,5 проц. рабочых і членаў прафсаюзаў. Каапэраваных у вёсцы каля 497.000. У выніку гэтыя лічбы павінны падняцца да канца пяцёхгодьдзя да 823.000 у вёсцы і 254.000 у горадзе.

Вылучаны ў пяцёхгадовым пляне такі ахоп лічыцца гранічным і шырай не павінен пайсьці, а ўся ўвага павінна быць засяродкавана на якасным ахопе, г. зн. на большым падняцьці зацікаўлёнасьці самых пайшчыкаў, на ўстанаўленьні большае каапэрацыйна-вытворчае дысцыпліны, на большым удзеле уласных паявых ўзносаў, пры чым процант падняцьця паявых узносаў павінен, прынамсі, падняцца на 200 і больш, у залежнасьці ад віду і характару каапэрацыі.

І, урэшце, трэба яшчэ раз зьвярнуць увагу на абавязковае зьніжэньне высокіх накладных і гандлёвых выдаткаў.

Усё гэта ў выніку павінна даць павялічэньне ўласных капіталаў у каапэрацыі і паменшыць патрабаваньні сродкаў ад дзяржаўнага і іншых бюджэтаў, даючы гэтым большую магчымасьць бюджэтныя сродкі накіроўваць на ажыцьцяўленьне ня менш важных плянавых задач. Адным словам, вынік пяцёхгадовага пляну па каапэрацыйных сыстэмах павінен нам прынесьці высока пастаўленую каапэрацыйную сыстэму ў культурных, эканамічных і вытворчых адносінах з ахопам каапэраваньнем пераважнае большасьці насельніцтва, якое актыўна ўдзельнічае ў працы каапэрацыі і даверае ёй шэраг сваіх гаспадарчых клапот. Але для гэтага яшчэ раз прыдзецца паўтарыць, што каапэрацыйная сыстэма абавязкова павінна вызваліцца ад шэрагу закасьцянелых форм свае працы, павінна ў большай ступені прыцягнуць насельніцтва да справы каапэраваньня і прымусіць яго ўдзельнічаць у спраўнай, фактычнай працы, павінна ня толькі адцягнена, але і матар'яльна зацікавіць і паказаць на практыцы ўсю выгоднасьць савецкае каапэрацыйнае сыстэмы, на першае месца паставіць і не затушоўваць свайго клясавага твару і клясавага падходу, як у сэнсе садзейнічаньня каапэраваньню беднаты і мабілізацыі сродкаў для далейшага падняцьця яе гаспадаркі, накіроўваючы гэтую гаспадарку ў каапэрацыйнае рэчышча, а так сама і ў адносінах пытаньняў, якія выстаўляюцца рабочаю клясаю.

Пры чым „культурная рэвалюцыя" таксама ўскладае ня мала абавязкаў і на каапэрацыю, якая павінна навучыць шырокія масы працоўных працаваць культурным спосабам. Гэтая задача, якая праводзіцца праз каапэрацыю, можа быць зьдзейсьнена ў грандыёзных памерах ня толькі шляхам аказаньня тэхнічнае дапамогі дзяржаўнымі арганізацыямі, але і ўдзелам самое каапэрацыйнае сыстэмы.

Вось ў асноўным роль і задачы каапэрацыйнага сэктару ў пяцёхгадовым пляне народнае гаспадаркі і культуры ў БССР, пры чым, чым больш поўна і эфэктна будуць зьдзейсьнены задачы, якія ўзложаны на каапэрацыйны сэктар, тым больщых вынікаў мы можам чакаць для сацыялістычнага будаўніцтва.

**Катовіч**

# Задачы малочнай каапэрацыі

На бліжэйшыя два гады перад сыстэмай малочнай каапэрацыі пастаўлена задача павялічэньня ліку членаў ня менш чым на 30 проц. Вырашэньне гэтай задачы павінна ісьці раней за ўсё па лініі ахопу ня членаў—носчыкаў малака. Рост каапэраваньня павінен ісьці з максымальным разьвіцьцём актыўнасьці і самадзейнасьці сялянства, якое аб'яднаецца сыстэмай. Пасьпяховасьць выкананьня гэтай складанай задачы патрабуе ўзмацненьня тэмпу працы, праверкі форм і мэтадаў.

І ў далейшым разьвіцьці малочнай каапэрацыі трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на ахоп асноўнае масы сялянства і, асабліва, ўзмацненьне каапэраваньня бядняцкіх гаспадарак.

Задача масавага каапэраваньня, на падставе ўзмацненьня самадзейнасьці і актыўнасьці, патрабуе стварэньня такіх форм каапэрацыйнага абслугоўваньня, якія-б забясьпечвалі разгортваньне масавай грамадзка-каапэрацыйнай працы, падрыхтоўку, высоўваньне і арганізацыю каапэрацыйнага актыву, а ў сувязі з гэтым асаблівае значэньне набывае праца па гаспадарскім і арганізацыйным абслугоўваньні беднаты ў мэтах уздыму бядняцкае гаспадаркі.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на актыў з беднаты, а таксама і на ўзмацненьне ўдзелу беднаты ў органах кіраўніцтва і кантролю. Праца з беднатой павінна быць пастаўлена шырока, чотка, разгорнута і арганізавана па ўсіх зьвеньнях, рашуча ліквідаваны ўсе недахопы, якія наглядаліся і маюцца ў гэтай галіне.

Адказнасьць за пасьпяховасьць працы ўскладаецца на кіраўнікоў зьвеньнямі сыстэмы, але трэба абавязаць і інструктаж сыстэматычна правяраць выкананьне клясавых заданьняў па правільным і своечасовым выкарыстоўваньні фонду беднаты і аказаньні дапамогі беднаце асабліва. Праводзячы ва ўсёй працы малочнай каапэрацыі вытрыманую клясавую лінію—апору на бедняка, саюз з серадняком і барацьбу з кулаком, неабходна палепшыць мэтады кіраўніцтва працаю асобных зьвеньняў сыстэмы.

Арганізуючы і забясьпечваючы актыўнае ўцягненьне каапэраванага насельніцтва ў працу ўсіх зьвеньняў, ставячы ўсю працу пад кантроль і крытыку мас, неабходна ўсяляк садзейнічаць стварэньню маналітнасьці і адзінства працы ўсіх зьвеньняў, ўзмацненьню каапэрацыйных дысцыплін.

Праца інструктарскага апарату павінна садзейнічаць арганізацыі і росту каапэрацыйнай грамадзкасьці, правільнай пабудове і рацыяналізацыі працы зьвеньняў сыстэмы, павінна быць узмоцнена сувязь паміж выбарчымі органамі і членамі каапэрацыйнай арганізацыі, узмоцнена таксама і беспасярэдная сувязь і інструктаваньне з боку вышэйшых органаў з беспасярэднай праверкай імі на мясцох выкананьня дырэктыў.

Вось гэтымі асноўнымі становішчамі вызначаецца ў наш час пасьпяховасьць выкананьня тых вялізарных задач, якія пастаўлены на бліжэйшы пэрыод перад сыстэмай малочнай каапэрацыі. На гэтай аснове толькі і магчыма павялічэньне і паскарэньне росту вытворчых сіл ў малочнай гаспадарцы, вырашэньне пастаўленай задачы і ўзмацненьне ахопу сялянскай прадукцыі.

Пытаньні росту малочнае гаспадаркі, таварнасьці яе, пасьпяхова вырашымы толькі пры максымальным разгортваньні агро-заатэхнічнай і вытворчай працы. Гэта галіна дзейнасьці сыстэмы малочнай каапэрацыі

стала галоўнейшай гаспадарчай функцыяй. У сувязі з гэтымі задачамі набывае асабліва важнае значэньне арганізацыя моцнай грашовай базы сыстэмы малочнай каапэрацыі—далейшае павялічэньне капіталанапластаваньня і мабілізацыя сродкаў каапэраванага насельніцтва на капітальныя працы сыстэмы.

Прарабіўшы вялікую працу за мінулы час, склаўшыся ў моцную грамадзка-гаспадарчую арганізацыю, сыстэма малочнай каапэрацыі павінна імкнуцца да ўзмацненьня тэмпу разьвіцьця такіх форм каапэраваньня, якія ахапілі-б усе працэсы малочнае сялянскае гаспадаркі з найбольшым іх абагульненьнем.

---

К. Трамдах

# Арганізаваны малочныя саюзы

У ліпені і жніўні г. г. па некаторых акругах Беларусі адбывалася поўная рэарганізацыя малочна-жывёлагадоўчае каапэрацыі шляхам яе вылучэньня з унівэрсальнае с.-г. сеткі. За гэтыя месяцы скліканы цэлы шэраг спэцыяльных зьездаў малочнае каапэрацыі, і нядаўна адбыўся ўсебеларускі зьезд па арганізацыі ў Менску самастойнага маслацэнтру БССР. На гэтых зьездах былыя малочныя сэкцыі ў сельсаюзах: Гомельскім, Віцебскім, Магілеўскім і ў Белсельсаюзе (па Менскай акрузе) рэарганізаваны ў самастойныя малочна-жывёлагадоўчыя саюзы. Сыстэма малочнае каапэрацыі завяршае толькі што зарганізаваны рэспубліканскі цэнтр—Беларускі Малочны Жывёлагадоўчы Саюз.

Жывёлагадоўчы ўхіл сельскае гаспадаркі Беларусі за апошні час усё больш узмацняецца. У сувязі з гэтым бурны рост малочнае сеткі і каапэраваньня досыць забясьпечваюць далейшае пасьпяховае разьвіцьцё малочнае каапэрацыі БССР. За час з 1 кастрычніка 1924 году сетка малочных арцеляй узрасла з 29 да 156, лік членаў—з 958 да 11.332 чалавек і ўдзельная вага малочнае сеткі ў спэцыяльных відах с.-г. каапэрацыі—з 3 проц. да 16 проц.

Пачынаючы з 1927 году, заўважаецца асабліва бурнае разьвіцьцё малочнае сеткі. Лік малочных арцеляй у параўнаньні з 1926 годам павялічыўся ў два разы, пабудавана 36 новых масла-сыразаводаў, нагрузка заводаў павялічылася на 201 проц., а сума прадукцыі на 213 проц.

У лістападзе 1927 года ў Віцебску адбылася 2-я Усебеларуская выстаўка малочнае прамысловасьці. Урэшце, у 1927 годзе ў шасьці акругах праведзены паўтарамесячныя курсы для падрыхтоўкі майстраў масларобства і сыраварэньня. Гэтыя курсы далі малочнай каапэрацыі БССР 184 добра падрыхтаваных майстроў.

Малочнаю сеткаю каапэравана па БССР 2 проц. сялянскіх гаспадарак (на 1 ліпеня г.г.), і ў гэтых гаспадарках налічваецца 2,8 проц. агульнага ліку кароў беларускага малочнага гурту. Лепшыя вынікі па каапэраваньні гаспадарак у акругах: Магілеўскай—4,3 проц., Віцебскай—3,4 проц., Менскай—2,9 проц. і Гомельскай—2,7 проц. На адну арцель прыходзіцца гаспадарак—72 (у 1926 г.—48). Пайшчыкі разьмяркоўваюцца: беднаты—22,4 проц., серадняков—65,5 проц. і заможных—12,1 проц. (па Магілеўскай акрузе нават 17 проц.). Лік жанчын сярод пайшчыкаў толькі 11 проц.

Уся малочная сетка БССР уключае ў сабе 288 арганізацый (малочныя арцелі, сельска-гаспадарчыя т-вы, калгасы з малочным ухілам), з якіх 197 малако перарабляюць, а 41 занята толькі збытам малака. Апошнія звычайна блізка каля гарадоў ці чыгуначных станцый, вельмі дробныя і да таго-ж у складзе здатчыкаў малака ў гэтых арганізацыях толькі 68 проц. пайшчыкаў.

Вытворчая дзейнасьць сеткі заключаецца ў вырабцы салодка-сьмятаннага і часткова экспартнага масла (63 проц.) і галяндэрскага сыру (37 проц.). Аднак, заводы дробныя, саматужныя, слаба абсталяваныя; адсюль—нездавальняючая якасьць і недастатковасьць нагрузкі (у сярэднім 37.100 кгр. малака). Радыус дзейнасьці арцеляй невялікі, сьмятанных і сьмятана-адбіўных пунктаў вельмі мала. Агульны зварот усяе малочнае прадукцыі па 177 заводах за мінулы год—905.778 руб. Вытворчыя выдаткі вялікія: на кілё сыру—27 кап., а на масла—39 кап. Праз малочную сетку разьмеркавана канцэнтраваных кармоў 2.728 тысяч кілёграм. Прадукцыя ў асноўным збывалася праз сельсаюзы, але ўсё такі 10,5 проц. ішло на прыватны рынак. У апошнім асабліва грэшна сэтка Бабруйскае, Полацкае і Аршанскае акруг. Грашовы стан малочных арцеляй нездавальняючы: паявых толькі 258 руб. на 1 арцель у сярэднім (7 проц. балянсу), што складае 1 р. 78 к. на карову каапэраванае гаспадаркі.

Плян дзейнасьці малочнае сеткі на 1928-29 гасп. год прадугледжвае пашырэньне сеткі да 440 арцеляй, пры адначасовым узмацненьні арцеляй (пры норме да 200 пайшчыкаў арганізацыя сьмятанных і сьмятана-адбіўных пунктаў і г. д.) з радыусам абслугоўваньня 7—10 кіл. Паводле пляну, на 1 кастрычніка 1929 году павінна быць каапэравана ўсяго 77.000 гаспадарак, што складае 9,3 проц. каапэраваньня гаспадарак, якія маюць 11,3 проц. малочнага гурту БССР. Паявы ўзнос павінен быць даведзены да 5 руб. на карову Намечана закупка 4.000.000 пудоў канцэнтраваных кармоў (50 проц. ужо закуплена). Мяркуецца пабудоўка 70 новых заводаў. Вытворчая праграма намячае вырабку 213 878 цэнтн. масла, 129.540 цэнтн. сыру і назапашаньне мяса на 3.363.000 руб., птушак на 127.000 рублёў і яек на 124.000 руб. Да 1 кастрычніка 1928 г. намечана каапэраваць 40 проц. беднаты і да 25 проц. жанчын, а таксама павялічыць паявы ўзнос да 3 руб. на карову.

У гэтым годзе ідзе вялікае будаўніцтва новых малочных заводаў па ўсёй сетцы. Заводы будуюць у Менскай акрузе 4 арцелі, у Магілеўскай—5 арц., у Аршанскай—5 арц., у Мазырскай—5 арц., у Полацкай—1 арц., у Бабруйскай—6 арц. і ў Віцебскай—3 арц.

Стан сеткі новазарганізаваных малочна-жывёлагадоўчых саюзаў БССР выяўляецца ў наступным выглядзе.

*Гомельскі саюз* злучае ўсяго 48 арцеляй і 18 калгасаў і саўгасаў, якія маюць малочны ўхіл гаспадаркі.

Па збыце малака працуюць 14 арцеляй, якія маюць 885 членаў з 1.858 каровамі. Самыя буйныя з гэтых арцеляй Касьцюкоўская (287 чл. з 483 каровамі) і Бабовіцкая (158 членаў з 388 каровамі); самая дробная Прыборская (24 члены і 47 кароў). Арцелі дастаўляюць малако ў Гомель, у крамы свайго саюзу і ў цэрабкаап.

Арцеляй маславых вырабаў у Гомельскім саюзе 33 з лікам членаў 2.011, якія маюць 3.640 кароў. Самыя буйныя арцелі маславага вырабу Васілевіцкае т-ва (150 членаў і 360 кароў) і Калінінскае т-ва (156 членаў і 200 кароў). Сыраварных арцеляй толькі адна. Усе арцелі на 100 проц. зьвязаны з сваім саюзам.

*Менскі саюз* злучае 31 маслабойную арцель, 9 сыраварных і 16 па збыце малака, а ўсяго 56 арцеляй. У 1925 годзе ў Менскай акрузе было толькі 5 арцеляй. Саюз гаспадарча зьвязан таксама з 20 калгасамі (па збыце сыру і масла) і з 7 саўгасамі па збыце малака. Сярэдні лік членаў у арцелі 74 чалавекі (але летась было 63 чалавекі), але ёсьць арцелі з лікам пайшчыкаў 12—20 чалавек. Паявыя ўзносы вельмы нізкія—1 р. 26 к. на карову.

Паступленьне малака па сетцы: у 1926-27 годзе—1.936.000 літраў, за першае паўгодзьдзе 1927-28 году—1.148.000 літраў. За месяцы травень—верасень г. г. сеткаю выраблена сыру 79.740 кілё, масла—120.960 кілё і здана ў саюз малака 1.405.000 літраў. За жнівень месяц малады саюз

разьмеркаваў па сетцы 18 вагонаў высеўкаў і 4 вагоны макухі і ўзяўся за апэрацыі з інвэнтаром. Усю вырабку сетка здае свайму саюзу, які ўсё гэта збывае Менскаму церабкаапу.

У Менску будуецца цэнтральная малочная, а ў акрузе намячаецца пабудоўка аднаго буйнага мэханізаванага маслазаводу. У гэтым годзе ўжо адчынены два буйныя часткова мэханізаваныя маслазаводы

*Магілеўскі саюз* налічвае 42 арцелі (з лікам членаў 4.105 чал.) 5 калгасаў, 8 пляменнаводных т-ваў, 2 крэдытныя сельска-гаспадарчыя т-вы, 2 кантрольныя. Самымі буйнымі маслабойнымі арцелямі зьяўляюцца Чарняўская (448 членаў) і Галоўчынская (233 члены); самаю дробнаю—Клімавіцкая (5 членаў). Сярод пляменнаводных т-ваў самая буйная—Лупалаўская (542 члены). У сваёй працы сетка зьвязана з саюзам на 100 проц.

Асноўная работа сеткі—сыраварэньне. Мяркуецца пабудоўка цэнтральнага складу для сыраў у горадзе Магілеве.

*Віцебскі саюз* знаходзіцца яшчэ ў стадыі свайго арганізацыйнага афармленьня. У яго сетку ўваходзяць 43 арганізацыі, якія маюць 14 маслазаводаў, 23 масла-сыразаводы і 6 арцеляй па збыце малака. Агульны лік членаў—3.799.

Па іншых акругах БССР малочная сетка яшчэ ўваходзіць у агульную сыстэму с.-г. каапэрацыі і абслугоўваецца малочнымі сэкцыямі сельсаюзаў.

*У Бабруйскай акрузе* ёсьць 51 малочная арцель з лікам членаў 3.543. Самыя буйныя арцелі—Бацэвіцкая (315 чалавек), Шчэдрынская (303 чал.) і Любоніцкая (264 чал.). У 26 арцелях ёсьць сьмятанныя пункты, якіх усяго 36.

Малочная сетка *Аршанскай акругі* налічвае 27 арцеляй (у тым ліку 11 сыраварных), 2 с.-г. камуны і 2 с. г. арцелі.

Малочныя арцелі Аршаншчыны адносна буйней, чым у іншых акругах БССР. Так, у сыраварных арцелях сярэдні лік членаў 157 чал., а ў маслабойных—108. Аршанскія арцелі таксама вылучаюцца сваім сярэднім паем—2 руб. 17 кап. на карову. Самыя буйныя арцелі—Горацкая (301 член) і Страйкоўская (252 члены).

З сваім сельсаюзам малочная сетка зьвязана толькі на 60 процантаў. Сьмятанныя пункты ёсьць пакуль-што толькі ў двух арцелях.

Як на прыклад больш слабага разьвіцьця малочнае каапэрацыі, трэба паказаць на *Мазыршчыну*. Тут ёсьць 14 маслабойных арцеляй, з лікам членаў 591 чалавек, якія маюць 1.112 кароў. З гэтага складу арцеляй толькі адна мае поўнае абсталяваньне, а 5 абсалютна без усялякага інвэнтару.

У гэтым годзе ў Мазыршчыне, аднак, праведзена вялікая праца для паляпшэньня стану малочных арцеляй. Пабудована 5 заводаў і арганізаваны 3 новыя арцелі. Па ўсіх арцелях павялічаны паявы ўзнос з разьліку 3 руб. на карову. За першае паўгодзьдзе 1927-28 гасп. году паступіла малака 209.946 літраў, якое цалкам перароблена на масла. Малако пакуль што бярэцца толькі ад 560 кароў. Толькі цяпер праводзіцца пераход разьліку за малако па процанце тлустасьці. Малочная сетка абслугоўваецца сельсаюзам.

*У Полацкай акрузе* малочная сетка таксама нязначная. Ёсьць 15 малочных арцеляй, якія налічваюць усяго толькі 210 членаў. Кожная арцель мае свой сыра-маслазаводзік. Сетка на 53 проц. зьвязана з сельсаюзам, а з прыватным рынкам на... 40 проц!

Асноўныя задачы малочнае каапэрацыі Беларусі—палепшаньне якасьці прадукцыі, устанаўленьне яе стандарту, пашырэньне забесьпячальных апэрацый с канцэнтраванымі кармамі і па інвэнтары і, урэшце, паглыбленьне каапэраваньня і ўзмацненьне свайго грашовага становішча.

Г. С.

# Арганізуем каапэрацыйнае мукамольле

У сучасны час с.-г. каапэрацыя мае малую колькасьць таварных млыноў і маслазаводаў, што далёка недастаткова для пераапрацоўкі зерня, якое ёю зьбіраецца. Пашырэньне пераапрацоўкі зерня і масласемя зьяўляецца аднэй з чарговых і асноўных задач, якія стаяць перад сель.-гасп. каапэрацыяй.

З году ў год хлеба-збытавыя апэрацыі с.-г. каапэрацыі павялічваюцца, і яе роля ў хлебным звароце краіны значна ўзрастае, але ўнутраны рынак, на якім збываецца галоўная маса хлеба і сена, патрабуе ў значнай частцы тавар у выглядзе мукі, круп і масла. Рацыянальная і шырокая пастаноўка хлебных апэрацый на ўнутраным рынку без пераапрацоўкі немагчыма. Разам з патрабаваньнямі рынку ўзмацненьне ролі с.-г. каапэрацыі ў справе пераапрацоўкі выклікаецца і інтарэсамі захаваньня ў каапэрацыйнай сыстэме выгад ад пераапрацоўкі ў мэтах забесьпячэньня зацікаўленасьці каапэрацыйнага вытворцы зерняпрадуктаў.

Апрача таварнага характару пераапрацоўкі для мэт збыту, у абставінах нашае краіны мае надзвычайна важнае значэньне ў сельскай гаспадарцы пераапрацоўка сялянскага зерня для патрэб саміх вытворцаў. Арганізацыя гэтае справы таксама зьяўляецца галоўнай гандлёвай задачай с.-г. каапэрацыі, тым больш што да гэтага часу сялянскі памол у значнай частцы абслугоўваецца прыватнікам.

Да гэтага часу асабліва не арганізавана мясцовае мукамольле, дзе няма ні адзінага плянавага кіраўніцтва, ні, тым больш, адзінай сыстэмы, якая-б арганізоўвала мукамольле. Пры распыленасьці млыновых прадпрыемстваў усялякае рэгулюючае ўзьдзейнічаньне на яго ня можа мець посьпеху, тым больш што ўдзельная вага настолькі значна, у хлебным звароце мясцовага мукамольля, што нават невялікая частка гэтага звароту якая ідзе бяз пляну на загатоўчых рынках, здольна ўносіць рашаючыя папраўкі ў хлебную кампанію па загатоўках. У асаблівасьці гэта мела месца, калі наглядалася значнае разыходжаньне цэн на зерня і муку.

Маючы такое становішча трэба кіравацца наступнымі становішчамі ў арганізацыі каапэрацыйнага мукамольля: трэба каб у склад каапэрацыйнага мукамольля ўключаліся тыя прадпрыемствы, якія ці цалкам абслугоўваюць толькі сялянскі памол (сялянскія млыны), ці ня менш чым на 50 проц. сваёй працы (паўтаварныя млыны) загружаюцца сялянскім памолам. Пры гэтым паўтаварныя млыны трэба прымаць толькі ў тым выпадку, калі таварнае зерня для гэтага млыну можа быць зарыхтавана ў тым-жа раёне, які абслугоўвае млын.

Асаблівую ўвагу пры прыёмцы млыноў належыць удзяляць пытаньню аб ступені загружанасьці зернем у працягу працоўнага сэзону. Млыны, якія ня маюць дастатковай загрузкі ў працы, могуць легчы цяжарам на эксплёатуючыя іх арганізацыі. Млыны, якія прымаюцца сел.-гасп. каапэрацыяй, павінны быць ў тэхнічных адносінах працаздольнымі: агульнае становішча, становішча абсталяваньня, асабліва становішча рухальнай сілы, павінны быць да прыёмкі належным чынам абгледжаны.

Млыны да прыёмкі павінны быць вывучаны ў асноўных момантах працы за апошнія два-тры гады з мэтаю ўстанаўленьня для арганізацыі, якая прымае на падставе правераных даных рэнтабельнасьці прадпрыемства і агульнай мэтазгоднасьці іх эксплёатацыі.

Само-сабою зразумела, што млыны павінны брацца тымі с.-г. каапэрацыйнымі арганізацыямі, якія маюць арганізацыйныя і грашовыя магчымасьці для належнага выкарыстоўваньня млыноў.

Дзеля гэтага, прыступаючы да арганізацыі каапэрацыйнага мукамольля на мясцох, усе зьвеньні хлебнае с.-г. каапэрацыі павінны праявіць максымум увагі і гаспадарчасьці, каб ва ўмовах вялікай хуткасьці не дапусьціць буйных памылак і тым не падарваць пачынаньня вялікае важнасьці.

В. Дзёмін і Л. Дунец

# Кантрольныя лічбы спажыўкаапэрацыі БССР на 1928-29 год

Чым даўжэй разгортваецца працэс гаспадарчага і арганізацыйнага росту беларускае спажывецкае каапэрацыі, чым больш яна ператвараецца ў сыстэму вялізнага масавага руху, тым важней становіцца неабходнасьць увядзеньня далейшых працэсаў яе разьвіцьця ў плянавае рэчышча на падставе поўнага адпавяданьня каапэрацыйнага будаўніцтва агульнаму росту народнае гаспадаркі краіны.

Асноўным мэтадам плянаваньня зьяўляюцца кантрольныя лічбы па ўсіх галінах працы каапэрацыі, якія грунтуюцца як на вучоце мінулага пэрыоду будаўніцтва, так і на далейшых магчымасьцях, якія вызначаюцца агульнасьцю ўсіх эканамічных умоў на плянаваны пэрыод.

Ня гледзячы на бясспрэчныя цяжкасьці ў складаньні кантрольных лічбаў па спажыўкаапэрацыі, як вучастку народнае гаспадаркі, найбольш залежным ад рыначных адносін, якія зьяўляюцца нязвычайна складанымі і цяжка рэгулююцца,—тым ня менш, кантрольныя лічбы ў гэтым годзе ўпяршыню распрацоўваюцца па разгорнутым і пашыраным ліку паказьнікаў.

Праўда, некаторыя з гэтых паказьнікаў маюць умоўны характар, паколькі беларуская спажыўкаапэрацыя базуецца, галоўным чынам, на завозных таварах, а ва ўмовах таварнага голаду завоз знаходзіцца па-за сфэрай нашага ўзьдзейнічаньня.

Тая акалічнасьць, што кантрольныя лічбы на 1928-29 год зьяўляюцца першым адрэзкам 5-гадовага пляну (які зараз распрацоўваецца), а значыць, пачаткам ажыцьцяўленьня намечаных гэтым плянам капітальных мерапрыемстваў, надае ім выключна важнае значэньне.

Асноўныя задачы спажывецкае сыстэмы находзяць свой адбітак у кантрольных лічбах на 1928-29 г. і складаюцца з наступнага:

1. Узмацненьне каапэраваньня, асабліва сярод пралетарска-бядняцкіх груп насельніцтва, выходзячы з пастаўленых задач па поўным ахопе ў бліжэйшыя гады ўсіх беднякоў, батракоў і с.-г. рабочых.

2. Далейшае пашырэньне гаспадарчае працы ня толькі на ўзровень росту спажывецкага попыту насельніцтва, але і па лініі замяшчэньня прыватніка, што выходзіць з пасярэдніцкага звароту, а таксама дзяржаўнага раздробнага гандлю, які памяншаецца.

3. Паляпшэньне фінансавага становішча спажыўкаапэрацыі, паколькі разьвіцьцё яе гаспадарчае працы перш за ўсё залежыць ад яе фінансавага становішча.

4. Пашырэньне і ўзмацненьне культурна-бытавой і масавае працы сярод каапэраванага насельніцтва (грамадзкае харчаваньне, каапэрацыйна-асьветная праца і г. д.), якая забясьпечвае сапраўднае падвышэньне актыўнасьці і ўзмацненьне грамадзкага кантролю над каапэрацыяй з боку членскае масы.

Побач з гэтымі асноўнымі задачамі, кіруючым прынцыпам працы спажыўкаапэрацыі на 1928-29 год павінна быць паляпшэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца, якое вымагае асаблівае да сябе ўвагі ва ўмовах набліжэньня спажыўкаапэрацыі па шэрагу тавараў на рынку да ролі манапалістага.

Пярэйдзем да аналізу працы спажыўкаапэрацыі за мінулыя гады і пэрспэктыў на наступны год у разрэзе паасобных асноўных галін.

## I. Каапэраваньне і паенамнажэньне

Спажыўкаапэрацыя за апошнія гады мае значныя дасягненьні ў справе каапэраваньня.

Па сельскай і местачковай сетцы сучаснае становішча і пэрспэктывы на наступны год характарызуюцца наступнымі данымі:

| | На 1-е кастрычніка | | | | | У %% да папярэдн. г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 26—27 | 27—28 | 28—29 |
| Каапэраваньне гаспадарак у тысячах | 192,2 | 294,0 | 378,0 | 508,5 | 628,3 | 152,5 | 134,4 | 123,6 |
| % каапэраваных гаспадарак | 22,3 | 33,1 | 41,9 | 54,8 | 65,6 | — | — | — |
| Каапэравана бядняцкіх гаспадарак | — | 29,0 | 69,0 | 145,0 | 195,0 | — | 238,0 | 138,0 |
| % каапэраваных бядняцкіх гаспадарак | — | — | 52,0 | 56,0 | 84,8 | — | — | — |
| Размер сярэдня-аплачанага паю | 1—50 | 2—13 | 2—73 | 5—58 | 9—00 | 142,0 | 128,0 | 229,0 |

Паказьнікі, якія мы прывялі, даюць падставу зрабіць два вывады: па-першае, наяўнасьць за апошнія тры гады значнага прыросту каапэраванага насельніцтва, які паказвае тэмпы + 52,5, + 34,4, і + 23,6, і, па другое, як вынік значных мерапрыемстваў па ўцягненьні бядняцкіх гаспадарак у каапэрацыю (стварэньне фондаў на каапэраваньне беднаты),— узмацненьне пралетарска-бядняцкага ядра ў каапэрацыі.

Побач з гэтым паступова згладжваецца неадпаведнасьць, якая існуе паміж каапэраваньнем і паенамнажэньнем. Гэта знаходзіць свой выраз у больш падвышаным прыросьце паявых капіталаў, чымся прырост колькасьці членаў.

Меркаваная ўстаноўка на 1928-29 год на набліжэньне паміж аб'ёмам гаспадарчае працы сельскіх спажывецкіх таварыстваў і матар'яльным удзелам у ёй насельніцтва выстарчальна характарызуецца наступнымі тэмпамі паказьнікаў росту супроць 1927-28 году:

Зварот узрастае на . . . . . . . . . . 28 проц.
Сярэдня аплачаны пай на . . . . . . . . 61,3 „
Сума паявога капіталу на . . . . . . 95 „

Пераходзячы да рабоча-гарадзкое каапэрацыі, трэба адзначыць паступовае замаруджаньне прыросту каапэраваньня.

Кантрольныя лічбы на 1928-29 год вызначаюць становішча такім чынам:

| | Абсалютны паказьнік на 1 X | | | | | У %% да папярэдн. г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 26—27 | 27—28 | 28—29 |
| **З ліку пайшчыкаў:** | | | | | | | | |
| Членаў прафсаюзаў | 59,4 | 68,3 | 85,1 | 102,0 | 117,0 | 115,0 | 125,0 | 115,0 |
| % каапэр. | 61,9 | 60,7 | 71,6 | 78,0 | 85,0 | — | — | — |
| Саматужнікаў | 0,7 | 2,5 | 4,4 | 6,0 | 9,0 | 176,0 | 136,0 | 150,0 |
| Хатн. гаспадынь | — | 0,17 | 0,52 | 1,55 | 7,5 | 300,0 | 484,0 | 500,0 |
| Усяго пайшчыкаў | 62,4 | 79,2 | 101,2 | 127,5 | 159,0 | 127,0 | 126,0 | 124,7 |
| Удзельная вага пайшчыкаў-членаў прафсаюзаў у агульнай масе пайшчыкаў | 95,2 | 86,0 | 84,1 | 80,0 | 73,6 | — | — | — |
| Сума паявых капіталаў у тысячах | 218,9 | 337,6 | 597,3 | 1401,0 | 2110,0 | 176,9 | 234,6 | 150,6 |
| Сярэдня-аплачаны пай | 3—51 | 4—26 | 5—90 | 11—00 | 13—28 | 138,5 | 187,0 | 120,7 |

Побач з агульным каапэраваньнем у 1928-29 годзе 85 проц. членаў прафсаюзаў зварочваецца асаблівая ўвага на падцягваньне больш за ўсё адсталых у каапэраваньні саюзаў, як, напрыклад: працасьветы, мэдсанпрацы, працаўнікоў мастацтва, дрэваапрацоўшчыкаў і г. д.

Некаторае падзеньне ўдзельнае вагі членаў прафсаюзаў у агульнай масе пайшчыкаў ЦРК адзначае сабою курс на ўзмацненьне каапэраваньня і іншых працоўных груповак (саматужнікі, студэнты і г. д.), а таксама найменш забясьпечаных груповак насельніцтва (утрыманцы). Аднак, удзельная вага рабочага ядра застанецца пераважнаю, што забясьпечвае рабочы ўплыў на працу каапэрацыі.

Тэмп паступленьня паявых капіталаў у рабоча-гарадзкой каапэрацыі, як і ў вясковай, апярэджвае рост каапэраваньня, што ў поўнай меры захоўваецца таксама і на 1928-29 год.

## II. Будаўніцтва сеткі

### 1. Вясковая сетка

Рост сеткі спажывецкіх таварыстваў у першыя гады разьвіцьця каапэрацыі БССР у значнай частцы адбываўся стыхійна. Колькасьць спажыўтаварыстваў узрастала да 1925-26 году, скарачаючыся ў наступныя гады з прычыны таго, што адбыўся перагляд мэтазгоднасьці існаваньня дробных, што ня маюць базы для працы, „карлікавых“ спажывецкіх таварыстваў.

Крамная сетка колькасна ўзрастае з прычыны замяшчэньня прыватнага гандляра і ліквідацыі г. зв. каапэрацыйных пустэчаў. Такім чынам, адбываецца перабудова сеткі ад аднакрамных таварыстваў да шматкрамных, што, бязумоўна, знаходзіць сваё грамадзка-эканамічнае апраўданьне ў шэрагу пераважнасьцяй шматкрамнага будаўніцтва над аднакрамным. Лічбы крамнага будаўніцтва вясковых спажыўтаварыстваў БССР, апрацаваныя аж да 1 красавіка 1928 года, адзначаюць, хоць і ня ў зусім пэўнай форме, імкненьне пераважнага разьвіцьця на вёсцы 3-4-крамкі, якая, відавочна, зьяўляецца найбольш прынятнай у нашых умовах.

Належыць адзначыць, што арганізацыйнае будаўніцтва спажыўтаварыстваў занадта неаднатыпова ў паасобных акругах Беларусі, таксама як і насычанасьць сеткаю крам розных раёнаў.

За апошні час стракатасьць арганізацыйнага будаўніцтва значна згладжваецца дзякуючы ўцягваньню будаўніцтва сеткі ў плянавае ўзьдзейнічаньне, што знаходзіць свой выраз у наступных даных:

| | Колькасьць крам на 1 с. т. | | | Колькасьць гаспад. на 1 краму | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 X-26 г. | 1/X-27 г. | 1/IV-28 г. | 1/X-26 г. | 1/X-27 г. | 1/IV-28 г. |
| Белкаапсаюз | 3.2 | 3,2 | 3,3 | 460 | 511 | 480 |
| Бабруйск | 2,9 | 3,4 | 3.3 | 446 | 400 | 407 |
| Віцебск | 2,3 | 2,7 | 3,2 | 538 | 499 | 459 |
| Гомель | 2.0 | 2,3 | 2,5 | 485 | 416 | 408 |
| Дняпросаюз | 2,8 | 2,9 | 3,2 | 573 | 620 | 596 |

Першая частка табліцы ясна паказвае на зьбліжэньне разьмеру шматкрамнасьці па паасобных раёнах, за выключэньнем Гомельскага, які адстае пакуль што ад сярэдняга ўзроўню па БССР.

Кіраўнічым началам пры плянаваньні сеткі спажыўтаварыстваў на 1928-29 год зьяўляецца:

1) найбольш поўнае абслугоўваньне спажыўца з адначасовым улічваньнем неабходнасьці патаненьня руху тавараў;

2) забесьпячэньне пайшчыку магчымасьці актыўнага ўдзелу і ўплыву на працу каапэратыву.

Прымаючы трох-чатырохкрамку за найбольш прынятны тып шматкрамкі на бліжэйшыя гады ў БССР (разьлік прыймальнасьці 3-4-крамкі ня прыводзіцца з-за грамоздзкасьці), агульныя даныя будаўніцтва на 1928-29 год па вясковай сетцы будуць мець такі выгляд:

| | 1/IV-1928 г. | 1/X-1928 г. | 1/X-1929 г. | У %/% да папярэдняга пэрыоду | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1/IV-28 да 1/X-27 г. | 1/X-28 г. да 1/IV-28 г. | 1/X-28 г. да 1/X-27 г. | 1/X-29 г. да 1/X-28 г. |
| Лік с. т. . . . . | 607 | 568 | 494 | 93,1 | 93,6 | 87,2 | 86,8 |
| Лік гандлёвых пунктаў . . . . | 1863 | 1880 | 2026 | 102,6 | 101,0 | 103,6 | 107,7 |
| Сярэдні лік крам на 1 с. т. . . . . | 3 | 3,3 | 4,1 | 107,0 | 101,0 | 108,4 | 121,3 |
| Сярэдні лік гаспадарак на 1 с. т. | 1479 | 1590 | 1846 | 104,1 | 107,6 | 115,8 | 116,2 |
| Сярэдні лік гаспадарак на адну гандлёвую адзінку . . . . | 484 | 480 | 450 | 98,4 | 99,2 | 97,6 | 96,3 |
| Сярэдні зварот па продажы на 1 гандлёв. адзінку ў тыс. руб. . | — | 41.5 | 44 | — | — | 130,0 | 106,0 |

У адзнаку ад іншых галін каапэрацыйнага плянаваньня на 1928-29 г., будаўніцтва сеткі ня прыводзіцца ў раённым разрэзе, каб у паасобных акругах будаўніцтва сеткі працякала на падставе агульных лімітаў, захоўваючы максымальную гнуткасьць.

Форма і характар меркаванага на 1928-29 год будаўніцтва могуць быць сьціслa ацэнены наступным чынам:

1. Рацыяналізацыя сеткі спажыўтаварыстваў, якая характарызуецца далейшым ростам шматкрамнага будаўніцтва.

2. Пашырэньне сеткі крам, замядленьне тэмпу нагрузкі сеткі пры адваротных тэндэнцыях ў 1927-28 годзе, што адзначае набліжэньне сеткі да спажыўца і паляпшэньне якасьці яго абслугоўваньня.

3. Ва ўмовах ушчыльненьня местачковае сеткі, дзе такое мерапрыемства магчыма, і больш мэтазгоднага геаграфічнага разьмяшчэньня сеткі, якасьць абслугоўваньня вясковага спажыўца яшчэ больш узрастае.

## 2. Рабоча-гарадзкая сетка

Крамнае будаўніцтва ў рабоча-гарадзкой сетцы да апошніх гадоў, у выніку розных прычын, разьвівалася пераважна ў гарадзкіх цэнтрах і рынках (70 проц.)

Неабходнасьць набліжэньня сеткі да рабочага спажыўца, які жыве пераважна на гарадзкіх акраінах, зьяўляецца адным з асноўных момантаў плянаваньня будаўніцтва сеткі рабоча-гарадзкое каапэрацыі на наступны год.

Аднак, у сувязі з скарачэньнем прыватна-гандлёвае сеткі, выходзячы з курсу на паляпшэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца, ёсьць вострая неабходнасьць паскарэньня будаўніцтва і пераабсталяваньня сеткі.

Лічбавы выраз будаўніцтва сеткі на 1928-29 год можна ўявіць сабе наступным чынам:

| НАЗВЫ Ц. Р. К. | Лік крам і ларкоў: | | Сярэдні лік насельніцтва на 1 краму | |
|---|---|---|---|---|
| | На 1/X-28 г. | На 1/X-29 г. | На 1/X-28 г. | На 1/X-29 г. |
| Бабруйскі | 46 | 55 | 1.130 | 945 |
| Барысаўскі | 29 | 34 | 930 | 800 |
| Віцебскі | 74 | 106 | 1.400 | 970 |
| Гомельскі | 51 | 84 | 1.760 | 1.073 |
| Добрускі | 12 | 13 | — | — |
| Менскі | 89 | 140 | 1.530 | 985 |
| Магілеўскі | 53 | 60 | 960 | 870 |
| Мазырскі | 19 | 21 | 530 | 485 |
| Аршанскі | 30 | 37 | 770 | 630 |
| Полацкі | 27 | 30 | 1.000 | 930 |
| Рэчыцкі | 37 | 32 | 460 | 550 |
| Шклоўскі | 17 | 18 | 520 | 500 |
| Іншыя ЦРК і ГСТ | 66 | 70 | — | — |
| Усяго | 550 | 700 | 1.213 | 798 |

Такім чынам, наяўная на 1 кастрычніка 1928 года паміж паасобнымі гарадамі вялізарная розьніца ў паказаніках насычанасьці, г. зн. у колькасьці насельніцтва, акое прыпадае на адну каапэрацыйную краму, да 1 кастрычніка 1929 года павінна будзе значна згладзіцца.

Пры гэтым—у сярэднім па БССР—колькасьць пайшчыкаў на адну краму зьнізіцца да 1 кастрычніка 1929 году да 227 супроць 296 на 1 кастрычніка 1928 году, або на 24 проц., пры агульным росьце ліку пайшчыкаў рабочае каапэрацыі на 25 проц.

### 3. Таваразварот

Гандлёвая праца спажыўкаапэрацыі праходзіла ў двух напрамках: а) забесьпячэньня гарадзкога і вясковага насельніцтва прамтаварамі і сельгаспрадуктамі спажывецкага характару; б) нарыхтоўкі сельска-гаспадарчае сыравіны і прадуктаў.

У выніку буйнага росту сваіх зваротаў за пэрыод, які прайшоў з часу перамогі над крызысам збыту 1923-24 году, беларуская спажыўкаапэрацыя да сучаснага моманту стала начале тавараправоднае сыстэмы, што відаць з наступных даных (у мільёнах руб.):

| | Абсалютныя разьмеры | | | Удзельная вага спажыўкаапэрацыі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
| Розьнічны зварот БССР | 231,0 | 263,0 | 271,8 | 35,5 | 40,8 | 50,0 |
| У тым ліку: вясковы | — | — | — | — | 62,0 | 74,0 |
| гарадзкі | — | — | — | — | 35,5 | 43,4 |
| Гуртавы таваразварот БССР | 204,3 | 190,6 | 269,7 | 37,0 | 50,4 | 55,2 |
| Агульны зварот БССР | 435,3 | 453,6 | 541,5 | 36,2 | 44,7 | 52,4 |

Тая акалічнасьць, што вясковы гандаль ахоплены спажыўкаапэрацыяй у значна большай ступені за гарадзкі, тлумачыцца, галоўным чынам, больш слабымі пазыцыямі прыватніка на вёсцы, што абумовіла больш паскораны працэс яго выцісканьня. З другога боку, прыніжаючым чынам на паказьнік абхопу гарадзкога насельніцтва робіць уплыў занадта невыстарчальнае яшчэ разьвіцьцё каапэрацыйнага гандлю сельгаспрадуктамі спажываньня, якія займаюць у бюджэце працоўных гораду вельмі значнае месца. Усё-ткі пры ўсім гэтым трэба абмовіць, што фактычна ступень каапэрацыйнага абхопу будзе большай, чымся гэта паказвае табліца, таму што мы карыстаемся данымі аб звароце ў грашовым выразе, а каапэрацыйныя цэны значна ніжэй цэн прыватнага гандлю.

Агульны малюнак разьвіцьця каапэрацыйных зваротаў за мінулыя гады і ўстаноўка, якая даецца ў гэтым напрамку кантрольнымі лічбамі на 1928-29 г., малююцца ў наступным выглядзе (у мільёнах руб.):

| ЗВАРОТЫ | Абсалютна | | | | У %% да папярэдняга году | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25—26 | 26—27 | 27—28 | 28—29 | 26—27 | 27—28 | 28—29 |
| Вяск с. т. | 42,5 | 57,2 | 72,0 | 88,7 | 134,6 | 125,8 | 123,2 |
| ЦРК і ГСТ | 39,6 | 50,1 | 62,9 | 78,0 | 126,5 | 125,5 | 124,0 |
| **Раздробны** | **82,1** | **107.3** | **134.9** | **166.9** | **130,7** | **125.7** | **123,6** |
| **Гуртавы** | **75,6** | **95,8** | **149,1** | **195,1** | **126,7** | **155,6** | **130,8** |
| **Агульны** | **157,7** | **203,1** | **284.0** | **361,8** | **128,8** | **139,8** | **127,4** |

Гэтыя лічбы даюць падставу зрабіць наступныя вывады:

а) абсалютна звароты ва ўсіх зьвенчакох узрастаюць, але тэмп штогодняга прыросту замаруджваецца; гэта вынікае перадусім з таго, што разьвіцьцё зваротаў каапэрацыі, якая заняла ўжо на рынку галоўнае месца павінна ў далейшым праходзіць у больш спакойным тэмпе, тым больш што і ўся сыстэма народнае гаспадаркі, якая закончыла адбудавальны пэрыод, увайшла ў паласу разьвіцьця, якое роўнамерна прагрэсуе;

б) разьвіцьцё зваротаў рабоча-гарадзкое каапэрацыі праэктуецца ў тэмпе, які некалькі апярэджвае тэмп развіцьця зваротаў вясковае каапэрацыі, што дыктуецца меншым абхопам каапэрацыяй гарадзкога насельніцтва;

в) гуртавыя звароты каапэрацыі (г. зн. райсаюзаў і БКС) у сваім разьвіцьці апярэджваюць звароты нізавых зьвенчакоў. Гэта адлюстроўвае ўсё большы абхоп вышэйшымі зьвенчакамі сыстэмы патрэбаў ніжэйшых зьвенчакоў, іншымі словамі—усё большае ўзмацненьне і разьвіцьцё ўнутрыкаапэрацыйных сувязяй.

Па паасобных зьвенчакох гэты працэс характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | Процанты пакупкі | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Райсоюзы ў БКС | 50,1 | 60,0 | 73,1 | 90,0 |
| ЦРК у БКС | 42,5 | 47,3 | 63,0 | 80,0 |
| Вяск. с. т. у сваіх саюзаў | 72,5 | 73,5 | 81,0 | 90,0 |

г) усё большае ўзмацненьне каапэрацыйных сувязяй абумоўлівае сабою рост каэфіцыэнту зьвеннасьці руху тавараў ўнутры спажыўсыстэмы (г. зн. паказьнік таго, колькі каапэрацыйных зьвенчакоў прайшла ў

даным годзе прапушчаная спажыўкаапэрацыяй таварная маса), а значыцца, і паступовае скарачэньне і выпадзеньне з каапэрацыйнага звароту некаапэрацыйных арганізацый.

Такое зьявішча, пры пераходзе БКС і, часткова, спажыўсаюзаў ад складзкіх апэрацый да транзытных і пры ўсё большым накіраваньні іх зваротаў у бок абслугоўваньня нізоўкі (скарачэньне да мінімуму гуртавых продажаў на бок) належыць ацэньваць, як патаненьне і паскарэньне каапэрацыйнага тавараздвароту.

Асноўнай сыстэмаю, якая абумоўлівае сабою такую рацыяналізацыю, зьяўляецца сыстэма генэральных умоў паміж каапэрацыяй і дзяржпрамысловасьцю.

Генэральныя ўмовы, замацоўваючы за каапэрацыяй пэўныя таварныя масы на вызначаны пэрыод, утвараюць умовы для плянаваньня зваротаў, для рэгуляваньня гандлёвае дзейнасьці паасобных зьвенчакоў у залежнасьці ад каньюнктуры і іншых акалічнасьцяй і для разьвіцьця транзытнага завозу тавараў на месцы спажываньня. Сыстэма генумоў, якая апраўдала сябе цалкам і поўнасьцю і якая атрымала ў беларускай каапэрацыі шырокае дастасаваньне, набывае ў 1928-29 годзе далейшае разьвіцьцё, што відаць з наступных даных:

| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|
| Удзельная вага апэрацый па гендагаварох у вагульным звароце БКС . . . . . . | 46 | 78 | 84,5 |

Гэтае разьвіцьцё адбудзецца за лік большага абхопу генумовамі асноўных таварных галін, а таксама і за лік пашырэньня асартымэнту новымі групоўкамі.

Разьвіцьцё транзыту, якое вынікае з генумоў па БКС, нязначна павялічваецца ў сувязі з амаль-што максымальным выкарыстоўваньнем ужо ў 1927-28 годзе, а ў акрсаюзах атрымлівае у 1928-29 г. значны штуршок, паколькі гэтаму будзе спрыяць: а) далейшая рацыяналізацыя і ўзбуйненьне нізавое сеткі, а значыцца, і ўзмацненьне яе прыстасаванасьці да закупак буйнымі партыямі; б) далейшае, хоць маруднае разьвіцьцё пераходу прамысловасьці да менш буйных транзытных адгрузак; в) разьвіцьцё практыкі папярэдніх заказаў.

Пераходзячы да пытаньня аб нарыхтоўчай працы спажыўкаапэрацыі, трэба перш за ўсё падкрэсьліць, што да гэтага часу яна на рынку сельгассыравіны яшчэ далёка не займае таго месца, якое б адпавядала яе магчымасьцям, што відаць з наступных лічбаў (у міл. руб.):

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| Чысты зварот спаж. каапэрац. . . . . . . | 91,7 | 115,0 | 146,6 | 181,7 |
| У тым ліку збыт загатовак . . . . . . . | 3,5 | 2,8 | 4,4 | 8,8 |

Гэтыя лічбы, праўда, не адбіваюць фактычнае ролі спажыўкаапэрацыі на рынку сыравіны і прадуктаў за папярэднія гады, наколькі спэцыяльныя нарыхтоўчыя арганізацыі ўжывалі ўсе захады да адносін з нашай нізоўкай праз галаву саюзаў і БКС, і тым самым каапэрацыйныя нарыхтоўкі часткова маскаваліся працаю дзяржнарыхтоўцаў.

Аднак, з усё большым узмацненьнем адзінства спажыўсыстэмы ўдалося аб'яднаць нарыхтоўчую працу ўсіх зьвенчакоў на падставе генэральных дагавароў з адпаведнымі арганізацыямі.

На хлебным рынку спажыўкаапэрацыя займае ўжо адно з грунтоўных месц, пры чым, у сувязі с паступовым агульным зьмяншэньнем хлебанарыхтовак у БССР (таварнасьць хлеба ў сельскай гаспадарцы штогодна памяншаецца за лік усё большага разьвіцьця жывёлагадоўлі), яе праца ў гэтай галіне ўсё больш зыходзіць да завозу хлеба з другіх раёнаў Саюзу.

На рынку сельгассыравіны для спажыўкаапэрацыі складаліся да 1928 г. вельмі няспрыязныя ўмовы, бо панавала думка як у цэнтры, так і на мясцох, што ў гэтай галіне спажыўкаапэрацыя працаваць не павінна, і толькі ў другой палове 1927-28 года распараджэньнем Наркамгандлю яна была прызнана асноўным нарыхтоўцам сыравіны, што дало зараз-жа значны штуршок яе працы ў гэтым напрамку.

Дзеля гэтага, уваходзячы ў 1928-29 г. на замацаваных пазыцыях, мы мяркуем павялічэньне нарыхтовак у два разы проці мінулага года на базе максымальнага пашырэньня ўнутрыкаапэрацыйных сувязяй.

Гэта павінна забясьпечыць значнае ўзмацненьне экспарту спажыўсыстэмы (1.600.000 проці 600.000 у 1927-28 г.), як часткі нашае працы, якае мае вялізнае дзяржаўнае значэньне.

(*Працяг у наступным нумары*).

---

**Талапіла**

# Да пытаньня аб арганізацыі збытавое і забесьпячальнае працы ў сыстэме сельска-гаспадарчае каапэрацыі

Гаспадарчая дзейнасьць сельска-гаспадарчае каапэрацыі павінна ісьці ў трох асноўных напрамках:

1. Арганізацыя на грамадзкіх пачатках вытворчасьці прадуктаў сельскае гаспадаркі і іх першапачатковай пераапрацоўкі.
2. Арганізацыя забесьпячэньня сродкамі вытворчасьці.
3. Арганізацыя збыту прадуктаў сельска-гаспадарчае вытворчасьці.

Невялікі памер гэтага артыкулу дазваляе спыніцца толькі на асноўных момантах памянёнае працы сель.-гасп. каапэрацыі.

Ня трэба яшчэ раз гаварыць аб тым, што ўжо даказана жыцьцёваю практыкаю, а менавіта, што далейшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, яе інтэнсыфікацыі павінна адбывацца, галоўным чынам, на аснове яе канцэнтрацыі, г. зн., узбуйненьня, шляхам абграмаджваньня працэсаў вытворчасьці.

Гэтая праца ва ўмовах сучаснага стану нашае сельскае гаспадаркі надзвычайна складаная і цяжкая. Дзякуючы культурнай адсталасьці самога насельніцтва і гістарычна зложаным формам гаспадаркі і гаспадараньня нашага сялянства—гэта дробная індывідуальная гаспадарка без усялякіх элемэнтаў грамадзкасьці ў даваенны час. Апошняе і рабіла ўплыў на разьвіцьцё прыватна-індывідуальна-ўласьніцкае ідэолёгіі. Таму надзвычайна адказнаю і важнаю задачаю сель.-гасп. каапэрацыі зьяўляецца вышуканьне самае формы працы, як арганізацыйнае, так і гаспадарчае. Ня варта і гаварыць аб тым, што ад належнага вышуканьня формы працы па зьмесьце будзе залежаць далейшае разьвіцьцё каапэрацыі як арганізацыйна, так і гаспадарча.

Аднэю з найбольш добрых форм і найбольш важнаю працаю будзе арганізацыя забесьпячэньня сродкамі сельска-гаспадарчае вытворчасьці вытворцы і збыту прадуктаў яго вытворчасьці. Правільна і дасканала арганізованая забесьпячальна збытавая праца забясьпечыць нам спраўную сувязь

з шырокімі масамі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі. Толькі на аснове спраўнае сувязі ўсіх зьвенчакоў сыстэмы сель.-гасп. каапэрацыі з непасрэдным вытворцам можа быць здаровае разьвіцьцё сыстэмы.

Справавая сувязь каапэрацыі з непасрэдным вытворцам можа разьвівацца і ўзбуйняцца сур'ёзна і трывала толькі на аснове ўзаемнае гаспадарчае выгоднасьці, пры чым гэтая выгоднасьць, зразумела, ва ўмовах рабоча-сялянскае дзяржавы, не павінна быць аднабокай ні для вытворчасьці, ні для паасобных арганізацый, а павінна быць у сапраўднасьці ўзаемнаю выгодаю як для вытворцы, так і для каапэратыву і дзяржавы.

Рашучы курс, які ўзяты на пашырэньне і паглыбленьне справавое сувязі з сельска-гаспадарчаю каапэрацыяй у 1927-28 гасп. годзе, на практыцы досыць добра сябе апраўдаў. Паводле справаздачы за першае паўгодзьдзе відаць павялічэньне звароту з 14.565 руб. да 20.468 руб.—47 проц., у выніку чаго па саюзах і Бельсельсаюзе, замест страты па апэрацыях, ёсьць некаторы прыбытак, гэта значыць дасягнута рэнтабэльнасьць у гаспадарчай працы і пашырэньне тэмпу каапэраваньня. Узяты курс, які сябе апраўдаў, неабходна настойліва працягваць у сваёй практычнай працы ўсім зьвенчаком сыстэмы сель.-гасп. каапэрацыі. Гэта значыць—уся сыстэма павінна паставіць перад сабою задачы на будучы гаспадарчы год: расшырэньне таваразвароту як па забесьпячэньні сродкамі вытворчасьці, так і па ахопе збыту прадуктаў і сыравіны. Вытворчасьць сельскае гаспадаркі таксама павінна быць узмоцнена, а праца па арганізацыі першапачатковае пераапрацоўкі прадуктаў сельскае гаспадаркі павінна быць палепшана.

Поруч з пашырэньнем гаспадарчае працы трэба яе і палепшыць як арганізацыйна, так і тэхнічна.

Рашуча і неадкладна трэба ўзмацніць апэрацыйную дысцыпліну. Гэта адна з найбольш слабых мясьцін у нашай гаспадарчай працы.

Узмацніць плянавасьць, разьліковасьць і прадугледжанасьць у працы.

Рашуча адмовіцца ад партызаншчыны і перайсьці да арганізаванага каапэрацыйнага збыту і забесьпячэньня, г. зн. рашуча спыніць сэпаратныя выступленьні на рынках ніжэйшых зьвенчакоў бяз ведама і згоды вышэйшых, а ўсю сваю працу праводзіць на аснове раней складзенага і пагодженага пляну па каапэрацыйнай лініі і выступаць самастойна на рынку ў выключных выпадках па другарадных відах, пагадзіўшы гэта з вышэйшым сваім цэнтрам у тых выпадках, калі бліжэйшы цэнтр ня можа задаволіць.

Палепшыць улік і справаздачнасьць. Гэта яшчэ больш слабая мясьціна ў каапэрацыі. Кожны каапэратар, кожны гаспадарнік наогул павінен памятаць, што ўлік і справаздачнасьць гэта ёсьць люстэрка, праз якое мы бачым і правяраем сябе, дзякуючы чаму мы і можам папраўляць свае недахопы. Чым больш дакладны ўлік, тым больш своечасова можна заўважыць недахопы і пазбавіцца іх.

Пашырэньне працы патрабуе і адпаведнага апарату (кадру людзей колькаснага і якаснага). У стане апарату сыстэмы сельгаскаапэрацыі, асабліва апэрацыйнага, трэба жадаць шмат лепшага. Ён, бязумоўна, не адпавядае пастаўленым перад намі задачам ні па колькасьці, ні па якасьці. Трэба ўзяць рашучы курс на перабудоўку апэрацыйнага апарату на справавым прынцыпе, трэба яго сабраць так, каб ён ня быў грамозным, але быў танным, каб кожны супрацоўнік у працы быў на сваім месцы. Трэба наладзіць справу так, каб апарат быў цалкам нагружаны, і каб праца была добра разьмяркована паміж паасобнымі зьвенчакамі і супрацоўнікамі, каб, ня пытаючыся ў начальства, кожны зьвянчак, кожны супрацоўнік ведаў, што яму рабіць. Толькі пры такіх умовах апарат зможа працаваць добра, карысна і быць аўтарытэтам перад рабоча-сялянскімі масамі.

Поруч з узмацненьнем тэмпу працы трэба ўзмацніць справавую крытыку хібаў нашае працы. Толькі на аснове здаровае спраўнае крытыкі можна працу палепшыць і аздаравіць.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

**Вэрман**

## Гандлёвыя пытаньні і пэрспэктывы на 1928-29 апэр. год

*(Агульнае выкананьне гандлёвага пляну за 1-ае паўгодзьдзе 1927-28 г. і далейшыя пэрспэктывы на 2-ое паўгодзьдзе 1927-28 і 1928-29 апэр. год).*

Калі за 1926-27 апэр. год зварот Белкаапсаюзу склздаў 50.150.000 р., дык толькі за першае паўгодзьдзе 1927-28 апэр. г. ён складае 45.054.000 р. Гэты рост наглядаецца па ўсіх таварах, асабліва-ж за лік дастатковых тавараў. Гэты рост зьявіўся ня толькі ў выніку павялічэньня зваротаў усяе сыстэмы спажыўкаапэрацыі, але і ў выніку ўзмацненьня ўнутры-каапэрацыйнае сувязі праз Белкаапсаюз з нашай дзяржпрамысловасьцю. Гэта непасрэдны вынік нашае гандлёвае палітыкі, пашырэньня практыкі гэнумоў.

Звароты другога паўгодзьдзя 1927-28 году прадугледжваюцца ў суме 40.821.000 руб., на 10 проц. менш супроць першага паўгодзьдзя, што залежыць ад шэрагу прычын: сэзоннасьці, пэрспэктыў завозу і спажывецкага попыту. Такім чынам, увесь зварот за 1927-28 апэр. год складае суму 85.875.000 руб. і больш звароту 1926-27 апэр. году на 71 проц.

Агульны зварот у 1928-29 апэр. годзе прадугледжваецца ў суме 111.168.000 руб., гэта значыць на 29 проц. больш, чым у 1927-28 ап. годзе. Процант адноснай вагі хлебапрадуктаў і садовіны некалькі павялічваецца за кошт рэшты тавараў. Гэта якраз тавары, па якіх нашы звароты яшчэ недастаткова разьвіліся, і павялічэньне іх ролі асабліва неабходна.

Рост зваротаў шэрагу тавараў (тэкстыль, скуран. тавары) затрымаўся ў сувязі з іх дэфіцытнасьцю. Зразумела, што павялічэньне нашых зваротаў супроць гэтага году на 29,4 проц.—гэта ня толькі ахоп нармальнага росту меркаванага попыту з боку спажыўца, але і далейшае значнае выцісканьне прыватнага гандлю. З гэтага пункту погляду асаблівая ўвага павінна быць аддадзена справе ўзмацненьня нашае сувязі з дробнай мясцовай прамысловасьцю і асабліва з саматужнай прамысловасьцю, як асноўнымі крыніцамі, якія пастаўляюць тавар для прыватнага гандлю.

### Пытаньне аб гэнумовах

Трэба зазначыць, што толькі дзякуючы наяўнасьці гэнумоў па асноўнай масе тавараў мы здолелі значна пашырыць нашы звароты дэфіцытнымі таварамі Грашовае становішча спажыўсыстэмы БССР не дазволіла-б атрымаць масы тавараў шляхам паасобных закупак, як гэта можа зрабіць шэраг арганізацый іншых раёнаў з больш моцным фінансавым становішчам. Калі нашай прамысловасьцю неаднолькава ставяцца пытаньні аб дэцэнтралізацыі гэнумоў або пытаньні разьліку, дык трэба мець на ўвазе, што ў большасьці выпадкаў тут ставіцца пытаньне аб захаваньні сваіх аддзяленьняў хаця-ж-бы шляхам пагаршэньня для каапэрацыі умоў разьліку. Толькі шляхам цэнтралізаваньня дагавароў мы ў сапраўднасьці можам дасягнуць магчымасьці манэўраваньня таварнымі масамі ў адпаведнасьці з інтэрэсамі нашае сыстэмы. Таксама зразумела, што найбольш ільготныя ўмовы мы можам атрымаць, выступаючы сумесна праз цэнтры спажыўкаапэрацыі, бо ў паасобку мы прымушаны будзем ісьці на цяжкія ўступкі, пад націскам цэнтралізаваных дзяржаўных гуртавых арганізацый

(сындыкатаў). Такім шляхам толькі цэнтралізаваная сыстэма гэнумоў больш за ўсё можа забясьпечыць інтарэсы нашых спажывецкіх арганізацый.

Трэба, аднак, спыніцца на практыцы гэнумоў, высьветліць недахопы, якія выявіліся, як з боку дзяржгандлю, так і нашай сыстэмы.

Перш-на-перш па шэрагу тавараў адгрузкі праходзілі вельмі неакуратна і несваечасова. Маслажырсындыкат парушае тэрміны адгрузкі сланечнага алею і мыла гаспадарчага; Хлебапрадукт ня поўнасьцю адгружае нормы сланечнага алею; ВМС зусім дрэнна адгружае эмаляваную пасуду і часткова парушае тэрмін адгрузкі жалеза квадратнага, круглага, піл папярэчных і г. д; дрэнна выконвае тэрміны адгрузкі цьвікоў Мэталётрэст; ёсьць невялікія ўхіленьні ад тэрмінаў адгрузкі ў Солесындыкаце; Прадасілікат таксама часам парушае тэрміны адгрузкі фарфору і фаянсу; Скурсындыкат, асабліва ў пачатку, не выконвае ў тэрмін заданьни на падашвяную скуру, палувал, хром і г. д., адгружае тавары не ў сэзон і зусім не адпускае хрому, часткай палувалу і г. д.; Гуматрэст парушае тэрміны адгрузкі галёш (па згодзе з НКгандлем СССР).

З боку асартымэнту таксама маюцца недахопы: Скурсындыкат, напрыклад, адпускае нам палувал, халявы, парн. крой і інш. тавары, чым не задавальняе наш асартымэнт; Дняпроўская мануфактура, ня гледзячы на ўмову, адказвае, што яна не выконвае асартымэнт, бо не атрымала адпаведнага сырцу і г. д.

Аднак, з нашага боку маюцца ня менш важныя недахопы. Ня гледзячы на неабходнасьць выбаркі тавараў у тэрмін, паказаны ва ўмове, мы адмаўляемся ад прыняцьця тавара асабліва ў часе сэзоннага зацішша.

Таксама ў галіне асартымэнту мы маглі-б значна палепшыць наша становішча, калі-б сваечасова паведамлялі аб асартымэнце, які патрабуецца. Напрыклад, шэраг арганізацый, ня гледзячы на запытаньні, не паказалі патрэбны ім асартымэнт абутку і ў сувязі з гэтым атрымаюць тавар у вытворчым асартымэнце, у той час, калі мы маглі-б выканаць жаданы асартымэнт і ў кожным разе ўстрымацца ад адпраўкі абутку не паводле заказу.

Вынікі нашае працы па гэнумовах павінны быць добра ўлічаны перад наступнымі перамовамі, бо неабходнасьць унясеньня дакладнасьці ў выкананьне гэнумоў—гэта асноўнае пытаньне, якое будзе ўнесена ў гэнумовы на 1928-29 апэр. год.

Мы павінны ў першую чаргу добра абмеркаваць нашу патрэбнасьць па паасобных таварах, унесьці яснасьць у патрэбны асартымэнт і абазначыць тэрміны адгрузак. Парушэньне наступных гэнумоў для бакоў будзе ўвязана з вялікімі стратамі (няўстойкі, пені, штрафы і г. д.), і дзеля гэтага дакладнасьць павінна быць унесена поўнасьцю.

Трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, што на наступны 1928-29 ап. год закупка тавараў ня ў лік гэнумоў будзе толькі выпадковая, і мераваць, што гэтым шляхам можна забясьпечыць таварамі сябе, вялікая памылка. Мы бачым, што нават дробная мясцовая прамысловасьць, нават саматужная, увязвае свае вытворчыя магчымасьці з наяўнасьцю дагавароў і, такім чынам, ня будзе ўладаць значнымі запасамі тавараў.

Усё вышэйпаказанае абавязвае нас пачаць сваечасовую падрыхтоўку да высьвятленьня пытаньняў, зьвязаных са злажэньнем гэнумоў на 1928-29 ап. год, маючы на ўвазе, што ад гэтага будзе залежаць наша дзейнасьць і велічыня звароту.

### Папярэднія заказы

У нашых умовах папярэднія заказы—гэта заказы, якія ўвязаны з вытворчымі магчымасьцямі, гэта націск на прамысловасьць з боку спажыўца з мэтаю прыстасаваньня вытворчасьці да свайго попыту. Гэта вялікае дасягненьне павінна быць пашырана па магчымасьці на ўсе тавары, і па сутнасьці гэта найлепшая гарантыя ад затаварваньня, найлепшая ўвязка вытворчасьці з попытам спажыўца.

Практыка папярэдніх заказаў па тэкстыльнай групе тавараў выявіла, што гэта пытаньне патрабуе значнае падрыхтоўкі як спажыўкаапэрацыі гэтак асабліва і тэкстыльнае прамысловасьці. У сувязі з скасаваньнем значнае часткі папярэдніх заказаў, згодна з пастановаю Наркамгандлю аб узмоцненай адгрузцы ў хлебазагатоўчыя раёны, уплыў выкананьня папярэдніх заказаў яшчэ добра не вызначыўся, але гэта ні ў якім разе не павінна быць довадам, нібыта папярэднія заказы сябе не апраўдалі.

Папярэднія заказы, бязумоўна, могуць дапамагчы больш правільнаму разьмеркаваньню наяўных тавараў па паасобных раёнах.

Папярэднія заказы прымушаюць нашу сыстэму зьвярнуць больш увагі на асартымэнт,якасьць і цану тавараў, яны садзейнічаюць паглыбленьню нашае працы і навучаюць нас уносіць больш яскравасьці і плянавасьці ў нашу працу.

Таму на гэтае пытаньне трэба зьвярнуць найбольш увагі, усімі магчымымі спосабамі дапамагаючы прамысловасьці выпрацоўваць патрэбны рынку асартымэнт тавару.

### Агульныя пытаньні асартымэнту тавараў

Цяпер, калі спажыўкаапэрацыя зьяўляецца асноўным зьвянком, які зьвязвае прамысловасьць са спажыўцом, трэба пытаньню аб асартымэнце тавараў аддаць належную ўвагу і ўвесьці яго ў належныя арганізацыйныя формы. Мы павінны памятаць, што адказнасьць за недастаткова высьветлены асартымэнт і зьмены попыту спажыўца цалкам будзе ўскладзена на нашу сыстэму. Такім чынам, мы будзем адказны за нядогляд у справе ўліку зрухаў рынкавага попыту, які павінен выклікаць зьмены вытворчых праграм нашае прамысловасьці. Гэта выклікае патрэбнасьць унясеньня дакладнасьці ў гэтую працу. Перш-на-перш нам трэба будзе ўстанавіць кантрольныя пункты па саюзах, спажыўтаварыствах і церабкаапах для вывучэньня попыту спажыўца і правільна па вызначаных тэрмінах даваць неабходныя зьвесткі аб зьменах попыту на той ці іншы тавар. Арганізацыя кантрольных пунктаў па вывучэньні попыту спажыўца зьяўляецца нашай чарговай і тэрміновай задачай.

### Пытаньне аб узмацненьні транзытнага завозу

Далейшае разьвіцьцё нашае практыкі транзытнага завозу залежыць больш за ўсё ад двох асноўных момантаў.

Першае—гэта ўнясеньне дакладнасьці ў асартымэнт і якасьць тавараў,а другое—гэта неабходнасьць адгрузак тавараў дробнымі партыямі, якія было-б магчыма накіроўваць непасрэдна ў больш буйныя спажыўтаварыствы. Пры гэтым таксама трэба паставіць пытаньне пра гуртавыя цены франко станцыя прызначэньня. Акрамя гэтага, па шэрагу тавараў мы лічым магчымым пашырыць транзітны завоз шляхам аб'яднаньня завозу для спажыўтаварыстваў, у першую чаргу па таварах: цукар, соль, шыннае і гатунковае жалеза.

Узмацненьне і пашырэньне транзытнага завозу прымушае нас паставіць пытаньне аб ліквідацыі баз дзяржпрамысловасьці, бо яны выклікаюць павялічаны кошт тавараў і ствараюць непатрэбнае пасярэдніцтва. Гэта датычыцца ў першую чаргу да баз: Цукратрэсту, Рыбсындыкату, Тэкстыльсындыкату, Гуматрэсту, тытуновых трэстаў і Продасілікату.

### Пытаньне аб нармальных тэрмінах таваразвароту і ўмовах разьліку

Дзеля плянавага разьвіцьця нашых гандлёвых таваразваротаў трэба ўнесьці дакладнасьць у тэрміны нармальнага таваразвароту, асабліва захаваньня на складзе, нахаджэньня ў пуці, прыйманьня і распакоўкі. Па высьвятленьні гэтых норм па паасобных зьвянкох нашае сыстэмы трэба па кожнай групе тавараў дабівацца адпаведных умоў разьліку. Згодна зьвестак аб крэдытах, якія атрымліваюцца ад прамысловасьці і якія патрэбны ў сапраўднасьці, маюцца вялікія разыходжаньні, якія выклікаюць напружанае грашовае становішча нашае сыстэмы і затрымліваюць магчымае пашырэньне нашых зваротаў.

**Пытаньне аб плянах, заяўках і падліку**

З вышэйпаказанага нам трэба зрабіць наступныя вынікі:

1. Наша гандлёвая праца на наступны 1928-29 апэр. год значна зьмяняе свае формы і мэтады ў параўнаньні з мінулым часам.

2. Пытаньне аб уліку спажывецкага попыту, аб дачы адказных і арыэнтыровачных заявак, з дакладна выпрацаванымі пытаньнямі аб якасьці і асартымэнце тавараў, зьяўляецца галоўнай часткай нашае наступнае гандлёвае працы.

3. Рацыяналізацыя таваразвароту павінна ісьці па шляху ўзмацненьня ролі гэнумоў, пашырэньня транзытнага завозу, пераходу, па магчымасьці, на сыстэму папярэдніх заказаў, вывучэньня рынкавага попыту і ліквідацыі непатрэбнага пасярэдніцтва праз гуртавыя базы дзяржаўнага гандлю.

---

**Ваўкавіцкі**

# Пра працу рэвізійных камісій

Рост нашае каапэрацыйнае гаспадаркі патрабуе з боку рэўкамісій яшчэ большае ўвагі. Рэўкамісіі, якія заўсёды наглядаюць за працаю свайго каапэратыву, павінны своечасова выяўляць недахопы ў працы і ўжываць захады да іх зьнішчэньня. Рэўкамісіі не павінны займацца толькі праверкаю і пераўчотам тавараў, яны павінны праверацць усе галіны працы свайго каапэратыву.

Асабліва пільна павінны яны высьветліць наступныя пытаньні: ці правільна праводзіцца праца ў адносінах каапэраваньня і збору паявых узносаў; ці аддаецца ўвага з боку праўленьня пытаньню каапэраваньня і павялічэньня ўласных сродкаў за лік паявых узносаў; у якой ступені ахоплены ў справе каапэраваньня ўсе насялёныя пункты, якія абслугоўваюцца даным таварыствам, бо ў практыцы працы бываюць такія выпадкі, калі тое ці іншае спажывецкае т-ва займаецца каапэраваньнем на месцы знаходжэньня праўленьня, не праводзячы адпаведнае працы ў аддзяленьнях, ад чаго аддзяленьні каапэратыву налічваюць мізэрную колькасьць пайшчыкаў з нязначнаю сумай паявога капіталу.

Па пытаньні пагашэньня паявое запазычанасьці рэўкамісія павінна выявіць: ці праводзіцца кантроль за спагнаньнем паявое запазычанасьці, ці пасылаюцца напамінаньні пайшчыкам, і якія захады ўжываюцца да пагашэньня паявое запазычанасьці.

У галіне гандлёва-нарыхтоўчае працы трэба праверыць ступень абслугоўваньня пайшчыка, правільнасьць пабудовы асартымэнту. Тут могуць быць такія выпадкі, калі праўленьне пры закупцы тавараў ня ўлічвае попыту спажыўца. Трэба высьветліць, ці захоўваецца прынцып першачарговасьці і пераважнага абслугоўваньня пайшчыка, ці ёсьць плянавасьць. Трэба пераканацца ў мэтазгоднасьці ўтрыманьня паасобных крам, праверыць нагрузку штату, метазгоднасьць паасобных паездак за таварамі (магчыма за паасобнымі таварамі, як соль, цукар, газа, селядцы і г. д), наколькі правільна праводзіцца праца ў адносінах назапашаньня сыравіны і прадуктаў; ці выконвае праўленьне заданьні свайго каапэрацыйнага цэнтру; ці вывешаны цэны на відным месцы, каб селянін пры здачы прадуктаў мог праверыць, ці правільна з ім разьлічыліся; ці ўжыты захады да большага ахопу нарыхтоўчага раёну; як абходзяцца крамнікі з пакупцамі; ці захоўваюцца праўленьнем устаноўленыя нормы налажэньня і ці няма павышэньня цэн; ці захоўваюцца крамнікамі даныя ім для кіраўніцтва цэны; ці захоўваюцца праўленьнем нормы, устаноўленыя каапэрацыйнымі цэнтрамі;

ці ажыцьцяўляецца дырэктыва аб звароце ў налічку вінаватых асоб усялякіх перавыдаткаў па каштарысе; у якой ступені разьвінуты апэрацыі па ўкладах; ці аддаецца гэтаму пытаньню ўвага з боку праўленьня; велічыня запазычанасьці розных асоб і парадак яе пагашэньня; ці ажыцьцяўляецца дырэктыва аб спыненьні водпуску тавараў у крэдыт каму папала (паводле дырэктывы водпуск тавараў у крэдыт лічыцца як растрата); ці ўзысканы сумы ад растратчыкаў?

Вось коратка асноўныя задачы рэўкамісіі. Як-жа рэўкамісія праводзіць сваю працу?

Можна сказаць, што большасьць рэўкамісій абмяжоўваюцца толькі пераўлікам тавару, не кранаючыся пералічаных момантаў працы. А іншыя рэўкамісіі зусім нічога ня робяць. Дзе прычына гэтае ненармальнасьці?

Зусім ня згодзен з таварышамі, якія тлумачаць гэта неразуменьнем сыстэмы так званае амэрыканскае справаздачнасьці і тым, што „гэтая сыстэма проста кара для рэўкамісій і пайшчыкаў“.

Амэрыканская сыстэма па сваёй структуры зьяўляецца самаю простаю і нескладанаю, і ня толькі рэўкамісіі, але і пайшчыкі разьбіраюцца і разумеюць гэту сыстэму.

Іншыя таварышы робяць вынік, што пасьля праверкі кніг рэўкамісіяй інструктарам вышукваецца шэраг ненармальнасьцяй. Гэтага нельга тлумачыць „складанасьцю сыстэмы“, а гэта, як устаноўлена ў працэсе працы, атрымоўваецца таму, што рэўкамісіі, пры падлічэньні кніжных запісаў з дакумэнтальнымі дадзенымі, не правяраюць самых дакумэнтаў, бо лічаць, што сам дакумэнт зьяўляецца правільным. Вось у чым бяда. Для прыкладу можна даць наступныя факты: спажывецкія т-вы пры закупцы тавараў выдаюць на частку сумы вэксалі; калі спажывецкае т-ва пераводзіць грошы па пошце ў лік платы па вэксалі, яно бярэ квіток аб пасылцы грошай; пасьля гэтага бухгальтэрыя зварочвае назад вэксаль. Што робяць іншыя працаўнікі спажывецкіх т-ваў? Сьпісваюць па касе ў выдатак на аснове квітка, а пасьля і на аснове самога вэксаля. Пры праверцы рэўкамісіі прымаюць ў аснову гэты квіток, забываючы, што выдатак па ўплаце вэксаля павінен быць зроблены толькі на аснове самога вэксаля, які зьяўляецца апраўдальным дакумэнтам.

Тыя таварышы, якія тлумачаць бязьдзейнасьць рэўкамісій неразуменьнем „амэрыканскае сыстэмы“, імкнуцца ператварыць рэвізійныя камісіі ў вузкі кантроль. Задача рэўкамісіі куды шырэйшая, як толькі займацца пераўлікам і праверкай. Гэта відаць з асноўных момантаў дзейнасьці рэўкамісіі, якія паказаны. Праверку момантаў у галіне каапэраваньня, абслугоўваньня пайшчыка, назапашаньняў, цэн можна зрабіць і ня будучы спэцыялістым-бухгальтарам.

Праўда, дрэнна бывае там, дзе справаздачнасьць заблытана. Але зноўжа тут вінаваты рэўкамісіі. Трэба зараз-жа зьняць рахункавода. Між тым гэтага ў нас ня робяць, і рэўкамісіі на гэта пытаньне не зварочваюць увагі.

Урэшце ў буйных местачковых спажывецкіх т-вах можна запрасіць спэца-бухгальтара для праверкі кніг ці запрасіць інструктара.

Такім чынам пытаньне пра неразуменьне справаздачнасьці адпадае.

Неабходна ўзмацніць адказнасьць рэўкамісій перад масаю пайшчыкаў. Пайшчыкі павінны вымагаць ад рэўкамісіі поўнага ахопу дзейнасьці спажывецкага т-ва, а калі яна гультайнічае, яе трэба зараз-жа пераабраць.

Наш лёзунг—„далоў ганаровыя камісіі“. „Больш увагі каапэрацыйнаму кантролю“.

К.

# Разьвіцьцё жыльлёвае каапэрацыі.

З найгалоўнейшых задач, якія стаялі перад БЖС на падставе пастаноў 2-га Ўсебеларускага зьезду ўпаўнаважаных і 3-га сходу ўпаўнаважаных г. Менску, былі наступныя: 1) сваечасовае выяўленьне і разьмеркаваньне крэдытаў для сыстэмы на 1928 г.; 2) загатоўка будаўнічых матар'ялаў і атрыманьне лесасек; узбуйненьне і раёнаваньне ЖАКТ і ЖБКТ, 4) урэгуляваньне пытаньня разьмеркаваньня жыльлёвае плошчы; 5 устанаўленьне плянавасьці будаўніцтва і адпаведнасьці яго разьмераў з фінансавымі мажлівасьцямі; 6) устанаўленьне адзінага паю і ўзмацненьне збору паявых капіталаў; 7) зьніжэньне накладных выдаткаў па кіраўніцтве і будаўнітве, 8) узмацненьне працы камісіі нізовае сеткі і інструктаваньне, асабліва жывое; узмацненьне плянавасьці культурна-бытавое працы і распрацоўка практычных мерапрыемстваў па ваенізацыі.

Дзяржплян і Эканамічная нарада пасьля прадстаўленьня пляну ў кастрычніку разглядзелі і зацьвердзілі яго ў лістападзе толькі ўмоўна.

У сувязі з рознымі незалежнымі прычынамі выяўлялася, што цэлы шэраг крыніц крэдытаў пачынае адпадаць поўнасьцю і часткова (напрыклад, сума чыгуначнага транспарту 830.000 руб.). Фонд паляпшэньня побыту застаўся нявырашаным. Канчатковыя разьмеры крэдытаў, за выключэньнем фонду паляпшэньня побыту высьвятліліся толькі ў лютым месяцы, а апошні з іх нават у красавіку. Розьніца паміж першапачатковымі меркаваньнямі БЖС і крэдытамі, зацьверджанымі Эканомічнай нарадаю складае 60 проц. Што датычыцца ЖАКТ, то крэдыты выявіліся ў 588.000 руб. БЖС даў Банку сваю думку аб разьмяркаваньні крэдытаў, але апошні з прычыны неакуратнага пакрыцьця ЖАКТ'амі сваіх абязальніцтваў крэдыту амаль-што не адпусьціў, а толькі растэрмінаваў пакрыцьцё запазычанасьці. Гэтакім чынам ЖАКТ'ы ў гэтым годзе значна паменшылі рэмонтныя работы (параўнальна з мінулым годам прыблізна на 60—70 проц.).

БЖС былі ўжыты энэргічныя захады да ўстанаўленьня плянавасьці працы і дзякуючы гэтаму паўтарэньня такіх зьявішчаў, як моцная фінансавая напружанасьць каапэратываў, мы ўжо ня мелі. Спэцыяльна было зроблена інжэнэрамі абсьледаваньне становішча дамаўладаньняў, устаноўлена чарговасьць рэмонтных работ і складзены на іх каштарысы.

Адносна памераў будаўніцтва практыка самых ЖАКТ'аў паказала, што перавыдатак кепска адбіваецца на будаўніцтве і на агульным становішчы жылкаапэрацыі. Акрамя гэтага, лінія Камбанку і БЖС можа гарантаваць ад паўтарэньня такіх зьявішчаў перадкрэдытаваньня.

Стварэньне ўласнага будаўнічага органу, які здолеў-бы абхапіць работы ЖАКТ'аў, Белжылсаюз лічыць несваечасовым і абмяжоўваецца пакульшто кансультацыяй ЖАКТ'аў па гэтых пытаньнях.

НКУС і Белжылсаюзам распрацаваны законапраэкт, які прадугледжвае вырашэньне пытаньняў аб парадку забесьпячэньня жыльлёваю плошчаю рабочых і служачых, ня членаў ЖАКТ'аў, непрацоўных элемэнтаў і г. д.

Па дакладзе Белжылсаюзу на пленуме Гарсавету ад 10-га траўня 1928 году таксама прынята пастанова аб высяленьні непрацоўных элемэнтаў і ўшчыльненьні да нормы 1,8 кв. саж.

Па закранутых пытаньнях для практычнага іх вырашэньня была склікана нарада сэкратароў і старшынь ЖК.

Таксама распрацованы асноўныя прынцыпы засяленьня жыльлёвае плошчы. Асаблівая ўвага з боку БЖС была зьвернута на ўзмацненьне жывога інструктаваньня сеткі і ажыўленьня працы ўсіх камісій, якія існуюць пры праўленьнях нізавых каапэратываў.

З гэтай мэтаю быў распрацованы ўзорны плян працы камісій, практыкаваліся нарады і канфэрэнцыі ўсіх камісій пры Белжылсаюзе. Такіх нарад было праведзена больш 15. Інструктаваньне, галоўным чынам, мела на мэце вырашэньне паасобных пытаньняў і іх праверку. Так, праверана выкананьне норм дамавога каштарысу, праведзена праверка работы камісій, пастаноўкі ўліку матар'ялаў, тэхнічнае справаздачнасьці і г. д. Па ўсіх гэтых пытаньнях былі даны адпаведныя ўказаньні.

Пытаньню ўзбуйненьня і раёнаваньня нізовае сеткі Белжылсаюз аддаў шмат увагі. З пытаньнем рэарганізацыі сеткі ўвязалася пытаньне мэтазгоднага вядзеньня жыльлёвае гаспадаркі і найбольш правільнае эксплёатацыі жыльлёвага фонду. Невялікая практыка працы ў гэтым напрамку за 1926 г. дала станоўчыя вынікі, адбіўшыяся на паляпшэньні гаспадарчае дзейнасьці каапэратываў. Аднак на шляху да вырашэньня пытаньня пра далейшае ўзбуйненьне ў зьвязку з эканамічнай складанасьцю яго ёсьць яшчэ значныя цяжкасьці, і апошняе патрабуе пільнага і ўсебаковага вывучэньня.

Пры Белжылсаюзе была створана камісія, якая занялася папярэднім вывучэньнем гэтага пытаньня. Па пытаньнях узбуйненьня і раёнаваньня было праведзена 102 сходы і пасяджэньні.

У выніку праведзенае працы з 36 ЖАКТ'аў засталося 22. 2-гі Усебеларускі зьезд упаўнаважаных жыльлёвае каапэрацыі даў дырэктывы, якія вызначылі важнасьць культурна-бытавое працы, вызначыў формы і мэтады практычнага культурна-бытавога будаўніцтва нізовае сеткі. Праца культурна-бытавых камісій была пабудована з такім разьлікам, каб як мага шырэй прыцягваць да практычнае працы працоўных жанчын. У культурна-бытавой працы прымае ўдзел 95 жанчын. Утворана 8 чырвоных куткоў. У 13 гуртках ліквідацыі няпісьменнасьці займалася 223 чалавекі.

Пры Белжылсаюзе былі ўтвораны пяцімесячныя курсы для перападрыхтоўкі каапэрацыйных працаўнікоў. Для падрыхтоўкі працаўнікоў дашкольнага выхаваньня былі ўтвораны шасьцітыдневыя курсы. Былі праведзены канфэрэнцыі жанчын, хатніх гаспадынь, якія (канфэрэнцыі) у сэнсе падняцьця актыўнасьці і вызначэньня шляхоў далейшага разьвіцьця культурна-бытавое працы поўнасьцю сябе апраўдалі. Плян назапашаньняў на 1927 год выкананы на 123,2% проц. У справе назапашаньня перавышэньне супроць папярэдніх меркаваньняў далі назапашаньні наступных матар'ялаў: шкла ваконнага, вапны, цэглы і лесаматар'ялаў. Недахоп адчуваўся толькі ў пакосьце і дахавым жалезе; цэмант, праўда, паступіў, але з вялікім спазьненьнем.

Агульны зварот за 1927 год выразіўся ў 1.545.938 руб., што параўнальна з 1926 годам дае рост на 44 проц. Матар'ялы закупляліся, галоўным чынам, у дзяржорганаў (63,93 проц.) і ў каапэрацыі (Цэнтражылсаюз — 30,85 проц., іншыя каапарганізацыі—3,59 проц.). Процант закупленых у дзяржаўных органах параўнальна з леташнім годам павялічыўся на 16,48 проц. і ў Цэнтражылсаюзе на 1,5 проц. Пры бязумоўным павялічэньні закупак на 64 проц. сярэдні процант накідкі вызначыўся ў 7,16 проц.

Наогул трэба зазначыць, што Белжылсаюз у вялікім ліку выпадкаў наогул робіць накідкі меншыя, чымся гэта дазволена Наркампрацы. Распрацоўка і назапашаньне лесаматар'ялаў у акругах праводзіцца акржылсаюзам поводле ўмоў, пад кіраўніцтвам БЖС. Лесаапрацоўкі праводзіліся ў наступных акругах: Менскай, Барысаўскай, Аршанскай, Віцебскай і Магілеўскай. Для складаньня калькуляцый усе акругі былі аб'яднаныя ў 5 раёнаў: Менскі, Барысаўскі, Віцебскі, Магілеўскі і Аршанскі.

Назапашана будаўнічых матар'ялаў на 880.672 руб. Пытаньнямі назапашаньня Белжылсаюз пачаў займацца ўжо ў траўні месяцы 1927 году. Да гэтага часу быў складзены плян назапашаньняў на падстве выкананьня пляну 1926 году і наяўных матар'ялаў 5-гадовага пляну будаўніцтва. Была дана заяўка на лесасеку, і з ліку 95.000 куб. мэтраў, якія прасіла жылкаапэрацыя, ёй адпушчана 65.000 куб. мэтраў, ці 69 проц. патрэбнасьці; акрамя таго, адпушчана 82.230 куб. мэтраў на дровы, якія жылкаапэрацыяй назапашаны і перададзены каапэрацыйным арганізацыям.

Трэба адзначыць, што пытаньне аб водпуску лесасек стаяла на цэлым шэрагу камісій, якія ў большасьці сваёй у водпуску матар'ялаў адмаўлялі. Прышлося многа звыдаткаваць часу і працы для таго, каб давесьці мэтазгоднасьць перадачы жылкаапэрацыі лесараспрацовак, і толькі пасьля эканомнарада, нарэшце, вырашыла належным чынам гэта пытаньне.

Лесаапрацоўкі ў першым квартале 1928 году прайшлі здавальняюча. Пляны выкананы на 108 проц.

Маючы практыку 1927 г. па назапашаньні цэглы, у якой адчуваўся недахоп, мы часткова праводзілі драўлянае будаўніцтва. Белжылсаюз летась, у чэрвені, злажыў умову з „Торгстроем" на дастаўку цэглы ў колькасьці 3.000.000 штук. І гэтым самым ён поўнасьцю забясьпечыў сябе цэглаю і нават меў магчымасьць, з прычыны памяншэньня крэдытаў, вылучыць частку яе, а таксама і іншыя матар'ялы для іншых арганізацый.

Наогул, выкананьне пляну да гэтага часу праходзіць нармальна. Выдаткі на кіраўніцтва выявіліся ў 41.362 руб. 31 кап., што складае да агульнага звароту 2,68 проц. супроць 3,72 проц. у 1926 годзе. Выдаткі на будаўніцтва выявіліся ў суме 28.623 руб. 77 кап., ці 5,35 проц. да агульнае коштоўнасьці супроць 5,56 проц. у 1926 г. Гэта дае адноснае памяншэньне выдаткаў на 0,21 проц. да кошту будаўніцтва, альбо на 3,78 проц. адносна мінулага году.

Агульны процант выдаткаў выявіўся ў 5,76 проц. супроць 6,56 проц. 1926 г., г. зн., выдаткі зьнізіліся на 0,8 проц. да звароту.

Усіх РЖБКТ на 1 студзеня 1928 г. налічваецца 22. За справаздачны 1927 г. лік т-ваў супроць леташняга году значна павялічыўся. Рост складае 83 проц. Аднак, дзякуючы праведзенаму ўзбуйненьню т-ваў, што існавалі дагэтуль, у сучасны момант мы маем 12 РЖБКТ.

Разам з ростам т-ваў праходзіць у іх і рост ліку членаў. Зьмены ліку членаў і сацыяльнага складу характарызуюцца наступнымі весткамі: за год лік членаў павялічыўся з 548 да 1.070, што дае прырост на 95%

Паводле свайго сацыяльнага становішча членская маса падзяляецца

| | 1/I 1927 г. | 1/I 1928 г. |
|---|---|---|
| Работнікаў | 60,52 проц. | 67,30 проц. |
| Служачых | 38,48 „ | 31,32 „ |
| Юрыд. асоб | — | 0,04 „ |
| Іншых | 1,00 „ | 1,34 „ |

Такім чынам з паказаных даных відаць павышэньне ўдзельнае вагі работнікаў у агульным складзе пайшчыкаў РЖБКТ.

У справе намнажэньня ўласных сродкаў мы маем значныя дасягненьні. У сярэднім на аднаго члена на 1 студзеня 1927 г. мы маем 29 р., на 1 студзеня 1928 г.—64 р. 78 к., альбо 336 проц. Адносіны ўласных паявых сродкаў да доўгатэрміновых крэдытаў характарызуюцца наступнымі лічбамі: 1926 г.—1 : 28, 1927 г.—1 : 13.

Ня гледзячы на вялікі рост паявога капіталу, усёж адносіны яго да пазычных доўгатэрміновых сродкаў яшчэ пакідаюць жадаць шмат лепшага. У далейшым галоўная задача—узмацніць увагу да пытаньня паянамнажэньня.

Заселена ўсяго да 1-га студзеня 1928 г. 215 кватэр з 5.852 кв. мэтраў жылое плошчы, бяз кухняў і карыдораў (паводле няпэўных вестак). Сярэдні памер жылое плошчы аднае кватэры бяз кухні і карыдору складае 37 кв. м.

Заселеная плошча разьмяркована наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Занята работнікамі з іх сем'ямі | 68,16 проц. |
| „ служачымі | 11,27 „ |
| „ кватарантамі | 17,13 „ |
| „ дам. служачымі і прыслугаю | 0,18 „ |
| „ пад памяшк. агульнага карыст. | 2,56 „ |
| „ пад гандл.-складачн. памяшканьні | 0.72 „ |

Як у складзе засельшчыкаў, так і паводле плошчы, якую яны займаюць, асноўнаю зьяўляецца група работнікаў.

Пачата будаваньнем на 1-е студзеня 1928 г.

| Характар будаўніцтва | Удзельн. вага будаўніцтва |
|---|---|
| Новае драўлянае | 69,04 |
| Новае каменнае | 8,04 |
| Адбудаваньне каменнага | 19,74 |
| Новае дасьледчае | 3,18 |

Лік ЖБКТ, якія будаваліся ў 1926 г., складаў 69 проц. агульнага ліку ЖБКТ, а ў 1928 г. лік іх павялічыўся да 86 проц.

Калі да 1928 году будаўніцтва пераважна было драўлянае, дык у 1928 г. вызначаецца значны пералом у бок пераходу да буйнага каменнага будаўніцтва.

Да 1926 г. будаўнічыя работы ў ЖБКТ у большасьці выпадкаў вяліся гаспадарчым спосабам. У наступныя гады вядзеньне будаўнічых работ перадавалася Белжылсаюзу, бо гэты спосаб зьявіўся больш эканамічным і выгадным.

Разьмеркаваньне выдаткаў па будаўніцтве 1927 г. наступнае: матар'ялы—55,98 проц., работніцкая сіла—35,82 проц.; арганізацыйныя выдаткі—8,20 проц.

Будаўніцтва ў 1928 г. паводле пляну для гарадоў Менску і Барысава вызначана ў 563.000 руб., у тым ліку на Менск прыпадае 443.800 руб. і на Барысаў 119.200 руб.

Будаўніцтва 1928 году складае 18.250 куб. мэтраў.

Агульны валавы прыбытак па 31 ЖАКТ'у складае 864.072 руб., выдатак-жа—1.229.916 руб. Такім чынам, перавыдатак складае 29,8 проц. Перавыдатак цяжка адбіўся на фінансавым становішчы ЖАКТ'аў, выклікаўшы моцную напружанасьць і затрыманьне сваечасовага выплату запазычанасьці банку і іншым арганізацыям. І гэта пацьвярджае яшчэ раз, што крэдыты, якія адпускаюцца ЖАКТ'ам на 1½ гады, нявыстарчальныя, што іх трэба павялічыць да 5 гадоў.

Каштоўнасьць усяго рэмонту паводле дагавароў ЖАКТ'аў з Камгасам вызначана ў 1.969.305 руб., выканана-ж рэмонтаў на 1.620.000 руб., процант выкананьня складае 80,2.

Галоўным дастаўцам будаўнічых матар'ялаў зьяўляецца Белжылсаюз, на які прыпадае 86,6 проц. усяе сумы закупленых ЖАКТ'амі матар'ялаў. Другое месца займаюць дзяржорганы—14 проц., на долю іншых каапэрацыйных арганізацый і прыватных асоб прыходзіцца 5,4 проц.

В. Энгэльгарт

# Аб працы рэвізійных камісій сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў

Пытаньню працы рэвізійных камісій с.-г. крэдытных т-ваў трэба аддаць больш увагі як у частцы арганізацыйнага інструктаваньня, так і ў пабудоўцы пляну рэвізійнае працы.

Плян рэвізійнае працы камісіі павінен быць увязаны з арганізацыйнымі магчымасьцямі абслугоўваньня т-ваў як з боку інструктарскага апарату Акрсельсаюзу, так і інспэктуры Акрсельбанку. Безадказнасьць працы рэвізійных камісій, якая наглядаецца ў нізавых т-вах, павінна быць упарадкавана і сыстэматычна ўвязана з працаю інструктарскага і інспэктарскага апарату.

Выпадкі, якія наглядаюцца, калі праз некалькі дзён пасьля працы рэвізійнае камісіі т-ва прыяжджае інструктар ці інспэктар і нанава выклікае да працы мясцовую рэвізійную камісію, затрымліваючы працу т-ва і адрываючы кіраўнічы апарат каапэратыву ад асноўнае працы, павінны быць зжыты.

Каб зьнішчыць бяссыстэмнасьць у працы рэвізійных камісій, трэба сваечасова, перад канцом апэрацыйнага году, зьдзейсьніць наступнае:

1. Скласьці практычны арганізацыйны плян рэвізійнае працы па нізавых т-вах з удзелам інструктарскага і інспэктарскага апарату.

2. Склікаць нараду рэвізійных камісій пры Акрсельсаюзах, загадзя прапрацаваўшы ў аргаддзеле парадак дня.

3. Пры складаньні пляну інструктарска-рэвізійнае працы да канца года канкрэтна выявіць, якія т-вы будуць абслугоўвацца інструктарамі, а якія не.

4. У т-вах, якія ня будуць абслугоўвацца ў рэвізійнай працы інструктарамі і інспэктураю, Акрсельсаюзу трэба паклапаціцца, каб сумесна з апаратам т-ва, у выпадку слабасьці рэўкамісіі на месцы, у яе склад увесьці мясцовых патрэбных працаўнікоў.

5. Зьвярнуць увагу ў працы рэвізійных камісій на правільнасьць складаньня т-вамі прыбыткова-выдатковых каштарысаў пры апэрацыйных плянах на 1928-29 год.

6. Дасканала пазнаёміць рэвізійныя камісіі з плянавымі заданьнямі па збытава-забесьпячальных апэрацыях кожнага т-ва, каб мець магчымасьць сыстэматычна кантраляваць выкананьне заданьняў і разгортваць ініцыятыву па арганізацыі назапашаньня ўсялякае экспартнае сыравіны.

7. Пад уплывам працы рэвізійных камісій дамагчыся ажыцьцяўленьня на мясцох арганізацыі збыту сыравіны на каапэрацыйных пачатках для пайшчыка.

8. Упарадкаваць матар'ялы рэвізійных прац у т-вах у аргаддзеле Акрсельсаюзу, наладзіўшы кантроль за выкананьнем праўленьнямі рэвізійных паказаньняў, а таксама ўзмацніць кіраўніцтва ў напрамку дзейнасьці рэўкамісіі.

9. Наладзіць кантроль рэвізійных камісій у частцы правільнага скарыстаньня каапэрацыйнага актыву т-ва, каб пасьля з складу каапэраванага насельніцтва арганізаваць пасярэднікаў у разьвіцьці нарыхтоўчых апэрацый і пазбавіцца ад прыватнікаў.

Вось коратка тыя моманты, якія патрабуюць уважлівае прапрацоўкі і практычнага ажыцьцяўленьня ў працы рэвізійных камісій і патрэбнага арганізацыйнага кіраўніцтва над імі з боку Акрсельсаюзу. Да сканчэньня гаспадарчага году засталося ўжо нямнога, а складанасьць гэтае працы вымагае сваечасовага і дасканалага правядзеньня яе ў жыцьцё.

# НА МЯСЦОХ

Д. С. Пліс

## Калгасы Віцебшчыны

У Віцебшчыне на 1 кастрычніка налічвалася 54 калгасы, з якіх: 12 сельска-гаспадарчых камун, 38 арцеляй і 4 т-вы па сумеснай апрацоўцы зямлі. З гэтага агульнага ліку калектываў 52 былі арганізаваны на абшарніцкай зямлі. Большасьць калгасаў пачалі арганізоўвацца ў 1918 г. Многія ня раз рэарганізоўваліся. У першыя часы амаль усе калгасы адзначаліся цякучасьцю. Адсутнасьць стабільнасьці ў складзе насельніцтва калгасаў наглядаецца і цяпер. Характэрна, што цякучасьць складу сельска-гаспадарчых арцеляй большая, чым у камунах. У т-вах па сумеснай апрацоўцы зямлі склад стабільны. Па нашай думцы, гэта тлумачыцца наступнымі момантамі:

а) большасьць канфліктаў у калектывах часта адбываецца на грунце абграмаджаньня ўсіх працэсаў вытворчасьці; у т-вах па сумеснай апрацоўцы зямлі абграмаджваецца цалкам толькі адзін з фактараў сельска-гаспадарчае вытворчасьці (зямля); праца і капітал абграмаджаны толькі часткова, а ў некаторых т-вах капітал зусім не абграмаджаны;

б) падбор членаў, іх забясьпечанасьць таксама робяць уплыў на ўстойлівасьць насельніцтва калектыву; у сельска-гаспадарчых камунах, дзе абграмаджаны ўсе фактары сельска-гаспадарчае вытворчасьці, большасьць членаў, якія прымаюцца, праходзяць праз асобны фільтр (кандыдацкі стаж), так што на падбор членаў зварочваецца вялікая ўвага;

большасьць сельска-гаспадарчых камун акругі эканамічна больш моцныя, вынікам чаго і матар'яльнае становішча ў камунах больш здавальняюча, чым у сельска-гаспадарчых арцелях;

в) і, урэшце, сацыяльны склад таксама робіць уплыў на стабільнасьць насельніцтва калектыву; у сельска-гаспадарчых камунах узнос паю паводле статуту не абавязковы. Кожны ўзносіць тое, што мае. Гэта робіць гэты тып аб'яднаньня больш даступным для беднякоў і батракоў. Усе гэтыя прычыны ў выніку тлумачаць крывую ўстойлівасьці насельніцтва ў паасобных тыпах аб'яднаньняў.

### Зямля

Уся зямельная плошча калгасаў акругі—4.936,13 дзесяцін, з якіх: сядзібы—132,46 дзес.; агароду—76,5; саду—191,15; ворнае зямлі—2.349,93; сенажаці—1.109,72; лесу—505,61; хмызьняку—229,71; няўдобнае—341 дзес.

Ворная зямля ў калгасах разьмяркоўваецца на такія групы (паводле вестак з 40 аб'яднаньняў):

| | |
|---|---|
| Да 30 дзесяцін ворнае зямлі | 11 |
| „ 50 „ „ „ | 13 |
| „ 70 „ „ „ | 7 |
| „ 90 „ „ „ | 5 |
| „ 110 „ „ „ | 1 |
| „ 130 „ „ „ | 0 |
| „ 150 „ „ „ | 1 |
| „ 170 „ „ „ | 2 |

Паказаная табліца гаворыць, што больш 25 проц. аб'яднаньняў маюць усяго да 30 дзесяцін ворнае зямлі. У сярэднім-жа на адно аб'яднаньне прыпадае 54,6 дзесяцін ворнае зямлі.

З гэтага відаць, што калгасы Віцебшчыны па сваіх памерах дробныя, і ўжываньне складаных машын, інтэнсыфікацыя гэтых гаспадарак не заўсёды рэнтабэльна, бо складаныя машыны мінімальна могуць сябе апраўдаць тады, калі на трактар выпадае 100 дзесяцін зямлі, на жняярку і касарку—30-40 дзесяцін, на складаную малатарню—60-80 дзесяцін. З гэтага можна бачыць, што ў многіх калгасах нават жняяркі не апраўдаюць сябе, ня кажучы ўжо аб трактары або складанай малатарні. Трэба вясьці працу па ўзбуйненьні калгасаў акругі шляхам далучэньня вольных земляных фондаў, прыёму сялян разам з іх зямлёю, якая мяжуецца з калгасаўскаю, і далучэньня суседніх калектываў.

## Забясьпечанасьць мертвым інвэнтаром

Па ўсіх калгасах акругі, уключаючы і перавозныя сродкі, лічыцца на 65.048 руб. інвэнтару. На кожную дзесяціну ворнае зямлі прыпадае на 27,7 руб. інвэнтару.

Паводле тэарэтычных разьлікаў гэтая сума досыць адпавядае запатрабаваньням, але ў сапраўднасьці, прымаючы пад увагу нізкую гаспадарчую годнасьць гэтага інвэнтару, патрэбен новы.

На 100 дзесяцін ворнае зямлі ў калгасах акругі прыпадае: плугоў—12,4; барон—12,4; сеялак—0,8; касарак—1,4; жняярак—1,4; конных грабель—1,2; малатарань—1,6; сартовак—0,8; веялак—1,5. Апрача таго, у калгасах акругі на 1 кастрычніка былі два трактары „Фордзон". Цяпер ужо ёсьць чатыры трактары.

## Цягавая сіла

З цягавае сілы ў калгасах на 1 кастрычніка былі два трактары і 320 коняй. Пераводзячы трактарныя сілы на конскую, мы будзем мець 330 конскіх адзінак. У агульным 1 конь прыпадае на 7,2 дзесяцін ворнае зямлі, у той час калі ў сялянскай гаспадарцы 1 конь на 5 дзесяцін.

## Паляводзтва

Правільныя шматпольныя севазвароты ў 34 калгасах (паводле вестак з 43 калгасаў). Большасьць калгасаў мае васьміпольны севазварот.

Пераходзячы да пытаньня ўраджайнасьці, агаворваюся, што весткі сёлетняга году па прычыне абсалютнага неўраджаю зьяўляюцца не характарнымі, і судзіць на падставе гэтых вестак аб становішчы гаспадарак нельга. Для характарыстыкі даю весткі аб ураджайнасьці за 1926-27 г. у параўнаньні з сялянскім ураджаем.

| | 1926 год | | 1927 год | |
|---|---|---|---|---|
| | У калгасах | У сялянскіх гаспадарках | У калгасах | У сялянскіх гаспадарках |
| Жыта | 68,5 | 45,3 | 63 | 46 |
| Зімовая пшаніца | 65 | 48,8 | — | — |
| Авёс | 50 | 37,6 | 31 | 37 |
| Ячмень | 64 | 38,2 | 43 | 42 |
| Бульба | 719 | 644,3 | 320 | 375 |
| Канюшына | 212 | 124 | 180 | — |

Для характарыстыкі інтэнсыўнасьці гаспадарак даем процанты суадносіны культур, якія разводзяцца, да пасяўное плошчы.

| | | Зернавыя | Кораньплоды і клубеньплоды | Травы | Тэхн. культ. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | (У процантах) | | | | |
| У калгасах | 1926 г. | 61,6 | 9,2 | 23,6 | 5,5 | 100 |
| | 1927 „ | 62,3 | 10,4 | 24,3 | 3 | 100 |
| У сялянскай гаспадарцы | 1927 „ | 73,8 | 13,2 | 7,31 | 5,7 | 100 |

Гэтая табліца гаворыць, што ў калгасах адбываецца правільны працэс павялічэньня кораньплодаў і сеяных траў. Ненармальным трэба лічыць нізкі процантны стан ільну і кораньплодаў (меншы процант, чым ў сялянскай гаспадарцы). Гэта тлумачыцца тым, што да 1 кастрычніка калгасы ня ўсе цалкам былі ўкамплектаваны, сьледам чаго працаёмкія культуры не атрымалі патрэбнага разьвіцьця.

## Жывёлагадоўля

Агульная колькасьць буйнае рагатае жывёлы—661 галава. Маладняку ад 1 да 3 гадоў—198, да аднаго года—121. Забясьпечанасьць прадукцыйнаю жывёлаю на адну сям'ю ў калгасах роўна 2,8, а ў сялянскіх гаспадарках—2,3. Малюнак зусім мяняецца, калі мы дадзім табліцу такога параўнаньня: у калгасах на 100 дзесяцін ворнае зямлі прыпадае 28 галоў; у сялянскіх гаспадарках—34 галавы.

Меншая нагрузка рагатаю жывёлаю на дзесяціну ў калгасах у параўнаньні з сялянскімі гаспадаркамі зноў-жа такі тлумачыцца неўкамплектаванасьцю калгасаў. Прадукцыйная жывёла ў калгасах большаю часткаю мясцовая. Сярэдні гадавы ўдой каровы—60,4 пуд. Хістаньне гадавога ўдою—ад 34 да 126 пудоў.

Валавы прыбытак ад рагатае жывёлы—36.964 руб.; валавы выдатак—44.886 руб.

У выдатках улічвалася выключна кармленьне. Другія-ж выдаткі, зьвязаныя з вядзеньнем жывёлагадоўлі, а менавіта: працоўная сіла, якая затрачвалася на догляд, амартызацыя будынкаў, процант на брак жывёлы, гэтыя весткі не прадугледжваюцца. Нават пры нашых разрахунках убытковасьць рагатае жывёлы роўна 7.922 руб.

Галоўныя прычыны ўбытковасьці жывёлагадоўлі складаюцца з наступных момантаў:

1. Статак дрэнна падабраны.

2. Дрэннае кармленьне. Корм у большасьці ў калгасах складаецца выключна з грубых кармоў, канцэнтраваныя і сакаўныя кармы ў кармавых рацыёнах адсутнічаюць.

3. Корм даецца не па вазе, а на вока (колькі карова зьесьць). Гэта ўдаражае кармленьне, бо частка корму ідзе на падсьціл (правільнае кармленьне па нормах праведзена толькі ў двох аб'яднаньнях).

4. Жывёльныя двары не добраўпарадкаваны.

5. Адносна вялікі процант маладняку да дойных кароў. Маладняк складае 49 проц. у той час, калі нармальным трэба лічыць 35 проц., а максымум 38 проц.

6. Цяленьне адбываецца, галоўным чынам, вясною; гэта значыць, найбольшая колькасьць малака бывае тады, калі цана на гэты прадукт танная.

7. Каровы, якія выгадоўваюцца ў сваіх гаспадарках, аказваюцца горшымі, чым куплёныя (гэта ў выніку дрэннага догляду, выхаваньня, а іншы

раз і дачаснае злучкі). Вынікі напрашваюцца самі. Трэба падбіраць статак як шляхам скрыжаваньня, так і паляпшэньнем „самога ў сабе“, выбракоўваць горшыя экзэмпляры, пакідаць на племя цялят ад лепшых кароў і праверáных быкоў, правільна зрабіць пастаноўку кармленьня, добра ўпарадкаваць жывёльныя двары. Вось тыя асноўныя пытаньні, на якія калгасам трэба зьвярнуць увагу, каб палепшыць гэтую важную галіну—жывёлагадоўлю.

### Тэхнічныя прадпрыемствы

З дапаможных тэхнічных прадпрыемстваў у калгасах былі: маслабойных заводаў—2; вадзяных млыноў — 3; нафтавы млын—1; паравых млыноў – 2; масласыраварны завод—1; цэгляны завод —1; пільня —1; вапенная вытворчасьць--1. Увесь прыбытак, які атрыманы ад тэхнічных прадпрыемстваў,—11.624 руб. Невялікі прыбытак тлумачыцца тым, што некаторыя калгасы здавалі млыны ў арэнду. У некаторых калгасах рабіўся капітальны рамонт прадпрыемстваў, адчаго апошнія стаялі.

Цяпер-жа калгасамі пабудованы яшчэ два млыны і будуюцца дзьве пільні.

Сувязь калгасаў з рынкам вызначаецца наступнымі лічбамі: усяго выкінута на рынак прадукцыі на 54.287 руб., з якіх прадана каапэрацыйным арганізацыям 33,9 проц., дзяржаўным органам—18,6 проц., прыватнікам—34 проц., сялянам—13,5 проц. Гэтыя лічбы нам гавораць, што значную частку свае прадукцыі калгасы збываюць на прыватным рынку.

### Рост калгасаў

З 1 кастрычніка па 1 чэрвеня арганізавана:

| | Колькасьць | Памер зямельных ужыткаў у гэкт. | Колькасьць зямлі на адно аб'яднаньне |
|---|---|---|---|
| Сель.-гасп. арцеляй | 43 | 2.279 | 53 |
| Камун | 2 | 214 | 107 |
| Т-ваў па сумеснай апрацоўцы зямлі | 7 | 544 | 49,1 |
| Садова-агародных арцеляй | 16 | — | — |

З адмоўных бакоў і тут трэба адзначыць невялікі памер зямельных ужыткаў у калгасах (паводле вестак з 36 аб'яднаньняў):

| | |
|---|---|
| Да 30 дзесяцін усяе зямлі | 13 аб'яднаньняў |
| „ 40 „ „ „ | 8 „ |
| „ 50 „ „ „ | 8 „ |
| „ 60 „ „ „ | 4 „ |
| „ 70 „ „ „ | 1 „ |
| „ 80 „ „ „ | 2 „ |

Гэтая табліца гаворыць аб надзвычайнай дробнасьці калгасаў. Бясспрэчна, што на такім вучастку трудна разгарнуцца.

### Заключэньне

Ня гледзячы на цэлы шэраг недахопаў у працы калгасаў, яны ўсё ж такі маюць і дасягненьні ў параўнаньні з сялянскімі гаспадаркамі. Дасягненьні такія: цягавая сіла скарыстоўваецца больш рацыянальна, чым у сялянскіх гаспадарках, кожная калгасаўская сям'я больш забясьпечана жывёлаю (на сям'ю 2,8 галоў у калгасах і 2,3 у сялянскіх гаспадарках).

Нават дробны інвэнтар скарыстоўваецца больш поўна, чым у сялянскіх гаспадарках.

| | | |
|---|---|---|
| На 100 дзесяцін ворнае зямлі ў калгасах . . . . | 12,4 | плугоў |
| „ 100 „ „ „ „ сялянскіх гасп. . | 24,8 | „ |
| „ 100 „ „ „ „ калгасах . . . . | 12,4 | барон |
| „ 100 „ „ „ „ сялянскіх гасп. . | 26,9 | „ |

Ураджайнасьць і суадносіны культур больш спрыязныя, чым у сялянскіх гаспадарках. Грамадзкая каштоўнасьць калектываў азначаецца дапамогаю, якая робіцца калгасамі сялянскім гаспадаркам. Дапамога з боку калгасаў насельніцтву вызначаецца наступнымі лічбамі: адсартавана 4.314 пудоў рознага насеньня, абменена з сялянамі на палепшанае насеньне 2.521 пуд. Пакрыта сялянскае жывёлы вытворцамі калгасаў 1.664 галавы.

---

В. Сьмірноў

# Спажывецкія таварыствы Сіроцінскага раёну

*(Віцебская акруга)*

Спажывецкія таварыствы Сіроцінскага раёну абслугоўваюць 9.146 двароў з колькасьцю насельніцтва 43.711 чалавек, у тым ліку 8.260 сялянскіх двароў.

Усяго па тэрыторыі раёну працуе 5 таварystваў, якія маюць 22 крамы, з якіх 14 крам знаходзяцца там, дзе і праўленьне, а 8—у розных сельсаветах.

Каб мець уяўленьне аб сярэдняй колькасьці двароў, якія абслугоўваюцца кожнаю крамаю ў раённым маштабе, трэба лічыць крамы, якія знаходзяцца там, дзе і праўленьне, на кожнае т-ва па аднэй, гэта значыць разам 14—5. Гэтая папраўка павінна быць зроблена таму, што крамы, якія знаходзяцца ў адным насялёным пункце, зьяўляюцца нібы аднэю крамаю, разьбітаю на раздзелы па роду тавараў (мануфактурны, бакалейны, кніжны, жалеза-драўляны) і ў цэлым абслугоўваюць вядомы раён з вядомаю колькасьцю двароў. Пры такой папраўцы будзе відаць, што 9.146 двароў абслугоўваюцца 13 крамамі, ці на кожную краму прыпадае 700 двароў.

Пераходзячы да паасобных бакоў працы спажывецкіх т-ваў, спынімся перш за ўсё на каапэраваньні і на зборы паявога капіталу. Па паасобных спажывецкіх т-вах гэтыя два моманты будуць выглядаць так:

| Назва спажывецкіх т-ваў | Сярэдні пай на 1/X 1927 г. | | На 1/I 1928 г.: % павяліч. пайшчыкаў за 1 квартал | На 1/I 1928 г.: % павяліч. паявога капіталу за 1 квартал | На 1/IV 1928 году: % павяліч. пайшчыкаў за 2 кварт. | На 1/IV 1928 году: Павяліч. паю за 2 квартал | На 1/IV 1928 году: Сярэдні пай | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Казьянскае . . . . . . | 3 | 63 | 32,9 | 38,1 | 26,8 | 48,4 | 4 | 42 |
| Мішневіцкае . . . . . . | 3 | 60 | 30,9 | 24,8 | 28,2 | 68,9 | 4 | 52 |
| Сіроцінскае . . . . . . | 2 | 76 | 13,3 | 49.2 | 23,6 | 78,9 | 5 | 26 |
| Палцеўскае . . . . . . | 3 | 32 | 19,6 | 19,5 | 24,6 | 67,1 | 4 | 44 |
| Шумілінскае . . . . . . | 4 | 20 | 37,2 | 44,8 | 18.4 | 73,0 | 6 | 48 |
| **Разам па раёне . .** | 3 | 64 | 28.7 | 38,3 | 22,7 | 68,9 | 5 | 37 |
| % каапэраваньня да агульнага ліку двароў па раёне . . . . . . | 39,6 | | 51,0 | — | 62,6 | — | — | |

Супастаўляючы лічбовыя паказьнікі першага і другога кварталу, відаць: 1) вырас сярэдні пай: на 1-ае кастрычніка 1927 году ён складаў 3 руб. 64 к., а на 1 красавіка 1928 г.—5 р. 37 к.; 2) тэмп каапэраваньня за другі квартал зьнізіўся з 28,3 проц. да 22,7 проц.; 3) тэмп росту паявога капіталу павысіўся з 38,3 проц. да 68,9 проц.

Каб даць ацэнку працы спажывецкага т-ва па каапэраваньні насельніцтва, трэба ўзяць пад увагу наступнае: на 1-ае кастрычніка 1928 г. каапэравана 62,6 проц. двароў; такім чынам, застаецца яшчэ дакаапэраваць 37,4 проц. двароў. У частцы гэтых недакаапэраваных двароў, бязумоўна, ёсьць заможныя, для якіх каапэрацыя не зьяўляецца мэтаю, і якія, у моц свае прыроды, цягнуцца да прыватніка. Але такіх—меншасьць. У большасьці застаюцца некаапэраванымі серадняцка-бядняцкія двары.

Нажаль, у нашай каапэрацыйнай практыцы не наладжаны яшчэ больш-менш дасканала ўлік бядняцкіх двароў. Ня будзе вялікаю памылкаю сказаць, што бядняцкія гаспадаркі складаюць 20 проц. да агульнага ліку двароў, што і складае 1.829 двароў. Згодна вестак спажывецкіх т-ваў, на 1-ае красавіка 1928 г. каапэравана за лік фонду да 700 двароў, ці 38 проц. Адзначаныя лічбы зьяўляюцца арыентыровачнымі, але з іх відаць, што значны процант бядняцкіх гаспадарак не каапэраваны (выходзячы з гэтае акалічнасьці, сходы ўпаўнаважаных паасобных спажывецкіх т-ваў прызналі неабходным з паўгадавых прыбыткаў адлічыць дадатковыя фонды на каапэраваньне беднаты).

Што тычыцца збору паявога капіталу, то ў гэтых адносінах трэба, бязумоўна, прызнаць, што каапэрацыйны апарат самастойна і як трэба ня справіўся-б з гэтаю працай. Першы квартал паводле сваіх эканамічных умоў зьяўляецца больш лепшым грунтам для збору паявых, між тым мы бачым, што ў першым квартале паявы капітал па сетцы Сіроцінскага раёну павялічыўся на 38,3 проц., у другім квартале—на 68,9 проц.

Баявыя заданьні, якія пастаўлены партыяй і ўрадам, цьвёрды курс, узяты на правядзеньне іх у жыцьцё—урэшце ўстрапянулі каапэрацыйны апарат, і ён аказаўся здольным дамагчыся добрых вынікаў.

У адносінах выкананьня заданьняў па зборы паявога капіталу паасобнымі спажывецкімі т-вамі, мы маем наступнае: Казьянскім спажывецкім т-вам выканана 69 проц. заданьня, Мішнявіцкім—80 проц., Сіроцінскім—104 проц., Палцеўскім—111 проц., Шумілінскім—103 проц.

Вынікі посьпеху абавязваюць каапэрацыйны апарат добра прадумаць мэтады свае працы. Трэба шырэй зірнуць на пэрспэктывы задач, якія стаяць перад спажыўкаапэрацыяй, вывучаць сваю працу, а таксама імкнуцца ўсебакова разьбірацца ва ўсёй складанасьці савецкае гаспадаркі, у якой каапэрацыя займае месца, і куды сьцякаюцца інтарэсы ўсяе гаспадаркі.

Спынімся на гандлёва-зарыхтоўчай працы і фінансавым стане спаж. т-ва. Калі супаставіць паўгадавы зварот мінулага году, які складаў 279.300 руб., з паўгадавым бягучага, які складае 441.700 руб., дык відаць, што цяперашні гаспадарчы год дае павялічэньне на 57,3 проц. У той час як за паўгодзьдзе мінулага году кожным дваром у сярэднім закуплена тавараў на 30 р. 53 к.—за паўгодзьдзе бягучага году на кожны двор выпадае 48 р. 30 к.

За бягучае паўгодзьдзе вырасла зарыхтоўчая праца. Зарыхтоўкі за 1926-27 г. вызначаліся ў суме 35.700 руб., за паўгодзьдзе бягучага году яны складаюць 42.088 руб. Па кварталах бягучага году зарыхтоўкі вызначаюцца: за першы квартал—5.608 руб., за другі—36.470 руб. Часткова ў моц шэрагу прычын, якія не залежаць ад спажывецкіх т-ваў, у большасьці-ж выпадкаў ад недастаткова праяўленай ініцыятывы з боку каапэрацыйнага апарату, у зарыхтоўчай працы першага кварталу відна тая-ж недаробленасьць, што і па зборы паявога капіталу.

Пры супастаўленьні процанту накладных і агульна-гандлёвых выдаткаў, з аднаго боку, і процанту налажэньня—з другога, мы бачым наступнае:

| НАЗВА ТАВАРЫСТВАЎ | % накладных выдаткаў | % агульных выдаткаў | % налажэньня |
|---|---|---|---|
| Казьянскае | 4,1 | 6,8 | 8,5 |
| Мішневіцкае | 4,2 | 8,0 | 10,2 |
| Сіроцінскае | 6,1 | 7,0 | 10,8 |
| Палцеўскае | 4,1 | 5,6 | 9,7 |
| Шумілінскае | 2,0 | 7,6 | 9,5 |
| **У сярэднім па раёне** | 3,4 | 7,1 | 9,6 |

З табліцы відаць, што найменшае налажэньне па раёне—у Казьянскім спажывецкім таварыстве. Гэтая акалічнасьць пацьвердзілася пайшчыкамі пры правядзеньні паўгадавога сходу, на якім імі было адзначана, што таньней тавараў ня купіш, як у Казьянскай каапэрацыі.

Апошні момант, які лічу неабходным адзначыць у гэтым артыкуле,—фінансавы стан таварыства. Устойлівасьць фінансавага стану таго ці іншага таварыства азначаецца ўдзелам сваіх сродкаў у жывым звароце. Разглядаючы з гэтага боку спаж. т-вы Сіроцінскага раёну на 1-ае кастрычніка 1927 г., на 1-ае студзеня 1928 г. і на 1-ае красавіка 1928 г., мы маем наступны малюнак:

| НАЗВА ТАВАРЫСТВАЎ | На 1/X 1927 г. | На 1/I 1928 г. | На 1/IV 1928 г. |
|---|---|---|---|
| | У процантах | | |
| Казьянскае | 72 | 35 | 42 |
| Мішневіцкае | 49 | 45 | 68 |
| Сіроцінскае | — | 14 | 19 |
| Палцеўскае | 51 | 46 | 43 |
| Шумілінскае | 37 | 43 | 35 |
| **У сярэднім па раёне** | 41 | 40 | 35 |

Разглядаючы сярэднія паказьнікі па раёне, кідаецца ў вочы паніжальны процант удзелу сваіх сродкаў у звароце. Гэта адбываецца дзякуючы такім акалічнасьцям: 1) павялічэньню звароту, а ў сувязі з гэтым і павялічэньню запасу тавараў за лік пазычаных сродкаў: на 1-ае кастрычніка 1927 г. запас тавараў быў роўны 37.142 р., на 1-ае студзеня 1928 г.—67.068 р. і на 1-ае красавіка 1928 г.—120.443 р.; 2) павялічэньню паявога капіталу таварыстваў у саюзе: на 1-ае кастрычніка 1927 г. ён складаў 5.366 р. 20 к., на 1-ае красавіка 1928 г.—10.838 р. 40 к., павялічыўся на 102 проц.; 3) павялічэньню маемасьці.

Не мінавалі спажывецкіх таварыстваў Сіроцінскага раёну і так званыя „няпэўныя дэбіторы"—недалікі і растраты. У абсалютнай суме па трох спажывецкіх т-вах яны складалі на 1-ае кастрычніка 1927 г. і складаюць на 1-ае красавіка 1928 г. 4.678 р. Частка з іх знаходзіцца ў выканаўчых лістох, частка ў судовых інстанцыях.

Вось у такіх, прыблізна, рысках выглядаюць вынікі паўгадавое працы спажывецкае каапэрацыі Сіроцінскага раёну.

Шэрыкаў

# Культурна-бытавая праца жылкаапэрацыі Бабруйшчыны

Кастрычнікавая рэвалюцыя перадала ў распараджэньне рабочае клясы ўвесь жыльлёвы фонд. Формаю кіраўніцтва гэтым жыльлёвым фондам у сучаснасьці зьяўляюцца жыльлёва-каапэрацыйныя арэндныя таварыствы. Форма гэта ўжо бліскуча вытрымала экзамін: дамы больш не разбураюцца, становішча іх паступова паляпшаецца. Але нашы ЖАКТ'ы гэтым абмежаваць сваю працу ня могуць. Яны павінны зрабіцца ячэйкамі новага калектыўнага быту, якія павінны дапамагаць вызваленьню чалавека, асабліва хатняе гаспадыні, ад няволі хатніх клопат. Акрамя таго, паколькі жыльлё мае вялізнае значэньне ў гісторыі чалавечае культуры і зьяўляецца паказчыкам культурнага стану данае мясцовасьці, жыльлёвыя каапэратывы павінны таксама быць адным з насіцеляў культуры ў нашым быту, галоўным чынам, яны павінны абхапіць жаночыя масы і тых, хто, не зьяўляючыся членамі прафсаюзаў, паводле свайго сацыяльнага стану належаць да пралетарскага элемэнту. Цяпер паглядзімо, што зроблена і што мяркуецца зрабіць нашымі жыльлёвымі каапэратывамі для таго, каб спраўдзіць гэтыя вышэйпаказаныя задачы.

Пахваліцца каапэрацыйна-асьветнай працаю нашы таварыствы ня могуць, але праца ўсё-такі вядзецца і набывае плянавы характар. Яна вядзецца як паводле ініцыятывы жылсаюзу, так і паводле ініцыятывы самых нізавых каапэратываў. Першыя крокі ў гэтай галіне мы ўжо маем, як маем і даволі станоўчыя вынікі. Ахарактарызаваць праробленую працу можна наступным: калі ў мінулыя гады культасьветная праца насіла выпадковы характар, то ў гэтым годзе яна зьяўляецца ўжо сталаю часткаю жыцьця каапэратыву. З ліку чатырох ЖАКТ'аў і чатырох жыльлёва-будаўнічых каап. т-ваў у г. Бабруйску тры т-вы маюць добра абсталяваныя чырвоныя куткі. Гэта адносіцца да т-ваў „Іскра", „Чырвоны Будаўнік" і ЖБКТ „Пралетары". Першым пачаў гэтую працу ЖАКТ „Чырвоны Будаўнік", які вось ужо другі год выпускае насьценгазэту, абсталяваў клюб, дзе меркаваў сканцэнтраваць культпрацу і суседніх таварystваў, але не пасьпеў пачаць у ім працу, бо памяшканьне было ў яго адабрана іншымі арганізацыямі для іншых мэт. Гэта ў некаторай ступені падарвала ініцыятыву культактыву і ўсю працу ў вогуле. Нельга не адзначыць і таго, што культпраца тут праводзілася праўленьнем, а культкамісія дапамагала зусім слаба.

Па ўсіх ЖАКТ'ах і ЖБКТ маюцца культкамісіі, у якіх для кіраўніцтва вылучаны члены праўленьня, пераважна жанчыны, астатні актыў падабраны моцны; зараз камісіі заняты падрыхтоўкаю да адчыненьня дзіцячых пляцовак. Культурна-бытавая камісія ЖАКТ'у „Парыская Камуна" ўнесла ў праўленьне праэкт пераабсталяваньня дзіцячых пляцовак з тым, каб карыстацца імі і ў якасьці зімніх дзіцячых садоў. Камісія апрацавала цьвёрды плян працы і прыступіла да яго выкананьня. Уцягваецца ў працу актыў т-ва, і маецца на мэце абслужыць, галоўным чынам, жанчын.

Плянам прадугледжваецца правесьці пяць вечароў пытаньняў і адказаў, укамплектаваць бібліотэкі, прачытаць цыкл лекцый па санітарыі і гігіене, для чаго прыцягнуты ўрач; правесьці экскурсію ў вайсковыя лягэры, азнаёміць жанчын з газасховамі і хэмабаронаю наогул. Паводле пляну ўжо праведзена сярод жанчын стральба шротам, адбыліся два агульныя сходы, зацікаўленасьць мас дастатковая. У гэтай справе, бязумоўна, ня малую ролю адыграў умелы падыход камісіі. Спачатку пасьля сходаў практыкаваліся калектыўныя наведваньні кіно-тэатру з нязначным выдаткаваньнем сродкаў з культурных сум. Па ўсіх т-вах вылучаюцца жанкаапарганізатары для дапамогі культкамісіі ў яе працы.

У мінулым праца культкамісіі была слабаю. Гэта мела месца таму, што адсутнічала памяшканьне, ня было пэўных грашовых асыгнаваньняў на культурныя мэты, бо часта культкамісіі не маглі дагаварыцца з праўленьнем аб водпуску сродкаў, але ўсё-такі была праведзена адна агульна-гарадзкая канфэрэнцыя хатніх гаспадынь, прыймаўся дастатковы ўдзел у правядзеньні розных кампаній, пабудаваны дзьве дзіцячыя пляцоўкі і адзін дзіцячы прытулак, які абслугоўвае да 200 дзяцей пайшчыкаў; прыступлена да абсталяваньня аднае пральні. Канфэрэнцыя падштурхнула разьвіцьцё культасьветнае працы. Вынік, прыблізна, наступны: зараз-жа пасьля канфэрэнцыі блізка што па ўсіх т-вах былі створаны ячэйкі Асаавіяхіму (усяго 6 ячэек), арганізавана 5 ячэек МОПР'у, наладжаны лікпункт, які абслугоўвае каля 23 няпісьменных жанчын (праз два месяцы адбудзецца іх выпуск). У двух т-вах выпушчаны насьценгазэты, набыта 5 бібліотэчак па 50—60 кніжак.

У хуткім часе ў другі раз быў скліканы агульна-гарадзкі сход жанчын-работніц, жонак рабочых і служачых, хатніх гаспадынь дамоў ЖАКТ'аў. На сходзе абгаворвалася пытаньне аб пашырэньні культурна-бытавой працы і задачы жанчын у справаздачна-перавыбарчую кампанію па жыльлёвай каапэрацыі. Характэрна таксама, што там, дзе не вядзецца культ-праца, наглядаецца некалькі горшае санітарнае становішча дамоў, пайшчыкі ня ведаюць і не разумеюць сваіх правоў і сваіх абавязкаў. У гэтую групу каапэратываў можна аднесьці ЖАКТ'ы г. Слуцку і ў горадзе Бабруйску—„Інтэрнацыянал". Недахоп гэты па г. Слуцку можна тлумачыць тым, што там спачатку было створана 7 дробных т-ваў, якія мелі надзвычайна мізэрныя прыбыткі і надзвычайна малы актыў, што пазбаўляла іх магчымасьці весьці культурна-бытавую працу як дзякуючы матар'яльнай незабясьпечанасьці, так і дзякуючы недахопу жывой сілы. Цяпер з гэтых 7 т-ваў створана тры больш моцныя і больш працаздольныя ЖАКТ'ы. Ужо ў гэтым годзе вядзецца праца па арганізацыі аднае дзіцячае пляцоўкі, а таксама і шэраг другіх больш дробных культурных мерапрыемстваў. Большую частку ўсяе праведзенае культурна-бытавое працы прарабіў Жылсаюз, які здолеў прышчапіць яе і сваёй сетцы. Пры Жылсаюзе ёсьць бюро культурна-бытавых і санітарных камісій, якія і ўзгадняюць гэтую працу з культпрацаю іншых арганізацый. Сюды прыцягнуты гарадзкі санітарны ўрач, прадстаўнік палітасьветы і прадстаўнікі т-ваў.

---

**Жукоўскі**

# Пятрыкоўскае крэдытнае сельска-гаспадарчае таварыства

Пятрыкоўскае крэдытнае сельска-гаспадарчае таварыства заснавана 1 студзеня 1922 г. пры 22 пайшчыках і паявым капітале—23 р. 40 к. Да 1924 г. яно было запушчаным, маючы толькі адно прадпрыемства—арэнду вадаёмаў. У 1924 г. арганізаваўся Мазырскі акрсельсаюз, і таварыству былі прыданы крэдытныя апэрацыі. Тады праца т-ва была накіравана, галоўным чынам, на падняцьце сельскае гаспадаркі. Рост т-ва характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1/X-24 г. пайшчыкаў . . | 160, | паяв. кап. . | 189 р. 44 к., | балянс | 11.376 р. 73 к. |
| „ 1/X-25 „ „ . . | 676 | „ „ . | 1.804 „ 71 „ | „ | 38.112 „ 25 „ |
| „ 1/X-26 „ „ . . | 1.473 | „ „ . | 5.613 „ 46 „ | „ | 71.284 „ 82 „ |
| „ 1/X-27 „ „ . . | 1.906 | „ „ . | 7.654 „ 89 „ | „ | 108.088 „ 35 „ |

У тым ліку 11 камітэтаў сял. т-аў узаемадапамогі і 4 калгасы.

На 1/X-27 г. каапэравана 29,2 проц. двароў.

Уласны запасны спэцыяльны капітал на 1/X-27 г.—3.323 р. 08 к. Пазычана ў саюзе на гандлёвыя апэрацыі 2.000 р.; пазычаны ў Белсельбанку ў асноўны капітал 5.000 р.; укладаў на 1/X-27 г. лічылася 2.459 р. 54 к.; пазык выдана доўгатэрміновых 24.879 р. 81 к.; пазык кароткатэрміновых—29.630 р. 77 к. У ліку доўгатэрміновых—фонд беднаты—8.725 р. Каапэравана беднаты 238 чал.

Таварыства бярэ з кароткатэрміновых пазык 10 проц., з доўгатэрміновых пазык—6 проц., з фонду беднаты—5 проц. Крэдытаваньне насельніцтва робіцца, галоўным чынам, натураю: выдана ў 1927 г. коняй на 16.649 р., вазоў на 2.800 р., быкоўвытворцаў на 550 р., машын на 5.533 р. 50 к., кароў на 2.800 р., насеньня на 10.493 р. 68 к.

Прадана машын: у 1924 г.—10 штук; у 1925 г.—112 штук; у 1926 г.—349 штук; у 1927 г.—597 штук. Прадана культурных траў і сартавога насеньня: у 1924 г.—118 клг.; у 1925 г.—3.345 клг.; у 1926 г.—2.325 клг.; у 1927 г.—18 714 клг.

Таварыства мае краму, у якой у 1925-26 г. прадаваліся тавары: жалезна-драўняныя, мануфактурныя і бакалея. Але ў 1926-27 г. былі выкананы дырэктывы па разьмежаваньні функцый, і т-ва зусім выжыла спажывецкі ўхіл і мае ў цяперашні час тавары: сельска-гаспадарчыя машыны, драўняныя тавары, насеньне і харчы.

Зварот крамы наступны: у 1924 г.—8.923 р. 48 к.; у 1925 г.—43.333 р. 92 к.; у 1926 г.—92.977 р. 47 к.; у 1927 г.—119.312 р. 44 к. Налажэньне на тавары ў 1927 г. было роўна 9,18 проц. Зроблена камісійных апэрацый па задатках ад пайшчыкаў на суму 8.878 р. 36 к.

Збыт і загатоўка скуранoе сыравіны: у 1925 г.—4.673 р. 19 к.; у 1926 г.—12.320 р. 75 к.; у 1927 г.—15 081 р. 44 к. Мясное жывёлы: у 1925 г.—27.064 р. 27 к.; у 1926 г.—49.571 р. 17 к.; у 1927 г.—25.721 р. 31 к. Грыбы, шчаціна, хутры і іншая сыравіна: у 1925 г.—5.125 р. 31 к.; у 1926 г.—6.801 р. 30 к.; у 1927 г.—11.805 р. 21 к. Мясная крама і разьніца: у 1925 г.—6.073 р. 53 к.; у 1926 г.—17.331 р. 32 к.; у 1927 г.—19.273 р. 91 к.

У 1927 г. зроблена поўнае зьніжэньне раздробных цэн згодна распараджэньняў Наркамгандлю, і праведзена ў жыцьцё зьніжэньне выдаткаў на 25 проц.

У 1926 г. звароты т-ва—255.721 р. 35 к.; выдаткі—31.830 р. 13 к.—12 проц. У 1927 г. звароты т-ва—278.661 р. 42 к., выдаткі—25.031 р. 15 к.—9 проц.

Ня гледзячы на разьмежаваньне функцый і зьніжэньне раздробных цэн, т-ва, дзякуючы зьніжэньню выдаткаў, мае за 1927 г. чыстага прыбытку 1.239 р. 23 к.

У галіне культурнае працы на працягу года праведзена 43 сходы, на якіх ставіліся даклады пра сельска-гаспадарчую каапэрацыю, пра калектыўныя гаспадаркі, пра арганізацыю машыннага т-ва.

Пры канцэляры т-ва маецца чырвоны куток, у якім ёсьць у дастатковай колькасьці газэты, часопісы і кнігі.

---

**Вока**

# Безгаспадарчасьць у выніку недабачлівасьці

Смалярная арцель „Труд" злучае ў сваім складзе 88 сялян-беднякоў. Маемасьць арцелі—пяць катлоў, з якіх тры—непасрэдна сяброў арцелі у вёсках каля Багушэвіч, Бярэзінскага раёну, Менскае акругі, а астатнія два катлы—на адлегласьці 45 вёрст... ад Багушэвіч, у вёсцы Мачыскі.

Здавалася-б, чаго лепей. Арцель складаецца з адных беднякоў, Белсампрамсаюз адпусьціў больш як 17.000 рублёў на пабудову катлоў і на зваротныя сродкі. Працуйце, зарабляйце і яшчэ больш каапэруйце беднякоў вакол арцелі. Але дзе там! Мясцовыя органы ўбачылі ў гэтай арцелі нейкую школу для маладых ненапрактыкаваных працаўнікоў. За кароткі тэрмін зьмянілася каля пяці старшынь праўленьня. Былі зусім маладыя яшчэ хлопцы, як Балашэвіч і Сьвірыдовіч, якія нічога не разумелі ў гаспадарчай працы, асабліва-ж у такіх умовах, калі частка маемасьці арцелі знаходзіцца на адлегласьці 45 вёрст. Шмат сялян даказваюць, як гэтыя маладыя хлопцы сваім сватом і кумам давалі пісулькі на атрыманьне грошай няма ведама за што. Наогул тое, што павінна было каштаваць рубель, каштавала 3 або 5 руб. А спэцсмаляр Фэльдман, які быў прыняты ў гэтую арцель, як адказны працаўнік, у гэты самы час, калі Балашэвічы і Сьвірыдовічы распаўсюджвалі пісулькі на атрыманьне грошай, знаходзіўся ў Менску па 24 дні ў месяц. „Злыя языкі" гавораць, што ён у гэты самы час у Менску клапатаў аб залічэньні яго каханкі на курсы машынапісі. Як-бы там ні было, а на 1 ліпеня 1928 году маецца па арцелі дэфіцыт у суме каля 8.000 рублёў.

Тут-та і трэба паставіць вялікае пытаньне: а дзе-ж былі мясцовыя арганізацыі да гэтага часу? Няўжо-ж да іх не даходзілі гэтыя весткі? Характэрна, што ў Белсельпрамсаюз даходзілі зьвесткі ад арцелі, якія паказвалі, што яна нібыта ў зусім здавальняючым стане. Рэвізійная камісія арцелі, у якую ўваходзілі мясцовыя адказныя працаўнікі, не жадала цягацца з марудным справамі гэтае арцелі.

У сучасны момант Белсампрамсаюз гэту арцель падзяліў на дзьве арцелі. У кожнай з іх зарганізаваў здаровы асяродак арцельшчыкаў—актывістых, якія будуць зацікаўлены ў добрай працы арцеляй.

Недабачлівасьці нашых мясцовых органаў трэба палажыць канец. Трэба, каб сельсавет, мясцовая парт. ячэйка часьцей цікавіліся працай нашых яшчэ маладых гаспадарчых арганізацый, заслухоўвалі справаздачы і давалі практычныя парады.

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

Карль Біттэль

## Чэха-Славаччына

Спажывецкі каапэрацыйны рух у Чэха-Славаччыне, якая заснавалася пасьля вайны і рэвалюцыі, пры наяўнасьці ў ёй звыш 13.000.000 насельніцтва, у сэнсе нацыянальным і ў сэнсе палітычным раз'яднаны. Ужо адзін гэты факт характарызуе Чэха-Славацкі каапэрацыйны рух, абумаўляючы яго кволасьць і недастатковую арганізацыю.

На чале руху стаяць тры наступныя спажывецкія саюзы (1926 г.):

| | | Лік спажыў. т-ваў | Колькасьць членаў | Зварот |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Чэскі спажыв. саюз | 328 | 402.000 | 681 м. ч. кр. |
| 2 | Нямецкі „ „ | 192 | 249.000 | 495 „ „ „ |
| 3 | Нацыянальна-сацыялістычны спажыв. саюз | 227 | 96.000 | 220 „ „ „ |

Першыя два саюзы стаяць пад сацыял-дэмакратычным спраўным кіраўніцтвам, пры чым у першым з іх камуністычныя апазыцыя мацнейшая, як у другім.

Перш-на-перш мы разгледзім толькі першыя два буйныя саюзы. Мы даем тут статыстычныя даныя, якія характарызуюць стан рэчаў за апошнія тры гады. З іх мы бачым, што колькасьць членаў памяншаецца, што ў зваротах наглядаецца застой. Нават у таварыствах гуртавых закупак за апошнія гады наглядаецца застой.

### Разьвіцьцё абодвух нацыянальных саюзаў

| Ч.-Чэскі<br>Н.-Нямецкі | 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ч. | Н. | Ч. | Н. | Ч. | Н. |
| Спажывецкія таварыствы | 368 | 215 | 358 | 200 | 328 | 192 |
| Колькасьць членаў (у тысячах) | 422 | 271 | 407 | 258 | 402 | 249 |
| Зварот (у тысячах фунтаў стэрлінгаў) | 5678 | 3099 | 5782 | 2984 | 5204 | 3021 |
| Уласны капітал (у тыс. фунт. стэр.) | 317 | 193 | 283 | 177 | 271 | 175 |
| Тавараў у складах „ „ „ | 689 | 532 | 634 | 488 | 604 | 328 |
| Звароты т-ва гуртавых закупак (у тыс. фунт. стэрлінгаў) | 3651 | 1837 | 3405 | 1654 | 3227 | 1560 |

Наконт Чэскае часткі руху трэба зрабіць наступныя тлумачэньні: Цэнтральны саюз Ustredni svaz Československych Druźstev у Празе зьяўляецца унівэрсальным каапэрацыйным саюзам, які злучае 1300 розных т-ваў. Побач з вышэй паказанымі 328 спажыв. т-вамі сюды ўваходзяць 250 вытворчых т-ваў, 250 будаўнічых і жыльлёвых т-ваў і каля 200 сельска-гаспадарчых т-ваў.

Сьцісла зьвязана з ім, але ў сэнсе арганізацыйным зусім самастойна т-ва гуртавых закупак Velkonakupni Spolecnost Konsumnich Druźstev якое мае сваё праўленьне ў Празе. Яно мае пятнаццаць фабрык з 1000 рабочых. З паказанага вышэй звароту—20 проц. прыпадае на ўласную прадукцыю. Нямецкія спажыв. т-вы ўваходзяць у „саюз нямецкіх гаспадарчых т-ваў „Verband deutscher Wirtschaftsgenossenschaften“ у Празе. Т-ва гуртавых закупак нямецкіх спажыўт-ваў, зарэгістраванае ў 1927 годзе (раней яно зьяўлялася т-вам з абмежаванай адказнасьцю) завецца „Гэг“—саюз гандлёвых, закупачных і вытворчых т-ваў у Празе. Яно мае 5 складоў, 9 фабрык і 9 буйных гандлёвых установаў у правінцыі.

Нямецкі саюз выдаў сваю дакладную статыстыку за 1926-27 апэрацыйны год, з якой мы і чэрпаем некаторыя даныя дзеля таго, што яны зьяўляюцца характэрнымі для ўсяго Чэскага каапэрацыйнага руху.

**Нямецкі саюз. спажыв. т-ваў.**

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | Перамены |
|---|---|---|---|
| Спажывецкія т-вы . . . . . . . . | 186 | 173 | — |
| Колькасьць членаў . . . . . . . | 249.000 | 238.000 | —4,45 |
| Разьмеркавальных пунктаў . . . | 1262 | 1272 | +0,78 |
| Агульны зварот (міл. ч. кр.) . . . | 495.537 | 529.410 | +6,40 |

За апошнія гады рух перажыў шэраг цяжкіх крызысаў. Шляхам пэўнага націску ўрад прымусіў каапэратывы зрабіць буйныя назапашаньні мукі. Пасьля гэтага адбылося зьніжэньне цэн, якое паставіла каапэратывы ў вельмі цяжкае фінансавае становішча. Створаны ўрадам „фонд для пакрыцьця пасьляваенных страт“—аказаўся занадта малым.

Надзвычайна цікавае абсьледаваньне, зробленае саюзам для высьвятленьня зваротаў, якія прыходзяцца на кожнага члена. Агульная сума яго дасягае 2.228 чэскіх крон з бяссупыннай тэндэнцыяй да павялічэньня.

Характарным зьяўляецца таксама зьмешчанае ў апошняй справаздачы саюзу абсьледаваньне, якое мела сваёю мэтаю высьвятліць пытаньне, наколькі спажывецкія т-вы рэалізуюць заработную плату рабочых ў Чэхіі.

Паводле гэтых вестак спажыв. т-вы рэалізуюць толькі 10 проц. заработнае платы тых рабочых, якія зьяўляюцца іх пайшчыкамі. А між тым гэтыя апошнія складаюць толькі частку агульнае масы рабочых Чэха-Славаччыны. Аб гэтых выніках у самой справаздачы гаворыцца: гэтая сума да сьмешнага нязначная. Нам яшчэ прыдзецца шмат папрацаваць, каб зрабіцца паважным размяркоўчым фактарам. Абсьледаваньне камэрцыйных вынікаў працы чэскіх спажыв. т-ваў таксама не дае спацяшальнага малюнку. Мы прыводзім лічбы афіцыйнае статыстыкі нямецкага саюзу:

**Гандлёвыя выдаткі спажыв. т-ваў ў проц. адносінах да звароту.**

| | 1927 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| | У процантах | |
| Пэнсіі . . . . . . . . . . . . . | 6,34 | 5.90 |
| Пасыўныя про цант . . . . . . | 1,19 | 1,15 |
| Арэнды . . . . . . . . . . . . | 0,56 | 0,48 |
| Падаткі . . . . . . . . . . . . | 0,22 | 0,15 |
| Розныя . . . . . . . . . . . . | 1,99 | 2,05 |
| **Усе выдаткі разам . .** | **10,30** | **9,73** |

Такім чынам, відаць, што праведзена пэўная рацыяналізацыя. Аднак у выніку недахопаў уласных капіталаў спажыў. т-вы вельмі востра адчуваюць цяжкасьць процантаў на пазычаны капітал, якія робяць вядзеньне іх апэрацый значна даражэйшым.

У т-ве „ГЕГ“ звароты за 1926-27 апэрацыйны год павялічыліся на 5 проц. і злажылі 270.000.000 чэскіх крон. Спажывецкія т-вы на мясцох пакрываюць свае запатрабаваньні на 53,2 проц. праз „ГЕГ“. Уласная вытворчасьць „ГЕГ“ складае прыблізна 30.000.000 чэскіх крон.

У апошні час ужываюцца захады да аб'яднаньня абедзвюх нацыянальнакаапэрацыйных групаў.

Агульны каапэрацыйны банк мае 6,6 мільярда чэскіх крон звароту, пры 29.5 міл. ашчэдных укладаў і 116 міл. ч. кр. выданых пазык.

Акрамя таго, існуе яшчэ каапэрацыйнае страхавое т-ва „Чэхо-Славія“, якое было арганізавана таксама, як і каапэрацыйны банк у 1920 г.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пасьпяховае выкананьне загатовак патрабуе напружаньня усіх сіл каапэрацыйнае грамадзкасьці

### Праўленьням райсаюзаў і спажывецкіх таварыстваў

Надыходзіць час загатоўчае кампаніі. Спажывецкая каапэрацыя зьяўляецца асноўным загатоўшчыкам на Беларусі.

Поўнае і пасьпяховае выкананьне пляну загатовак патрабуе належнае ўвагі і напружаньня усіх сіл каапэрацыйнага апарату і каапэрацыйнае грамадзкасьці.

Улічваючы вялізнае эканамічнае і палітычнае значэньне загатовак, савет і праўленьне Белкаапсаюзу прапануюць правесьці ў сувязі з загатоўчай кампаніяй наступныя мерапрыемствы ў галіне масавае работы:

1. Паставіць на абмеркаваньне сходаў пайшчыкаў (упаўнаважаных), на нарады каапэрацыйнага актыву пляны загатовак спажывецкага таварыства, становішча падрыхтоўкі апарату, лепшага падбору працаўнікоў з пункту погляду іх прыгоднасьці і адданасьці працы, падрыхтоўку складзкіх памяшканьняў, тары і г. д. На гэтых сходах і нарадах трэба добра высьветліць задачы пайшчыкаў і актыву ў напрамку поўнага абхопу хлебных і сырцовых загатовак спажывецкай каапэрацыяй і што трэба рабіць пайшчыкам і актывістым.

Неабходна растлумачваць значэньне загатовак для народнае гаспадаркі СССР і задачы спажывецкае каапэрацыі ў галіне загатоўкі хлеба і сырцу. Таксама трэба весьці растлумачэньне па пытаньнях палітыкі хлебных цэн і цэн на розны сырэц, па тэхніцы і прыёмцы збожжа і сырцу, па пытаньнях таваразабясьпячэньня і г. д. Кожны актывісты павінен весьці растлумачальную работу сярод пайшчыкаў па гэтых пытаньнях і быць прыкладам у галіне здачы збожжа і сырцу ў каапэратыў.

2. Пляны загатовак збожжапрадуктаў і сырцу трэба ўнесьці на разгляд мясцовых савецкіх і грамадзкіх арганізацый і дабіцца поўнага і ўсебаковага падтрыманьня з боку гэтых арганізацый у працягу ўсяго часу загатоўчае кампаніі.

3. Шырока абвясьціць загатоўчыя каапэрацыйныя цэны на збожжа і сырэц па ўсіх вёсках і растлумачваць, што здача збожжа і сырцу па ўстаноўленых цэнах забясьпечвае атрыманьне прамысловых тавараў па даступных для сялянства цэнах і садзейнічае далейшаму зьніжэньню цэн на прамысловыя тавары. Трэба растлумачваць, што падыманьне цэн нявыгодна беднаце і серадняком, якія зьяўляюцца асноўнай масаю спажыўцоў.

4. Бядняцка-серадняцкі актыў пайшчыкаў неабходна прыцягнуць для нагляду за працай загатоўчых пунктаў спажывецкае каапэрацыі і на час загатоўчае кампаніі вылучыць для гэтае мэты на пашыраным пасяджэньні праўленьняў асобныя камісіі з актыву пайшчыкаў, якія прымацаваць да загатоўчых пунктаў. Члены камісіі павінны выконваць сваю працу ў парадку грамадзкае нагрузкі дармова.

5. Там, дзе загатоўкі вядуцца праз агульныя крамы (аддзяленьні) спажывецкіх таварыстваў, наяўныя крамныя камісіі павінны галоўную ўвагу ў працягу ўсяе кампаніі аддаць нагляду і кантролю за належнай арганізацыяй і выкананьнем плянаў загатовак.

6. Ва ўсіх крамах і загатоўчых пунктах спажывецкіх таварыстваў павінны быць на відных мясцох вывешаны плякаты і лёзунгі аб загатоўчай кампаніі, а таксама цэны на асобныя культуры і віды збожжапрадуктаў і сырцу, па якіх спажывецкае таварыства закупляе іх.

7. У хатах-чытальнях, клюбах, чырвоных і каапэрацыйных кутках трэба арганізаваць гутаркі, вечары пытаньняў і адказаў, прысьвечаныя працы мясцовых каапэрацыйных арганізацый у галіне загатоўчае кампаніі, а таксама выдачу даведак і парад па пытаньнях загатоўчае кампаніі мясцоваму насельніцтву. Трэба ў клюбах, хатах-чытальнях, кутках вывесіць плякаты, лёзунгі і пляны загатовак. На працягу ўсяе кампаніі трэба ў мясцовых насьценгазэтах шырока асьвятляць ход загатовак па асобных пунктах і па раёне ўсяго спажывецкага таварыства. Таксама рэкамэндуецца ўвесьці мэтад наглядных дыяграм, якія-б характарызавалі намечаны плян загатовак і ход яго выкананьня.

8. Пэрыодычна, ня менш як два разы ў месяц, абмяркоўваць на пашыраных пасяджэньнях праўленьняў спажывецкіх таварыстваў з удзелам актыву ход і вынікі

загатовак у раёне дзейнасьці таварыства. Трэба дасканала кожны раз высьвятляць прычыны, якія маюць уплыў на марудны або слабы ход і невыкананьне намечаных плянаў загатовак.

9. У сувязі з тым, што вялікую ролю ў хлебазабесьпячэньні працоўнага насельніцтва мае поўнае паступленьне памольнага збору ў спажывецкія таварыствы, згодна належных умоў спажывецкіх таварыстваў з млынамі, неабходна гэта шырока растлумачваць насельніцтву з тым, каб попярэдзіць і не дапушчаць адыходу на бок некаторае часткі памольнага збору.

10. Неабходна ў групах і на сходах беднаты растлумачваць значэньне хлебазагатоўчае кампаніі для народнае гаспадаркі і абмяркоўваць меры пасьпяховага правядзеньня кампаніі бесьперабойнага забесьпячэньня беднаты хлебам у даным раёне.

Неабходна дабіцца, каб бядняцкія і серадняцкія масы пайшчыкаў і сялянства ўсямерна садзейнічалі пасьпяховаму правядзеньню загатовак спажывецкае каапэрацыі ў працягу ўсяго часу кампаніі. Гэта ў сваю чаргу павінна забясьпечыць ізаляцыю кулацтва і прыватных гандляроў ад спроб зрываць і шкодзіць каапэрацыйным загатоўкам.

11. Каапэрацыйны апарат павінен быць прыкладам уважлівых адносін да пайшчыкаў, да сялянства на загатоўчых пунктах і ў крамах спажывецкіх таварыстваў. З выпадкамі зьневажаньня, грубасьці, безгаспадарчасьці, бюракратызму на загатоўчых пунктах і ў крамах, дзе вядуцца загатоўкі, павінна весьціся самая рашучая барацьба з боку праўленьняў, рэвізійных камісій і ўсяе каапэрацыйнае грамадзкасьці.

12. Неабходна, каб рэвізійныя камісіі ўзмацнілі тэмп свае працы ў часе загатоўчае кампаніі, праводзілі сыстэматычныя рэвізіі загатоўчых пунктаў, правяралі правільнасьць разьлікаў са здатчыкамі, хаваньне збожжа і сырцу, адносіны да здатчыкаў і г. д.

13. Інструктарскі і ўвесь арганізацыйны апарат райсаюзаў і аддзяленьняў БКС павінны сканцэнтраваць сваю ўвагу ў працягу бліжэйшага часу:

1) на інструктаваньні спажывецкіх таварыстваў у галіне правядзеньня загатоўчае кампаніі;

2) на праверцы выкананьня спажывецкімі таварыствамі зацьверджаных плянаў загатовак;

3) на сталым наглядзе за дзейнасьцю кожнага спажыв. таварыства ў галіне загатовак, уліку ходу загатовак, уліку недарэчнасьцяй і перашкод у загатоўчай кампаніі з мэтай іх тэрміновага ліквідаваньня.

Уся сыстэма спажывецкае каапэрацыі Беларусі павінна ажыцьцявіць у наступнай кампаніі лёзунг аб 100-проц. выкананьні загатоўчых плянаў.

Старшыня Савету Белкаапсаюзу *Васілевіч.*

Старшыня праўленьня Белкаапсаюзу *Наўлянскі.*

---

# Усім спажыўсаюзам і аддзяленьням Белкаапсаюзу

Зьмяшчаючы ніжэй копію пастановы па нашым дакладзе ў калегіі НК РСІ БССР, прапануецца В/распрацаваць, выходзячы з гэтае пастановы, шэраг практычных мерапрыемстваў для папярэджаньня і зьнішчэньня растрат і крадзяжоў па Вашай сетцы.

**Заг. Аргкіраўніцтвам БКС (Хаськін).**

**Сэкратар (Садоўскі).**

**Дадатак да пратаколу № 50 калегіі НК РСІ БССР ад 6 верасьня 1928 г.**

## ПРА РАСТРАТЫ Ў СПАЖЫВЕЦКАЙ КААПЭРАЦЫІ.

### Прапанова.

Заслухаўшы даклад аб растратах і крадзяжох нізавое сеткі спажывецкае каапэрацыі БССР, калегія НК РСІ адзначае павялічэньне растрат за апошнія тры кварталы 1927-28 года ў параўнаньні з гэтым пэрыодам 1926-27 г. і што найбольшая колькасьць растрат падае не на выбарны, а на наёмны пэрсанал (прадаўцы), што тлумачыцца:

а) недастатковай увагай справе падбору працаўнікоў, асабліва наёмнага пэрсаналу, і слабасьцю кантролю як з боку акруговых і раённых саюзаў і аддзяленьняў, так і з боку рэўкамісій;

б) слабым завастрэньнем грамадзкае думкі вакол пытаньняў растрат і несваечасовым разглядам спраў растратчыкаў судовымі органамі і несваечасовай перадачаю справы ў судовыя органы, дзякуючы чаму разгляданыя позна судовыя справы ня маюць таго значэньня, якое яны павінны былі мець;

в) мясцовыя рэўкамісіі, дзякуючы слабай працы, а таксама слабай іх кваліфікацыі, не маглі сваечасова выяўляць растратчыкаў, якія ўжывалі шэраг камбінацый, недастаткова прыкметных для слаба падрыхтаваных сяброў рэўкамісій;

г) уся сыстэма спажывецкае каапэрацыі за апошні год пытаньнем барацьбы з растратамі займалася недастаткова;

д) дзякуючы недастатковай падрыхтаванасьці рахунковых працаўнікоў спажывецкіх таварыстваў, ствараюцца ўмовы, якія спрыяюць растратам.

У далейшым неабходна:

1. Белкаапсаюзу і райспажыўсаюзам зьвярнуць увагу на лепшы падбор працаўнікоў для спажывецкіх таварыстваў, у асаблівасьці прадаўцоў. Перавыбарчую кампанію, што надыходзіць, скарыстаць для высоўваньня больш падрыхтаваных людзей у члены праўленьня і рэўкамісій і ў працягу працы паднімаць іх кваліфікацыю.

2. Узмацніць працу інструктарскага апарату па правядзеньні сыстэматычных рэвізій спажывецкіх таварыстваў. На вёсцы, як правіла, кожнае спажывецкае таварыства павінна быць абрэвізована з боку саюзу ці аддзяленьня ня менш як адзін раз у год.

3. Рэвізійным камісіям узмацніць сваю працу па сыстэматычнай праверцы становішча спажывецкіх таварыстваў, уцягваючы ў сваю працу шырокія колы каапэрацыйнага актыву.

4. Вакол кожнага факту растраты ствараць грамадзкую думку шляхам асьвятленьня ў друку. праз сходы пайшчыкаў і ўпаўнаважаных і шырокага асьвятленьня перад пайшчыкамі вынікаў рэвізіі і ўцягненьня для ўдзелу ў рэвізіях каапактыву.

5. НКЮ зьвярнуць увагу судовых органаў на больш хуткі разгляд спраў растратчыкаў, ствараючы вакол характэрных фактаў грамадзкую думку шляхам разгляду спраў на мясцох з шырокім прыцягненьнем насельніцтва.

6. Белкаапсаюзу сачыць за тым, як выконваецца на мясцох грамадзкі іск спажыўтаварыстваў да растратчыкаў.

7. Белкаапсаюзу даць паказаньні сетцы аб узмацненьні нагляду за гандлёвымі памяшканьнямі з мэтай іх аховы ад крадзяжоў.

8. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на падвышэньне кваліфікацыі рахунковых працаўнікоў і п ляпшэньне пастаноўкі рахункаводзтва.

---

# Рэзалюцыя

## III Сэсіі Савету Белсампрамсаюзу па пытаньні аб упарадкаваньні мястэчак

Заслухаўшы арганізацыйныя мерапрыемствы Белсампрамсаюзу па падрыхтоўцы ўсяго пытаньня, зьвязанага з упарадкаваньнем мястэчак згодна пастановы СНК, Сэсія лічыць неабходным:

1. Вышукаць сродкі для папаўненьня сум, якія адпушчаны ўрадам на гэтую мэту.

2. Да канца гаспадарчага года цалкам аформіць працу ўсяго намечанага пляну, забясьпечыўшы арцелі дастатковым крэдытам і сыравінаю, а таксама, дзе трэба, збытам.

3. З прычыны таго, што гэтыя мястэчкі павінны зьявіцца ўзорам для ўпарадкаваньня і іншых, Сэсія лічыць вельмі важным частае інструктаваньне ў гэтых мястэчках, а таксама шырокае асьвятленьне ў друку ўсяго ходу каапэраваньня ў іх.

4. Сэсія даручае праўленьню Белсампрамсаюзу падрыхтаваць да зьезду падрабязны даклад аб прароблена працы ў мястэчках.

---

# БАЛ

## Могилевского окружного союза сельско-хозяй

**АКТИВ.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **I. Оборотные материальные ценности.** | | | | |
| 1. Касса | 2.864 | 54 | | |
| 2. Текущие счета | 17.299 | 96 | | |
| 3. Товары снабжения | 125 304 | 52 | | |
| 4. „ сбыта | 10.992 | 02 | | |
| 5. „ в пути | 5.493 | 50 | | |
| 6. Молочные продукты | 1.360 | 98 | | |
| 7. Товары в розничн. магазинах | 479 | 72 | | |
| 8. „ принятые на комиссию | 21.565 | 41 | 185.360 | 65 |
| **II. Права и обязат. по денежным кредит.** | | | | |
| 9. Ссуды долгосрочн. выданные | | | 59.443 | 50 |
| **III. Вексельные права и обязательства.** | | | | |
| 10. Векселя в портфеле | 26 984 | 11 | | |
| 11. „ в учете | 157.812 | 24 | 184.796 | 35 |
| **IV. Документы на инкассо** | | | 1.507 | 26 |
| **V. Права и обязат. по открытым счетам.** | | | | |
| 12. Авансы на заготовки выданные | 90.876 | 05 | | |
| 13. „ „ „ полученные | 170 | 17 | | |
| 14. Члены союза | 36.631 | 20 | | |
| 15. Белсельсоюз | 578 | 06 | | |
| 16. Кооперативные центры | 65 | 34 | | |
| 17. Другие кооперативные организации | 31.569 | 02 | | |
| 18. Госорганы | 29.811 | 43 | | |
| 19. Задатки выданные | 75 | — | | |
| 20. Разные лица и учреждения | 4.127 | 79 | | |
| 21. Подотчетные лица | 2.539 | 25 | | |
| 22. Рабочие и служащие | 447 | 83 | | |
| 23. Сомнительные долги | 6.239 | 93 | | |
| 24. Безнадежные долги | 33 | — | 203.164 | 07 |
| **VI. Внеоборотные ценности и резервы.** | | | | |
| 25. Ценные бумаги | 261 | — | | |
| 26. Паи в других учреждениях | 33.157 | 86 | | |
| 27. Имущество | 10.544 | — | 43.962 | 86 |
| **VII. Капиталы и результаты.** | | | | |
| 28. Расходы будущих лет | 25.635 | 12 | | |
| 29. Убытки прошлых лет | 29.007 | 59 | | |
| 30. Убытки текущего года | 83.427 | 53 | 138.070 | 24 |
| БАЛАНС | — | — | 816.304 | 93 |

Председатель Правления *Каплунов* Члены Правления {

# АНС

стленной кооперации на 1-е октября 1927 года

**ПАССИВ.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **I. Права и обязат. по денежным кредитам.** | | | | |
| 1. Ссуды краткосрочные полученные . . | 29.500 | — | | |
| 2. „ долгосрочные . . . . . . . . . | 100.483 | 73 | | |
| 3. Банки по учету . . . . . . . . . . . | 157.812 | 24 | 287.795 | 97 |
| **II. Вексельные права и обязательства.** | | | | |
| 4. Векселя выданные . . . . . . . . . . . | | | 203.315 | 16 |
| **III. Права и обязат. по открытым счетам.** | | | | |
| 5. Авансы по заготовкам выданные . . . . | 8.074 | 94 | | |
| 6. „ „ „ полученные . . | 13.727 | 59 | | |
| 7. Члены союза . . . . . . . . . . . . | 42 682 | 48 | | |
| 8. Кооперативные центры . . . . . . . . | 8.966 | 79 | | |
| 9. Другие кооперативные организации . . | 13.014 | 81 | | |
| 10. Госорганы . . . . . . . . . . . . . | 17.897 | 90 | | |
| 11. Задатки полученные . . . . . . . . | 1.200 | — | | |
| 12. Разные лица и учреждения . . . . . | 11.048 | 82 | | |
| 13. Подотчетные лица . . . . . . . . . | 578 | 31 | | |
| 14. Рабочие и служащие . . . . . . . . | 351 | 32 | | |
| 15. Комитенты . . . . . . . . . . . . | 21.565 | 41 | 139.108 | 37 |
| **VI. Переходные суммы** . . . . . . . . . . | | | 788 | 69 |
| **V. Капиталы и результаты.** | | | | |
| 16. Капитал основной . . . . . . . . . . | 18.275 | 33 | | |
| 17. „ заемный . . . . . . . . . | 49.884 | — | | |
| 18. „ паевой . . . . . . . . . . | 63.728 | 01 | | |
| 19. „ специального назначения . . . | 40.968 | 29 | | |
| 20. „ запасной . . . . . . . . | 1.229 | 09 | | |
| 21. „ амортизационный . . . . . . | 5.681 | 18 | | |
| 22. Доходы будущих лет . . . . . . . . | 5.530 | 84 | 185 296 | 74 |
| БАЛАНС . . | — | — | 816.304 | 93 |

*Лысенков*
*Бененсон*

Бухгалтер *Кирик*

# Да ўсіх каапэрацыйных арганізацый БССР

## Паважаныя таварышы!

У абставінах савецкага гаспадарчага і дзяржаўнага будаўніцтва на долю бухгальтарскага падліку выпала надзвычайна выдатная і адказная роля.

У зьвязку з гэтым жыцьцё запатрабавала ад працаўнікоў рахунковае справы ня толькі старанна набытых практычных навычак, любасьці да працы і акуратнасьці, але высунула вымаганьне сьвядомасьці ў працы, разуменьня важнасьці задач, якія стаяць перад працаўнікамі падліку, крытычнай ацэнкі мэтадаў і прыёмаў, спрытнасьці ў іх ужываньні пры найвялікшай ашчаднасьці працы і часу.

Рахунковы апарат амаль цалкам мае працаўнікоў, выхаваных зусім у іншых умовах, і таму аказаўся ў значнай ступені не падрыхтаваным да гэтых вымаганьняў.

Недастаткова падрыхтаванай прыходзіць і бухгальтарская „зьмена“—маладое пакаленьне бухгальтароў і рахункаводаў.

Нашы цэнтральныя і акруговыя гаспадарчыя арганізацыі робяць спробы дапамагчы шырокаму імкненьню працаўнікоў сваіх нізавых ячэек падвысіць сваю кваліфікацыю шляхам арганізацыі кароткатэрміновых курсаў.

Што можна пасьпець за 1 – $1^1/_2$ мес., пры тым пры дадатковай нагрузцы іншымі, апроч рахункаводзтва, заняткамі? Вельмі мала!

Апрача таго, на гэтыя курсы ня могуць папасьці ўсе. Сюды пападае толькі меншасьць. Што рабіць тым, хто жадаў-бы падвысіць сваю кваліфікацыю ці падрыхтавацца да працы ў якасьці рахункавода, калькулятара ці статыстыка? Яны пакуль што ў цяжкім становішчы.

Спэцыяльныя курсы арганізаваны пакуль што ў нямногіх пунктах, ды і тыя прымушаны весьці працу ў цяжкіх абставінах дзеля адсутнасьці належных памяшканьняў, іх сьцісласьці і г. д.

Некаторыя едуць вучыцца ў Ленінград і Маскву, але гэта каштуе дорага і даступна вельмі нямногім.

Ідучы на спатканьне запатрабаваньням шырокіх мас, якія жывуць у правінцыі і якія, дзякуючы наяўнасьці ў іх працы, ня маюць магчымасьці паступіць на курсы, Наркамасьветы БССР адчыніў у Менску з а в о ч н ы я к у р с ы б у х г а л ь т э р ы і, к а л ь к у л я ц ы і і с т а т ы с т ы к і.

Мэтаю курсаў зьяўляецца падрыхтоўка і перападрыхтоўка працаўнікоў усіх відаў каапэрацыі ў галіне рахункаводзтва, калькуляцыі і статыстыкі. Адчыненыя завочныя курсы ў Менску значна адрозьніваюцца ад завочных курсаў іншых рэспублік. У той час як курсы ў іншых рэспубліках рыхтуюць працаўнікоў пераважна аднае кваліфікацыі, менавіта—працаўнікоў рахункаводзтва, адчыненыя ў Менску курсы рыхтуюць працаўнікоў адначасова трох спэцыяльнасьцяй. Усім добра вядома, што каапэрацыйным працаўніком на мясцох даводзіцца весьці ня толькі рахункаводзтва, але і складаць калькуляцыі, а таксама і статыстычныя справаздачы. Значыцца, працаўнік на месцы павінен быць ня толькі рахункаводам, але і калькулятарам і статыстыкам.

Тэрмін навучаньня на курсах установлены ў 8 месяцаў. Вучэбны год не падзяляецца на вызначаныя тэрміны. Паступаць на курсы і пачынаць працу можна ў любы месяц году.

Курсантам, якія прашлі курс заняткаў і выканалі адпаведныя кантрольныя працы, выдаецца ўстаноўленае пасьведчаньне аб сканчэньні курсаў.

Зьвяртаючыся з гэтай адозваю, цэнтральныя каапэрацыйныя арганізацыі БССР рэкамэндуюць як паасобным каапэрацыйным працаўніком, гэтак і арганізацыям зрабіцца падпісчыкамі завочных курсаў. Таварыствы могуць выпісаць лекцыі за кошт апошніх паводле пастановы праўленьняў.

Са свайго боку, прэзыдыум курсаў ужывае ўсе захады, каб гэтыя курсы далі поўную магчымасьць падпісчыкам грунтоўна і ўсебакова прайсьці асновы рахунковае справы шляхам тэорытычнага вывучэньня большае колькасьці матар'ялу для практычнае падрыхтоўкі ўсіх пытаньняў. Важна, каб сыстэма курсаў дазволіла падыйсьці да масавага вывучэньня рахункаводзтва, калькуляцыі і статыстыкі, правільная пастаноўка якіх так патрэбна каапэрацыйным арганізацыям усіх сыстэм.

Плата (у месяц 5 руб.) пераводзіцца ў пачатку кожнага месяца па адрэсу—„Менск, Усекабанк, бягуч. рахунак № 682, а запытаньні—Менск, Усекабанк, завочныя курсы.

Падрабязнае палажэньне аб курсах надрукавана ў журнале „Шлях Коопэрацыі“, № 6 (66), за красавік месяц г. г.

Старшыня Белсельбанку (*Подпіс*)
Старшыня БКС (*Подпіс*)
Старшыня Белсельсаюзу (*Подпіс*).

**Прэзыдыум курсаў.**

*Адказны рэдактар А. ФРЫД*

*Выдавец—Цэнтральны Каапэрацыйны Савет БССР*

**ЦАНА 40 КАП.**

**Бюлетэнь каапэрацыйных цэнтраў Беларусі, Белсельбанку і Ўсекабанку**

# „ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ"

**„ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ"** зьяўляецца адзіным друкаваным органам **усіх відаў каапэрацыі Беларусі.**



**…оопэрацыі"** **зьмяшчае кіраўнічы, інструкцыйны, даведачна-юрыдычны і інфармацыйны матар'ялы,** якія асьвятляюць дзейнасьць усіх відаў беларускае каапэрацыі.

**…пэрацыі"** мае наступную праграму: 1) кіраўнічыя артыкулы па асноўных пытаньнях усіх сыстэм каапэрацыі БССР; 2) каапэрацыйная практыка па розных чарговых пытаньнях каапбудаўніцтва; 3) інфармацыя аб працы ўсіх каапцэнтраў, акруговых каапарганізацый і ЦРК; 4) агляд становішча паасобных каапэрацыйных сыстэм па акругах; 5) афіцыйна-юрыдычны аддзел.

**…пэрацыі"** зьяўляецца настольным кіраўніком і пільна патрэбным даведнікам для кожнага каапэрацыйнага працаўніка.

**…пэрацыі"** выходзіць 1 раз у месяц і каштуе: на 1 мес. - 40 к., 3 мес.—1 р. 20 к., 6 мес.—2 р. 25 к., 12 мес.—4 р. 25 к.

## ПАДПІСКА НА „ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ"

**прыймаецца ва ўсіх каапэрацыйных арганізацыях, усімі інструктарамі, а таксама ўсімі паштовымі ўстановамі Беларусі.**

**Рэдакцыя: Менск, Савецкая, 43. Бяг. рах. у Ўсекабанку № 117.**